# Содержание

Ніколі яшчэ тленьне не рабіла твар такім прыгожым. Бледная скура набыла сьвінцовае адценьне навальнічнай хмары, нос завастрыўся і нагадваў арліны, высокія скулы, абцягнутыя плоцьцю, падкрэсьліваў чорны цень барады. Мяккія хвалі чорных валасоў абрамлялі высокі лоб, на якім сьмерць пакінула свае халодныя пацалункі.

Рукі, цёмныя, складзеныя на грудзях, уражвалі сваёй магутнасьцю. Можа, з-за холаду, а можа з-за якаснага бальзамаваньня, смуроду не было. Калі нахінуцца, адчуваўся тонкі, востры водар, саладкаваты пах каштоўнага дрэва. Мужчына нібыта спаў. Твар яго быў велічны і горды.

- Твар караля, - падумалася Джаваньні.

- Выгружайце цела, - коратка вымавіў ён.

Рабочыя дасталі з машыны невялікі белы гроб - просты драўляны яшчык, у якім, як дарагая лялька, ляжала прыгожая дзяўчына. Яе твар быў чыстым і белым, вочы закрытымі, і доўгія чорныя вейкі кідалі густы цёмны цень на ружовыя шчокі. Хвалі доўгіх чорных валасоў, як карункі, атачалі твар і плечы, рукі былі зложаны на грудзях, але ж адна зь іх апусьцілася на ўлоньне, як падсечаная бледная кветка. Другая рука накрывала сэрца, быццам бы на ім пад ёй схавалася маленькае птушаня. На шыі дзяўчыны блішчэў дыямантавы крыжык, атласная сукенка была белай, як сьнег.

Джаваньні нахіліўся над гробам.

- Донна Летыцыя, якая прыгажосьць ... ціха вымавіў ён. - Вы і пры жыцьці былі анёлам, мілая донна. А цяпер вы сапраўды багіня. Дзева, адвечная ў сваім харастве. Вы цяпер вандруеце далёка, донна. Я ж прыйшоў, каб выканаць наканаванае.

З гэтымі словамі ён нахіліўся, і ўзьняў цела. Па групцы рабочых прайшоўся ўздых. Высокі юнак у чорнай скураной вопратцы узьняў руку да ілбу.

Джаваньні глянуў на яго, і ўсьміхнуўся.

- Хочаш стаць сьвятаром, Крысьціян? - кпліва запытаў ён.

- Манахам, - коратка кінуў той.

Джаваньні моўчкі павярнуўся, і панёс цела да труны, якая, узьнятая, вагалася перад ім на ланцугах.

Асьцярожна ён апусьціў тонкае дзявочае цела ў труну. Маленькая галоўка лягла на плячо мужчыны, белая ручка накрыла яго цёмную, амаль чорную руку. Джаваньні таксама перахрысьціўся, набожна. Раптам на сонца насунулася хмара, пацямнела, і загуў вецер. Сыпануў сьнег. У надыйшоўшым паўзмроку яму здалося, што твар мужчыны асьвятліла ледзь заўважная вусьмешка. Чорная вялікая рука накрыла маленькую белую. Мужчына павярнуўся, абняў цела, і прыцягнуў яго да сябе.

- Сьмерці няма, Джаваньні, - пачуў ён знаёмы голас. Мяккі, спакойны. Сьцьвярджаючы.

- Так, Мікеле. Там, дзе ёсьць каханьне, няма сьмерці, вымавіў ён. Апрануў шляпу, павярнуўся, і махнуў рукой. Крышку закрылі, і сьняжынкі хутка зацягнулі яе белай пацінай.

Джаваньні яшчэ пастаяў, слухаючы, як глеба стучыць па ёй - як глухія ўдары вялікага сэрца, разьвярнуўся, і пайшоў да машыны.

- Каханы, хутчэй, мы спазьняемся! Стройная чорнавалосая джяўчына ў мяккім кашэміравым швэдары стаяла ля кучы чамаданаў - вялікага і маленькага, і яшчэ аднаго прамежкавага памеру.

Высокі ж мужчына побач, здаецца, нікуды не сьпяшаўся. З асалодай зацягнуўся цыгарэтай, падставіў вясноваму сонцу твар.

- У нас яшчэ ёсьць час, каханая. Не хвалюйся. Проста бясконцасьць часу. Ён патушыў акурак, нахінуўся, і абняў яе.

Важкая жанчына збоч фыркнула, і падхапіла нейкія торбы і клункі, перавязаныя рэмнямі. Перакінула іх на плячо, і адразу

стала падобнай на вярблюда.

- Давай шавяліся, - сувора вымавіла яна. - Я дамоў хачу. Не жадаю яшчэ дзень тут тырчэць. Месца паганае, горад цісьне. Пайшлі, і праўда.

Нібыта пачуўшы яе словы, зверху адгукнуўся прыгожы жаночы голас.

- Пачынаецца пасадка на рэйс нумар ... Осла-Стамбул.

Мужчына лёгка падхапіў рэчы.

- Пайшлі, прыгажуні. Радзіма кліча. Ён шырока і хутка пакрочыў у накірунку, паказаным табло.

Дзяўчына падбегам рушыла побач, толькі чамаданьчык бразгаў калёсікамі.

Жанчына з сумкамі і клункамі крочыла збоч, яе вялікі чамадан бразгацеў ззаду.

- Ганна, што ты там нагрузіла. Дай, я панясу. Ён спыніўся, і працягнуў руку. Жанчына ўчапілася ў вісячыя на ёй торбы.

- Гэта ручная кладзь, - громка вымавіла яна. Не чапай! Ты яшчэ ледзь стаіш. Калі аперацыя была?

- Давай сюды. Ён лёгка зьняў зь яе рэмень, на якім боўталіся дзьве сумкі, і перакінуў яго праз шырокае плячо.

- А ты мяне што, ужо пахавала? Ён шырока усьміхнуўся.

- Ты сам сябе пахаваў, - кпліва вымавіла Ганна.

- Пайшлі, прашу вас. Рэгістрацыя ўжо пачалася! Дзяўчына пацягнула яго за руку, і ўсе трое падхапіліся ізноў, і хутка пакрочылі ў накірунку стойкі, дзе ўжо сабраўся немалы натоўп чарнявых пасажыраў.

Кучаравы мужчына ў чорным касьцюме заўважыў іх, і махнуў, праходзячы, рукой. Высокі чалавек усьміхнуўся, і махнуў яму ў

# Глава 1: Ціp

Цяжкія дубовыя дзьверы пакою распахнуліся, і на парозе з'явіўся чалавек. Высокі, загароджваючы дзьвярны праём, быццам бы каменная скала раптам узьнялася зь зямлі, прабіўшы падлогу. Чалавек быў апрануты ў ваўчыныя скуры. Ён выглядаў, як звер, і пах, як зьвер - вострым пахам драпежніка, ад якога цела пакрывалася мурашкамі, а сэрца замірала, халадзела ад небясьпекі. Ён і ўвайшоў сюды, як зьвер, - падумала яна. Бяз стуку, ня выбачыўшыся, не запытаўшы дазволу. Дарэчы, стуку і грукату было шмат - на двары заціхала бойка. Было слышна, як валачылі целы. Выцягнулі і зарэзалі на двары яе гаспадара - яна бачыла ў вакно. Цяпер гаспадар у яе быў новы. Гэты? Ці гэта проста вой, і гаспадар войдзе за ім сьледам?

- Tu esta una Wikka. Da Wikka, - пачула яна яго голас. Прыемны, нізкі. Чалавек усьміхаўся. А потым зрабіў крок да яе. Яна зразумела, што ён хоча, па яго шалёных сініх вачах, у якіх быццам плёскалася мора, якое яна перасекла.

- Хачу цябе. Гэтыя яго словы яна зразумела бяз слоў. Яны палыхнулі маланкамі жарсьці, звузіўшы яго позірк, прагны, ваўчыны, зь якім ён вывучаў яе цела. А яшчэ ў іх быў розум - чалавечы, і ўлада, ад якой у яе апусьціліся рукі.

Яна верыла ў Бога, і Бог яе не захінуў. І вось цяпер яна тут, у гэтых дзікіх лясах. А Бог ... Бог, пэўна, далёка. Раптам яна зразумела, што тут яго няма. Няма яе Бога. Тут валадараць багі іньшыя, драпежныя, сівыя, якія яго ня ведаюць - сонечнага Бога поўдня, расьпятага на крыжы.

Вусны чалавека прыціснуліся да яе вуснаў. Рукі лёгка разарвалі адзеньне, агаліўшы яе цела, далоні сьціснулі грудзі. Яна не супраціўлялася. Колькі іх ужо было. Хацелі давезьці цнатлівай, ды не давезьлі. Потым нейкая бабка зашыла яе. Але ж - ізноў дарма. Добра ўсё ж, что гэта чалавек, а ня воўк. Яго вусны былі мяккімі, а цела вострa пахла маладым мужчынскім целам. Ён

быў рады, што атрымаў яе - такі скарб. Усе яны лічылі яе скарбам - яна была дарагой. Таму што яна была прыгожай. Яе блаславеньне, і праклён - пераходзіць з рук у рукі, ад гаспадара да гаспадара, як каштоўны трафей. Ён быў высокі - яна ледзь дасягала галавой да яго грудзей. І голы пад сваімі шкурамі. Яго цела было маладым і гладкім, мышцы хадзілі буграмі. Ён прыціснуўся тварам да яе шыі, убіраючы скуру, быццам бы хацеў пракусіць яе. Яго плоць яна магла добра бачыць, ён і не хаваўся. Вялікая, можа, удвая больш за звычайную. Яна расслабілася, і аддалася яго рукам і губам. Ён паваліў яе на ложак, груба сьціскваючы і ўбіраючы грудзі, а потым увайшоў у яе. Яна закрычэла, але ён нібыта ня чуў. Яго цела рухалася на ёй, сьцёгны хадзілі, як поршні. Яна адчувала, як па яе нагам бяжыць кроў. Яго чэлес разрываў яе, аграменны, напружаны, ён стагнаў і рычэў ад жарсці. А потым хутка выліўся, і заціх. У дзьверы больш ніхто не заходзіў. Пэўна, гэта быў галоўны, зразумела яна.

Яны рухаліся лесам, хутка, па вузкай зарослай сьцяжыне. Здаецца, ваяры былі устрывожаныя, напалоханыя. Яны гаварылі аб нечым, што яна не разумела. А потым, на адлегласьці, пачуўся ваўчыны вой. І ён набліжаўся.

Ваяры згрудзіліся ў круг, ашчэрыўшыся мячамі. Першая страла з гушчару ўтыкнулася ў глаз чалавека, які стаяў побач з Олафам - так звалі яе гаспадара.

Потым прыляцела яшчэ, і яшчэ адна. Пачуліся крыкі і стогны. Людзі пачалі падаць. Але ж раптам дождж стрэлаў спыніўся, раптоўна, як і пачаўся. І тады яна ўбачыла яго.

Чалавек выйшаў з гушчару, як вялікі чорны цень, на галаву вышэй за самага высокага ваяра іх атраду. Яго постаць мякка рухалася ў цемры, ступаючы па мху. Здаецца, у руках яго нічога не было. Ваяры замёрлі, быццам бы іх нечакана скаваў люты холад. І тут чалавек завыў. Страшна, так, як вые драпежная вялікая жывёла. І рухануўся наперад. Яна ня бачыла, што адбылося, але ж рука ваяра побач адляцела разам зь мячом. Галаву другога крутанула і адарвала ўдарам вялікай рукі. Яшчэ адзін ваяр зваліўся, трымаючы разарваныя вантробы. Астатнія шалёна адбіваліся ад накрыўшага іх чорнага патоку ці то

людзей, ці дземанаў, які моўчкі зносіў і раськідваў астаткі целаў.

Хутка рэшткі іх атраду зьвязалі, і пакідалі на зямлю. Яна засталася адна, і цяпер яны глядзелі вочы ў вочы. Раптам яна ціха ўскрыкнула, і ў яе захапіла подых. Чалавек гэты быў ёй вядомы, але дзе яна яго бачыла раней? Ён падыйшоў да яе, і яна адчула яго рукі вакол. Яго позірк пражыгаў яе, і ў яго вачах было нешта іньшае - ня тое, што ў астатніх. Ён нібыта бачыў яе наскрозь. Яна кахае яго, зразумела яна. Даўно. І ён яе кахае. Рукі мужчыны сарвалі зь яе футра, якое лягло на зямлю. Хутка на ім апынулася яна, і ён апусьціўся на яе. Яго сьцягно рассунула яе сьцёгны, і ў яе ўвайшла яго плоць. Неба закружылася над ёй, і яна ўкрыкнула ад болю. Ён рухаўся ў ёй, незважаючы на яе крыкі і сьлёзы, гвалцячы яе, уціскваючы ў вільготную глебу. Ваяры стаялі вакол, і білі па шчытах сякерамі.

Хутка ён сконьчыў, і ўзьняўся. Узьняў яе, разам з футрам, і падняў на рукі. Узьняў над галавой.

- Вульфдацір! Вульфдацір! - пачула яна.

- Хто ты? - ціха запытала яна яго, лежачы ля яго грудзей. - Хто ты, бо я цябе ведаю.

Ён нахінуўся, і крануў вуснамі яе вусны.

- Dievas. Deus. As est. Пачула яна яго нізкі, густы голас.

- Глядзі на вагонь, дзяўчынка. Глядзі на вагонь, каханая. Ён рухаецца ў ёй, яго плоць штурхае яе, і яна бачыць полымя, якое паўстае перад ёй сьцяной. Яно мяккае, шаўковае, прыемнае. Не апальваючае яе. І яна здаецца яго рукам, яго рухам, і яго полымю, якое залівае яе ўсю, перацякаючы зь яго ў яе. Языкі полымя лашчаць, ліжуць яе скуру. Але ж не кранаюць яе, а наадварот, песьцяць. Па яе целу ходзяць хвалі асалоды. Яна абуджаецца, пераходзіць з той рэальнасьці ў гэтую.

Ён глядзіць на яе, усьміхаючыся, а яна ляжыць у яго руках.

- Я – Крыве-Крывейта, - ціха кажа ён. - А ты - мая каханая. Мая жонка перад зямлёй і небам, і вадой і агнём, і ўсімі багамі. Бо я - Бог адзіны, той, што ўчалавечаны тут, на зямлі. У Крыве-Крывейта сыходзіць Бог, і Бог застаецца ў ім, пакуль Крыве не ўзыходзіць на касьцёр. Я - жрэц, Крыве, і айцец мой быў Крыве, і сын мой будзе Крыве. Прышлых жа багоў я не баюся. Не баюся багоў поўначы, і Бога поўдня. Бо расьпяты - мой сын, якога я ахвяраваў самому сябе ў сьвеце. Сын уваскрасае, так сама, як і ўваскрасае сонца пасьля зімовага сну. І толькі Айцец адвечны. Я, Крыве, нашу Айца ў сабе. І цяпер мы будзем вучыцца дарослым таямніцам, сонейка. Таямніцам Бога сапраўднага, які ёсьць Усё - увесь сьвет. Ён у камянях, і ў агні, і ў вадзе, і ў небе, але ж яны - ня ён, так, як адзеньне не зьяўляецца целам. Але ж Крыве бачыць у вадзе кроў Бога, у зямлі яго плоць, і пот у дажджы, і яго сьлёзы, і яго подых - у ветры, і косткі яго - у камянях. І Крыве становіцца яго подыхам, плоцьцю і кроўю, і нараджаецца з улоньня яго водаў, і кожная кропля ў ім становіцца кроўю, потам, сьлязамі і семенем Бога, які арашае праз яго зямлю. Гэта таямніца крыве, і ты цяпер - мать-зямля, і брама, адчыненая мной, і запаленая маім агнём.

- Анёлак мой, таямніцаў на зямлі незьлічона. І ўсе яны мне вядомыя. Бо ж я - Крыве, і нічога ад мяне не схаваць ні на зямлі, ні пад зямлёй.

І мы пройдзем з табой таямніцамі яе нетраў, і глыбіні нябёснай, адчынем іх, і зьяднаемся з сусьветам так, як яднаецца зь ім Крыве.

- Ганна ведае мяне. Ён усьміхнуўся. - Яна знае, хто я. І таму лічыць мяне здраднікам. Крыве, апрануўшы крыж. Насамрэч, ніякай здрады тут няма. Хіба што для яе. Бог валодае ўсім і на зямлі, і на небе. І праз яго Крыве атрымоўвае сваю моц, якая насамрэч моц Бога.

- А хто я, каханы? - ціха запытала яна.

- Маці. Таямніца. Нявеста і жонка. І мой подых. Яго вусны ціха дакрануліся да яе вуснаў.

Ён усьміхаўся - ізноў.

- Чаму ты мяне згвалціў? - запытала яна яго.

- Хацеў. Ня мог утрымацца. Ён прыціснуўся тварам да яе шчакі.
- Як і цяпер не магу ўтрымацца. Яго рукі ахапілі яе, цела накрыла цела. Як неба накрывае зямлю, - падумала яна.

# Глава 2: У замку

- Яна моліцца. Не турбуй яе. Высокі мажны чалавек у чорным аксамітным камзоле і дасьпехах пасунуў яго рукой.

- У мяне тэрміновыя зьвесткі, гаспадар. І панна таксама павінна гэта ведаць. Чорная панна, - выправіўся чалавек. Ён быў худы, высокі, з кучаравымі валасамі і тварам, нагадваючым твар грэцкага бога – Ганімеда ці Меркурыя.

- Панна мае шмат часу. Бо яе час – адвечнасьць. Яе часы ніколі ня б’юць раней, чым тое патрэбна. Таму ты павінен чакаць, чорт. Чалавек усьміхнуўся. Злажыў рукі на шырокіх грудзях, і стаў перад ім, захінаючы дзьверы ў пакой.

- Воўк. Як быў ваўком, так ім і застаўся. Юнак зрабіў від, што сплюнуў, але пасягнуць на тое, каб пасунуць мужчыну, і прайсьці ў пакой, не рашыўся.

- І як ты трапіў сюды, ваўчынае адродзе? – нібыта пра сябе запытаў ён.

- Каханы, а цяпер якую кнігу мы будзем пісаць? – вымавіла яна, прытуліўшыся да яго пляча.

- Якую ты жадаеш, любая. Хочаш, пра Мару, а хочаш – пра Крыве – старога літоўскага ваўхва. Ён абняў яе вялікай рукой.

- Хачу пра ўсіх, - вымавіла яна, усьміхаючыся. – Я магу чытаць твае гісторыі бясконца. І слухаць твае казкі, каханы.

- Анёлачак мой, - ён пацалаваў яе. – А я люблю сачыняць для цябе. Якія хочаш казкі для цябе прыдумаю.

- Пра нас? – вымавіла яна, абдымаючы яго за шыю.

- Пра нас, золатка. Ён пацалаваў яе.

Яны сядзелі на парозе вялікага драўлянага дому. Вакол шумеў,

гудзеў кронамі лес. Надыходзіла лета, і ўжо было зусім цёпла, і ўтульна. Толькі камары абудзіліся, і ён адганяў іх адламанай галінай, якая ляжала побач.

- Як хораша дома, - ціха прашаптала яна. – Як хораша на радзіме, каханы.

- Золатка маё. Ён пацалаваў яе. – Родная зямля цягне, і безь яе ты – ніхто і нішто. Адарваны ад дрэва ліст. Тут жа ты – і дрэва, і карані, і вецьце, і лісты, і неба і зямля – ўсё тут тваё, і для цябе. Толькі расьці, радуйся сьвятлу, сонцу, дажджу, ды нават і вятрам і навальніцам. Бо ж яны – родныя. Ён прыціснуўся тварам да яе валасоў, удыхаючы яе пах.

- І дзе мы толькі не былі з табой за гэтыя два гады, каханая, - ціха вымавіў ён. – І што толькі з намі не адбылося. Ён абняў яе за плечы, яна прыціснулася да яго, палажыла галаву на плячо. Сьцяжынка ад ганку вяла ад іх прама ў лес, быццам бы яны сядзелі на парозе казкі, якая толькі мела быць адбыцца.

# Глава 3: Белград

Ён заўважыў гэтую дзяўчыну адразу. Яна нагадвала срэбны месяцовы праменьчык, які прабіўся праз лясны покрыў. У вузкай аблягаючай сукенцы ў колер рыбінай шалупені, кароткай, высока адкрываючый сьцёгны і нізка - сьпіну, па якой струменіліся доўгія хвалі чорных валасоў. Яна была зусім маладой, і нейкай разгубленай. Стаяла, нібыта застыла, і прама глядзела перад сабой – праз натоўп. Каржакаваты мужчына падыйшоў да яе, і ціха сказаў нешта на вуха. Яна пакорліва глянула на яго, і кіўнула. Разьвярнулася, і накіравалася ў яго бок.

Ён адкінуўся ў крэсьле, і назіраў, як яна падыходзіць, блытаючыся ножкамі, як маладое аленя. Абцасы былі высокія, а туфлі – крыху вялікія, можа на разьмер, і яна нeяк нялоўка перастаўляла вузкія ступні. Яе твар быў зусім дзявочым, амаль дзіцячым. Касьметыка глядзелася на ім неяк дзіўна, нібыта маленькую дзяўчынку старанна нафарбавалі для конкурсу прыгажосьці – чорныя павейкі, мяккія чырвоныя вусны, чотка акрэсьленыя. Яе твар быў ідэальным – авальным, крыху выцягнутым, з высокімі скуламі і вялікімі зьзяючымі ад блёстак вачыма.

Наблізіўшыся, яна села за яго столік – элегантна ададвінула стул, і прысела, ціха, бязгучна, як эльф.

- Як цябе завуць, красуня? – запытаў ён праз музыку. Нягромка, але ж яна пачула.

- Летыцыя. Яе голас прашапацеў, як срэбны дождж сьвятла, які ліўся з бліскучых дыска-лямпаў уверсе.

- А сапраўднае? Ён усьміхнуўся.

- Летыцыя. Гэта сапраўднае. Яна прама глядзела на яго. І раптам ціха вымавіла:

- Забярыце мяне адсюль.

Ён узьняў на яе вочы. Дзявочы твар перад ім не выражаў нічога – прыгожая маска, ідэальна разфарбавая, як парцалянавая лялька. Але ж у вачах яе стаялі сьлёзы.

- Цябе ўтрымліваюць тут супраціў тваёй волі? – запытаў ён. Яна кіўнула.

Ён таксама нахіліў галаву, вывучаючы яе.

- Добра. Я забяру цябе. Пасядзі пакуль. Ён дастаў тэлефон, і набраў нумар.

- Джаваньні? Слухай, я тут у бары. Ну, ты ведаеш. Тут такая справа. Мне трэба будзе дапамога. Хай твае хлопцы прыедуць сюды. Колькі? Ну, некалькі. Так, можа і прыйдзецца. Такіх, добрых хлопцаў. Але ж хай чакаюць. Калі праз пару гадзінаў я ня выйду да іх, хай крушаць тут усё. Ушчэнт.

А потым павярнуўся да яе.

- З кім тут можна паразмаўляць з галоўных, красуня?

- Яны не адпусьцяць мяне, - ціха прашаптала яна.

- Адпусьцяць. Я не магу цябе проста забраць. Такія правілы. Ты – іх жанчына. Але ж я абяцаю табе, што мне тут ніхто не адмовіць, і праз якую гадзіну ты ўжо будзеш вольная. Пакліч да мяне таго чалавека, што размаўляў з табой. Ён адкінуўся на сьпінку, і стаў чакаць.

Яна ўзьнялася, і пайшла праз натоўп – зьзяючы праменьчык сьвятла ў апраметнай начы.

Праз колькісь хвілін яны зьвярнуліся разам.

Крэпкі шыракаплечы хлапец у кашулі з закатанымі рукавамі і татуіроўкай на прадплеччы спыніўся перад ім.

- Вам падабалася дзяўчына, місцер? Хаціце яе на большы час? Прыватны пакой?

- Я хачу прыватную размову з тваім босам. І так, дзяўчына

пойдзе з намі разам. Ён утаропіў у хлапца цяжкі позірк.

- Прабачце, але ж гэта не магчыма. Бос заняты. Хлапец шырока ўсьміхнуўся.

- Не прабачу. Ён апусьціў нагу, якая ляжала на калене, на падлогу. – Гамбіні. Ты ведаеш такое імя? Не? Зараз ты пойдзеш да яго, і скажаш, што чалавек Гамбіні жадае тэрмінова паразмаўляць зь ім. Выконвай. Ён пільна глядзеў на яго.

Хлапец напружыўся, і нібыта вагаўся, але ж потым кіўнуў, і хутка зьнік. Ён паказаў ёй на крэсла побач. Яна села. Ён працягнуў ёй бакал.

- Выпей, красуня. Усё будзе добра, не хвалюйся. Краем вока ён заўважыў, як яе калоціць. Чамусьці яму стала горка і брыдка. Усё гэта, уся абстаноўка вакол нагадвала нейкі прытон. Ён наогул не любіў такія месцы, але ж у гэтым горадзе яны ўсе з большага былі такімі. Аб прыстойнасьці тут рэчы ня йшло. Народ выжываў, як мог, а паліцыя, здаецца, была проста для таго, каб была. А сапраўды, крышавала ўсё гэтае бязладзьдзе.

Пакуль ён думаў, хлапец падыйшоў да іх.

- Бос гатовы вас прыняць, - коратка вымавіў ён, пачціва. Павярнуўся, і пакрочыў некуды праз залу. Ён узьняўся, зрабіў дзяўчыне знак рукой, і яны пакрочылі за ім.

Высокі чалавек з даўгаватымі зачэсанымі назад валасамі сядзеў у крэсьле. Пры яго выглядзе хутка ўзьняўся, і працягнуў руку.

Вочы чалавека насьцярожана вывучалі яго твар, а потым ён гасьцінна ўсьміхнуўся.

- Якая чэсьць! Сам клан Гамбіні наведвае маю сьціплую ўстанову. Я павешу наша агульнае фота ў рамцы на ўваходзе, місьцер. Мікеле?

- Міхал. Ён не паціснуў працягнутую руку.

- Але ж так, я – з сям’і. І я хачу гэтую жанчыну.

Чалавек шырока ўсьміхнуўся.

- Канешне, місьцер. На сколькі, і куды? Тут, ці … можа, у гатэль? Мае людзі…

- Я хачу яе забраць. Зусім. Забраць яе ад вас. І хачу ведаць, колькі гэта мне будзе каштаваць.

Яна стаяла побач, і ціхенька пасоўвалася за яго сьпіну. Скурай ён адчуваў яе ціхі подых, яе лёгкую прысутнаць ззаду. Магнум прыемна цяжарыў яму бок, але ж ці пасьпее ён выхапіць яго? Ды хлопцы ўжо павінны быць унізе, успомніў ён.

- Забраць? Колькі? Размова дзелавога чалавека! Паважаю, місьцер. Суразмоўца шырока ўсьміхнуўся. – Гэта – адна з нашых самых прыгожых і дарагіх жанчынаў. Ці, дакладней, самая прыгожая, і дарагая. Яна абышлася мне вялікія грошы.

- Колькі? – спакойна запытаў ён.

- Колькі? Для вас, місьцер. Толькі для вас. Сто тысяч даляраў. І я жадаў бы іх бачыць прама тут.

- Я не нашу з сабой такія грошы. Але ж прама тут цяпер – мае людзі. Нашыя людзі, - удакладніў ён. – Яны незаўважна рассрэдаточаны па бару. І калі я ня выйду зь ёй праз пяць хвілінаў, яны ўзьнімуцца сюды. І іх ніхто ня спыне. Павер мне. Што ж датычыцца грошаў, ты іх атрымаеш. І нават болей, чым ты папрасіў. Гэтая жанчына – значна даражэйшая.

Зараз я выпішу чэк. Ён адкрыў полу піньжаку, дэманструючы, што там нічога няма, і дастаў з кішэню партманет. Палажыў на столік, і расьпісаўся на паперы.

- Усё легальна, - патлумачыў ён. – У мяне афіцыйны рахунак. Мы даўно ўжо строга падпарадкоўваемся закону. І вам раю рабіць тое ж самае.

Чалавек перад ім кіўнуў, і ўзяў паперу.

- Дзякуй вялікі, місьцер. Цяпер яна – ваша.

Ён кіўнуў. – Менавіта так.

- Правадзі місьцера да залы. Ён зрабіў знак ахоўніку. Пісталет імгненна мільгануў у руцэ, але ж ён апынуўся хутчэй. Прагучэў выстрал, адзін, і другі. Два цела аселі на падлогу.

- Сэканоміў грошы. Ён пацісднуў плячыма, і палажыў чэк назад у кішэню.

Яна стаяла, заціснуўшы вушы. Бліскучая сукенка афарбавалася брызгамі крыві.

Зьнізу пачуўся шум і тупат ног, і ізноў – стрэлы. Праз імгненьне на парозе з’явіліся яго людзі – хлопцы, якіх прыслаў Джаваньні.

- Пайшлі, каралеўна. Ён узяў яе пад руку – інакш бы яна проста ўпала на падлогу.

- Там яшчэ… там ёсьць людзі. Дзеці, - ціха прашаптала яна.

- Дзе? – коратка запытаў ён.

- Там, на кватэры, недалёка. Я пакажу. Яна ўся дрыжэла. Ён накрыў яе плечы сваім піньжаком.

- Паехалі, - коратка вымавіў.

Кватэру ахоўвалі ўсяго толькі пара чалавек, ды і тыя напіліся. Ахвяры ж і не намагаліся зьбегчы – можа, таму, што бегчы ім не было куды, і яны былі ўпэўнены, што іх усё роўна знойдуць. Дакументаў у іх не было, а ў паліцыю яны ня верылі – была купленая.

Пераступіўшы праз целы аховы, яны ўвайшлі ў невялікую цёмную прыхожую, адчынілі дзьверы ў пакой. На матрасах ля сьцяны сядзелі некалькі дзяўчат, і з жахам глядзелі на яго.

- Вы вольныя, - коратка вымавіў ён. – Можаце ісьці, куды хочаце.

- Нам няма, куды. І дакументаў у нас няма, - ціха вымавіла адна зь іх.

- Як лічыце патрэбным. Вось, - ён працягнуў візітку з назвай канторы.

- Хто хоча, можа з'вярнуцца туды. Гэта – цэнтр па адаптацыі мігрантаў. Ён нешта напісаў ззаду. – Проста прыйдзеце па адрасу, і пакажаце гэта. Там працуюць мае знаёмыя, і яны ўладкуюць вас.

А гэта – ён дастаў кашэль, і адлічыў некалькі купюраў – вам на першы час. Хто тут старэйшы?

Адна з дзяўчат нясьмела працягнула руку.

Гуськом яны пацягнуліся адна за адной, і зьніклі з пакою. Па лесьвіцы прагучэлі таропкія крокі ўніз.

- Гэта ўсе? – ён павярнуўся да яе. – Не. Яна пакачала галавой.

Спачатку ён не заўважыў, але ж потым убачыў: ля сьцяны на матрасіку ціхенька сядзела дзяўчо. Ён быў і ня ўбачыў яе, калі б яна не паказала. Дзіця сьціснулася ў камок, падцягнуўшы ногі да грудзей.

- Колькі ж табе год? – ціха запытаў ён, апускаючыся перад ёй на кукішкі.

Дзяўчынака маўчала, і ўздрыгвала. Яна абышла яго, і апусьцілася на падлогу побач. Ціха кранула яе плячо.

- Не бойся, - вымавіла яна. – Гэта я. Зараз мы пойдзем адсюль, як я і абяцала табе. Я ж гаварыла, што ўсё будзе добра, і нас выратуюць. Дзяўчынка нясьмела ўзьняла на яе вочы – вялікія, сінія. На яе шчацэ быў сьвежы барвовы сіняк, сьветлыя зблытаныя валасы закрывалі твар.

- Трэба ўходзіць. Ён узьняўся, і лёгка падхапіў дзіця на рукі. Яна быццам бы ня важыла нічога. Разам яны сышлі па ступеньках. Адзін з людзей адчыніў перад імі дзьверы машыны.

- Куды едзем, сіньёре? – запытаў.

- Куды? Цяпер ужо – далёка. Ён назваў невялічкі пасёлак на

граніцы з Босьніяй.

- Колькі часу нам ехаць? – пацікавіўся – У нас няма часу.

- Будзем да раніцы, сіньёре. Чалавек кіўнуў галавой. У машыне ён набраў нумар.

- Дзіно? Слухай, гэта я, Міхал. Трэба твая дапамога. Я буду да раніцы. Праз чатыры гадзіны, і не адзін. Са мной жанчына, і дзіця. Знайдзі дзіцячае адзеньне, дзяўчынка, лет дзесяць, і жаночае. Памер?

- Які ў цябе памер? – павярнуўся ён да яе.

- XS, - ціха вымавіла яна.

- XS, калі ты нешта разумееш у гэтым. Добра! Ён усьміхнуўся.

- Мы едзем да майго старога сябра. У яго як раз дачка такая як ты. Таму там пераапранешся, а потым мы пяройдзем мяжу. У Босьнію. Там жыве мая радзіна, - патлумачыў ён.

Машына рушыла хутка і плаўна, і дзяўчаты на заднем сядзеньні паснулі.

Ён жа сядзеў побач зь кіроўцай, і ўглядваўся бяссоннымі вачыма ў цемру. Вайна ізноў прачыналася ў ім. Памяць ахапіла яго, пякучая, як касьцёр. У люстэрку кіроўцы над сабой ён бачыў жаночыя галавы – чорнавалосую, і сьветлавалосую, дзіцячую. Дзяўчынка паснула на яе плячы, яна прытулілася да яе галавой, і, здаецца, таксама драмала. Раптам яму здалося, што там, на сядзеньні за ім сядзяць два анёла. Прыгожыя, ціхія, чыстыя твары, твар малодшай дзяўчынкі быў яшчэ мокрым ад сьлёзаў – яна плакала ўсю дарогу, і чарнявая яе суцяшала, абдымаючы, прысланіўшы да грудзей галаву.

- Што ён зрабіў? – раптам падумаў ён. – Чаму? Куды ён іх вязе? Але ж адказ ён ужо ведаў. – Вязе да сябе ў Італію. А чаму? – пэўна, таму, што ўсё ж ён быў чалавекам. Ды і для чаго яму было жыць? Цяпер жа, ён адчуваў, у яго жыцьці паявіўся сэнс.

# Глава 4: Капетанова Вода

Раніцой яны ўехалі на тэрыторыю парку Тара. Узышло сонца, але ж у машыне было цёмна – яе закрываў цёмны цень ад насунуўшыхся ля дарогі дрэваў. Раз-пораз прамень усё ж прабіваўся, і казытаў дзявочыя твары. Малодшая дзяўчынка громка чыхнула, і прачнулася. Ён ня спаў усю ноч. Пісаў Джаваньні, ён адказваў яму. Праглядваў месенджэр. Яны нарабілі шмат шуму, але ж, на дзіва, ніхто іх быццам бы не шукаў. Проста разборка ў адным зь нелегальных прытонаў па гандлю людзьмі. І дзяўчынак гэтых ніхто шукаць ня будзе, але ж ім трэба было схавацца як мага хутчэй. Усё ж, яны выглядалі падазрона – мужчына з дзьвума напаўадзетымі падлеткамі. Ды і дакументаў ніякіх у іх не было. Канешне, грошы б вырашылі справу, але ж не вядома, што магло б здарыцца.

І таму, калі яны ўехалі ў лес, ён расслабіўся. Цяпер ён адчуваў сябе зусім дома.

- Ну, як спалося, красуні? – павярнуўся ён да іх.

- Добра, дзякуй. Дзяўчынка з чорнымі валасамі ўсьміхнулася. Летыцыя. Ну і імя. Проста шыкоўнае. Такое ж, як яна сама. Нават і цяпер, у ранішнім сьвятле пасьля амаль бяссоннай ночы, яна выглядала яшчэ больш прывабна. Малодшая ж апынулася зусім худзенькай і бледнай, танюткай, як кволая сьцяблінка.

- Можна мне піць? – раптам папрасіла яна ціха. Ледзь чутна. Кіроўца, не спыняючыся, нахінуўся, і дастаў зьнізу бутэльку. Ён павярнуўся, і працягнуў яе ім.

- Хутка ўжо прыедзем, пацярпіце. Там і пасьнедаем, і пераапрынемся, і высьпімся. Дзяўчынка нешта прашаптала старэйшай на вуха.

- Не. Яны ня будуць, - ціха адказала тая. Яны цябе не пакрыўдзяць. Ад гэтых словаў яго кінула ў жар. Кіроўца – італьянец, толькі пакачаў галавой.

- Адкуль яны, сіньёре? – запытаў ён.

- З бардэлю, - проста адказаў ён. – Мы ноччу разграмілі бардэль, а гэтых забралі з сабой. Старэйшая папрасілася са мной, а гэтую … куды яе было дзяваць.

Кіроўца нахіліў галаву. – Дрэнна гэта, сіньёре. Калі такія маладыя дзяўчаты трапляюць у прафесію. Гэта ня ўгодна Богу. Бог за такое карае.

- Вось я і пакараў. Пэўна, я – Бог. Ён сумна ўсьміхнуўся.

Праз паўгадзіны яны былі ў Дзіна на хутары. Дзяўчынкі выйшлі з машыны, і аглядаліся вакол. Вакол былі хвоі ды пагоркі, а далей лес рабіўся зусім ужо густым, чорным. І да мяжы тут было рукой падаць. А перайсьці яе было плёвай справай – яе ніхто дужа і не ахоўваў. Да таго ж, пад зямлёй былі прарытыя даволі шырокія тунелі. Мясцовыя кантрабандысты пастараліся. І Дзіна быў адзін зь іх. Жыў з сям’ёй на невялікім хутары збоч ад большага паселішча, і паціху рабіў свае справы. Афіцыйна – займаўся турызмам. А не афіцыйна – гэта нікога тут не цікавіла. Тут усе так жылі, і ўжо даўно.

Ён паціснуў Дзіна руку, той – яму. Яны былі знаёмыя яшчэ з часоў вайны, якая спачатку раськідала іх па розных баках, а потым, вось, з’яднала ізноў.

- Слухай, дзяўчынак накарміць трэба. Памыцца б ім. Пераапрануцца. Адпачыць. А ноччу пойдзем.

- Так. Дзіна пагадзіўся. Усё гатова.

- Праходзьце, калі ласка. Ён павёў іх у вялікі, сьветлы дом, стары, але ж трывалы, двухпавярховы, з белымі сьценамі і чарапічнай крышай.

Жанчына завіхалася на кухні – жонка. Звычайна пытаньняў яна не задавала, але ж тут, убачыўшы іх кампанію, ледзь ня выраніла нейкую каструлю, якую перастаўляла з пліты на стол.

- Сара, табе праца. Адмыць, пераапрануць, і накарміць. Дзіна

коратка кінуў каманды, і зьнік у пакоі. Яны прайшлі, і сталі побач у дзьвярах – высокая, і маленькая. Ён палажыў рукі ім на плечы.

- Можна сказаць, што я цяпер стаў бацькам. Ён усьміхнуўся.

Жанчына хацела нешта запытаць, але ж змаўчала.

- Яны ў бясьпецы. Я выратаваў іх ад вялікага зла. Так што не хвалюйся, усё добра.

Дзяўчынкі селі за стол, ён застаўся стаяць ля вакна. Сотавый тут лавіў лепш. Ізноў набраў нумар.

- Джаваньні, я на кропцы. Добра. Хай падрыхтуюць усё, што трэба. Не, дакументаў няма. Добра. Фота зраблю і табе перакіну.

- А як цябе завуць, малышка? – ён павярнуўся да сталу, за якім дзяўчаты сьнедалі – малако, дамашні сыр, фрукты, каша.

- Міша, - ціха вымавіла дзяўчо.

- Вось як. А я – Міхал. Міхаіл. Ён усьміхнуўся ізноў. Нада ж, якое супадзеньне.

Нарэшце, яны пасьнедалі, і жанчына паказала пакой, дзе ўжо ляжала прыгатаванае адзеньне, халаты і палаценца.

- Пайшлі, я адвяду вас ў прыбіральню, - вымавіла яна па-сербску, але ж Летыцыя яе зразумела. Яна ўзяла пакеты з адзеньнем у адну руку, і, трымаючы другой за руку Мішу, пакрочыла за ёй.

Калі ён ужо паеў, і піў каву, на кухні нікога не было. Жонка Дзіна сышла па нейкіх хатніх справах, і ён нарэшце застаўся сам насам з сабой. Ранішняе сонца мякка сьвяціла з вакна, за якім сьпявала нейкая птушка. Сьвятло здавалася зялёным – у колер маладой лістоты, якая густа раськінулася за вакном.

Дзень быў прыгожы, прахалодны з ранку, але ж поўдзень абяцаў быць сьпячотным.

Яна зайшла ў кухню ў мяккім белым халаце, выціраючы палаценцам мокрыя доўгія валасы. Павесіла яго на сьпінку стулу, і села зь ім побач.

Злажыла на каленях рукі.

- Дзякуй, што выратавалі мяне, - ціха вымавіла яна. І паправілася: “Нас”.

Ён кіўнуў.

- Нічога. Ты папрасіла, я зрабіў. Мне не было цяжка.

- Паедзеш са мной? – проста запытаў ён.

- Паеду. Яна кіўнула.

- Ты адкуль?

- Зь Мінску.

- Калі хочаш, я адпушчу цябе дамоў. Хочаш зьвязацца з раднымі? Толькі потым, калі мы будзем у бясьпецы. Пацярпі яшчэ суткі.

Але ж, калі хочаш, ты можаш застацца. У мяне вялікая віла. У Таскане, на беразе мора.

І яна можа застацца. Я вам нічога благога не зраблю. У яе ёсьць бацькі? Ты што пра яе ведаеш?

- Нічога. Яна нічога пра сябе не расказвае. Гаворыць па-украінску, і па-руску. Таму, пэўна, яе скралі недзе ў бежанцаў, а потым – перакінулі сюды. І стрэлаў яна баіцца. Пра бацькоў таксама маўчыць. І ні разу не паклікала маці. Гэта так дзіўна… яна ж такая маленькая. Раптам яе голас задрыжэў.

- А ты як трапіла да іх? – запытаў ён.

- Проста. Яна паціснула плячыма. Я працавала мадэльлю, быў кантракт. Але ж калі прыехала, апынулася там. Дакументы забралі, і … пачалася праца. Яна замаўчала.

- А ў Мінску ў цябе хто? – пацікавіўся ён.

- Маці. Я ёй тэлефанавала. Хлусіла, што ўсё добра. Каб яна не хвалявалася.

- Як гэта? А чаму ты нічога не казала? Ён зьдзіўлена глянуў на яе.

- Калі я званіла, побач стаяў чалавек, - проста патлумачыла яна.

- Яны сказалі, што мяне адпусьцяць. Потым. Калі я адпрацую. Але ж яны нікога ніколі не адпускаюць. Некалькі дзяўчат проста зьнікла. Яны прадаюць іх… прадавалі нас. Як тавар. Як целы. Яна раптам замаўчала.

- Я ведаю. Ён кіўнуў, і таксама замаўчаў.

- Цяпер ты ў бясьпецы, - вымавіў ціха, але ж упэўнена, каб упэўніць і сябе, і яе.

- Тады, калі ты ня супраць, ты паедзеш са мной, у Італію. І яна – таксама.

- Так. Яна кіўнула галавой. Яны памаўчалі ізноў.

- Ідзі адпачываць, красуня. Пасьпі. І я пайду. Да вечару мы вольныя, а ўвечары я вас разбуджу, і мы адправімся.

Ён узьняўся, і крануў яе рукой за плячо. Яе плячо было худзенькім і вузкім, як у дзіцяці. Летыцыя. Яе густыя чорныя валасы прыемна пахлі шампунем. Росту яна была высокага, яму па плячо без абцасаў, а ён быў метр дзевяноста пяць. Прыгожая, стройная, як каралева. Як казачны сон, - падумалася яму.

- А ведаеш, я таксама некалі жыў у Мінску. Я там нарадзіўся, і вучыўся там. Але ж потым маці памёрла, і мяне забраў бацька – басьніец з албанскімі і італьянскімі каранямі. У мяне і ў Босьніі радзіна, і ў Італіі. А вось у Беларусі нікога не засталося. Дзед памёр, бабка даўно памёрла, а маці – яшчэ раней. Толькі я па-руску ужо забыўся. Па-беларуску вось, магу.

Ён гаварыў прыгожа, зь невялікім сербскім акцэнтам, мяшаючы

беларускія і польскія словы, калі-некалі дадаючы сербскія.

- Гэта добра, я вучылася ў беларускай школе. І мы з сябрамі размаўлялі па-беларуску. У мяне і маці беларускамоўная, яна сама зь вёсачкі, пад Іўем. Татарка. Яна гаварыла мякка, прыемна, бегла, ціха выгаворваючы словы, і ад яе голасу яму раптам захацелася заплакаць. Ён дрэнна памятаваў сваю маці, але ж успамінаў, што яна была падобная на яе – такая ж высокая, стройная, з доўгай чорнай касой. І гаварыла яна так жа – мякка, і голас у яе быў падобны.

- Летыцыя… ціха вымавіў ён. І раптам павярнуўся да яе, гледзячы ў вочы.

- Ты застанешся са мной, Летыцыя? – проста запытаў. – Застанешся са мной назаўсёды?

Яна таксама пазірала яму ў вочы.

- Застануся, - ціха вымавіла яна. – Мне здаецца, што я ведаю вас, Міхаіл. Міхал. Яна запнулася.

- Міхась, - падказаў ён ёй. – Мяне так дзед зваў.

- Міхась, - усьміхнулася яна.

Яе вочы зьзялі, як зоркі, а твар быў як месяц – такі ж чысты, прывабны, сьветлы. Рука яе была мяккай і прахалоднай.

Яго вочы пазіралі ёй прама ў вочы, яны былі карымі, з залатым адценьнем. Чорныя валасы спадалі на плечы, закрывалі шчокі, а чаго яго погляд набываў нейкі драпежны, разбойнічы выгляд, але ж вусны ўсьміхаліся.

- А на каго вы вучыліся ў Мінску? – запытала яна.

- На мастака. Ён усьміхнуўся. – Толькі вось, папрацаваць не давялося. Амаль. Так, раблю сёе-тое для сябе і знаёмых. У мяне другі занятак.

Ён адчыніў перад ёй дзьверы ў пакой, дзе на ложку ўжо ціха спала дзіця.

- Да вечара, - вымавіў.

- Да вечара. Яна мякка ўсьміхнулася ў адказ.

# Глава 5: Італія

Сістэма працавала безадказная, як часы. Яны без перашкодаў перасеклі мяжу, і апынуліся ў Босьніі, дзе іх ужо чакалі гатовыя дакументы: два пачпарты на новыя імёны, з новай ідэнтычнасьцю. Адкуль яна ўзялася, нікога не цікавіла. Паспарты былі ізраільскімі, як і ў яго: і імены, і месца нараджаньня і пражываньня. Руфь і Міша Ваўковіч. Ён жа як быў Мікаэль Ваўковіч, так і застаўся.

Па паспарту яна значылася яго жонкай. Дзяўчынка ж была запісаная яго дачкой. Яны вырашылі – так будзе лепш. Меньш пытаньняў на мяжы. Джаваньні, пэўна, мог зрабіць усё. За неякія два дні на сьвет нарадзіліся два новых чалавека, якіх у ім ніколі не было. А тыя дзьве жанчыны, якія вызваліліся пазапрошлай ноччу, памерлі. У і ў прамым, і ў пераносным сеньсе. У прамым – загінулі пры нападзе на падпольны бардэль, і цяпер трапілі ў паліцэйскія сводкі ў ліку ахвяраў х’юман трафікінга. А гэта значыць, што сярод жывых іх болей няма, і шукаць іх цяпер ніхто ня будзе.

Джаваньні арганізаваў іх пералёт па дыпляматычаскаму каналу віп-клясам – на невялікім частным самалёце, які ўжо чакаў у аэраппарту Сараева. Праз меней чым дзьве гадзіны яны ўжо былі ў Фларенцыі, адкуль машынай накіраваліся далей, у бок Пізы, дзе на пэўнай адлегласьці ад горада знаходзілася яго віла. Дзяўчынкі, апранутыя ў новыя модныя худзі і джынсы, нічым не вылучаліся з натоўпу добрапрыстойных грамадзянаў. Старэйшая – маладая, стройная, чорнавалосая жанчына, і малодшая – дзяўчынка-падлетак з залатыміваласамі і блакітнымі вачыма. Старэйшая крэпка трымала за руку малодшую, і кранальна клапацілася аб ёй, пакупала каву і сэндвічы, апраўляла адзеньне, увесь час нешта шаптала, ціха, ледзь чутна. Дзяўчынка ківала галавой, але ж вакол сябе не глядзела, быццам бы ёй нічога не было цікава. Аднак яе маленькая ручка крэпка трымала ручку ці то сяброўкі, ці то сястры. А насамрэч, як апынулася, маці. Цяпер яна – яе маці, а Міша – яе дачка. Прыёмная, але ж гэта нічога не мяняе. Разам

яны сядзелі ў кавярні аэрапорту і пілі каву, елі салату і бутэрброды, разам спалі ў крэслах побач. Вялікі чорнавалосы мужчына, які такім дзіўным чынам вызваліў іх, сядзеў у крэсьле насупраць, чытаў газеты, хмурыў бровы, нешта пісаў у тэлефоне, ці проста піў каньяк, думаючы аб нечым сваім. Хто ён такі, і куды ён іх вязе, яе ня дужа цікавіла. Яна проста верыла яму. Бо тое месца, адкуль ён вызваліў яе, было пеклам. Міша спала на яе плячы, уздрыгваючы. Яна ахапіла яе рукой. Дзяўчынка нічога пра сябе не казала, і яна не запытвала. Яна змагла дабіцца ад яе толькі імя, і гэтага было ёй дастаткова. А яшчэ ёй было дастаткова таго, што яны вызваліліся. Як гэта ўсё адбылося зь ёй, гэтая жудасьць? Яна не жадала нават і ўспамінаць. Проста глядзела наперад, даверыўшыся яму. Даверыўшыся Богу. Не дарма яна кожны час малілася, няспынна. Нават калі … яна ўстрахнула галавой, каб адагнаць успаміны. Нарэшце самалёт пайшоў на пасадку, і хутка дакрануўся да зямлі. З вакон унутр палілося яркае сонца.

Яна ўключыла сотавы, і напісала па месенджару:

- Мама, усё добра. Я ў Італіі. Я пазнаёмілася з чалавекам, ён дужа добры. Не хвалюйся, потым напішу.

- Ну і выдатна, - прыляцеў адказ. – Як там надвор’е?

- Сонца, - напісала яна.

Чалавек з крэсла побач узьняўся, і павярнуўся да іх.

- Ну, як вы? Паспалі? Добра. Нас чакае машына, і адразу паедзем дамоў. Да мяне дамоў. .. да нас, - выправіўся ён.

- Як гэта адбылося, што ты трапіла туды? – ціха запытвае ён. Яна сядзіць насупраць яго ў накінутым на плечы карункавым пеньюары. На віле апынулася шмат жаночага адзеньня – і ўсё як па ёй пашытае. Быццам бы тут засталіся яе рэчы, якія яна пакінула, адправіўшыся ў вандроўку, і вось, цяпер ізноў вярнулася. Да яго, і да сябе дамоў, разумее яна.

Але ж калі гэта было? Яна ня памятае. Быццам бы ў яе ў розуме

нейкі правал, нешта, што яна намагаецца ўспомніць, і ня можа. Нешта істотнае, вялікае, зьвязанае зь ім і ёй. Яна цяпер – Руфь, а была – Летыцыя.

- Скажыце, а як цяпер мяне завуць? – ціха запытвае яна.

- А як ты хочаш? Ён сур’ёзна глядзіць на яе.

- Летыцыя. Яна замаўкае.

Ён ківае. – Я рады, што ты абрала заставацца ёю. Хоць імя для мяне не істотнае. Імёнаў можа быць шмат, дзяўчынка. Ён ківае.

- Дык як ты апынулася там? – запытвае ён.

- Я ўзяла візітку. У клюбе. Мне прапанаваў яе прадстаўнік агенства. Усё выглядала дужа прыстойна, яны зьнялі дарагі офіс, заключылі кантракт. Я падпісала ўсе бумагі. А калі прыляцела, то апынулася, што паказы адбываюцца рэдка, і іх трэба чакаць, а пакуль нам прапанавалі папрацаваць хостес. І я яшчэ нешта падпісала, бо цяпер я ім верыла. Яны і фатасесію мне зрабілі, і нават набылі адзеньне. Нас вадзілі ў бутыкі, каб мы маглі прыстойна апрануцца. Для працы. Хостес – гэта нічога такога, проста прысутнічаць у клюбе, быць прыгожай. Я так думала. Яна замаўчала.

- Потым яны сказалі мне, што мной пацікавіўся багаты кліент, якому нельга адмовіць. Потым – яшчэ, і яшчэ адзін. А потым мяне адвезьлі некуды. Яна нібыта праглаціла нейкі камяк. Словы ня выходзілі зь яе, здаецца, калі б яна вымавіла хоць адно, яна б пачала ванітаваць словамі да тых пор, пакуль бы не памёрла.

- Мы працавалі ў бары, і жылі ў гэтай кватэры, адкуль ты мяне забраў. Там была кухня, прыбіральня, дзе можна апрануцца, нафарбавацца. І некалькі спальняў з матрасамі. Ты ж бачыў. І яшчэ туды прыходзілі. Таксама. Бывала такое, што нейкую жанчыну наказвалі. Там. Яна ўздрыгнула. - Доўга. А мы павінны былі глядзець. Калі яна блага працавала, адмаўляла ці дзёрзка адказвала кліенту. Дзяўчаты былі розныя, былі такія, якія не жадалі скарацца. Супраціўляліся. Яна ўздрыгнула.

Ён моўчкі глядзеў на яе.

- Я не супраціўлялася, - -ціха вымавіла яна. – Бо ў гэтым не было сэнсу. Я рабіла ўсё, што мне казалі, як мага лепш. І я малілася. І яшчэ я старалася дапамагаць. Усім, і асабліва – ёй. Мне яе было шкада, яна ж зусім маленькая.

- І яе таксама? – ціха запытаў ён.

- І яе. Яна ўздрыгнула. – Прабачце, я не магу аб гэтым гаварыць. Яна ўзьняла на яго вочы.

- Не гавары. Летыцыя. Ён замаўчаў.

Бутэлька перад ім хутка стала пустой.

- Падыдзі да мяне, - папрасіў ён.

Яна падышла, і стала насупраць крэсла, у якім ён сядзеў.

- Ты – прыгожая, - ціха вымавіў ён. – Самая прыгожая з жанчынаў, якіх я калісьці бачыў. Ты нагадваеш анёла. І мне здаецца, што я таксама ведаю цябе. Толькі ня памятаю, адкуль. Можа, мы сустракаліся ў Менску? Але ж я там быў апошні раз ці не дзесяць гадоў таму. Ён пакачаў галавой.

- Ты цяпер – мая жонка. Па закону. Джаваньні хутка прышле дакументы. І ты маеш усе права на то, чым валодаю я. На гэтую вілу, на грошы. На ўсё. Ведаеш, мяне гэта наогул не цікавіць. Бо пэўна, я і набыў іх для таго, каб прывесьці сюды цябе.

Але ж калі ты ня хочаш, то нічога ня будзе. Ён спакойна глядзеў на яе. Яго рукі ляжалі на каленях. Ён яе не кранаў.

- Мне можна дакрануцца да цябе? – ціха вымавіў ён.

Замест адказа яна палажыла на яго плячо сваю руку. Ён нахіліўся, і прыціснуўся да яе шчакой. Яе скуру ўкалолі цьвёрдыя, густыя валасы яго барады. Гэты вялікі мужчына быў безабаронным перад ёй – перад яе каханьнем, ці яго адсутнасьцю. Ён самотны тут, у гэтай віле, разумела яна. І яго душа пакрытая такімі ж шнарамі, як і ў яе. Яна правяла рукой

па яго шчацэ, і ён крануў яе далонь вуснамі. Яго рукі самкнуліся ля яе сьцёгнаў, і яна мякка апусьцілася яму на калені.

Іх вусны зьліліся, і яна адчувала іх смак – каньяку, дыму, смак і водар незнаёмага мужчынскага цела, якое раптам паказалася ёй знаёмым.

- Якая ты маленькая, - ціха вымавіў ён. – Лёгкая, як пярынка. Яго рукі ахапілі яе, і прыціснулі да сябе. Халат апусьціўся зь яе плечаў, і саслізнуў на падлогу. Цяпер яна была поўнасьцю аголенай у яго руках. Яго далоні гладзілі яе, краналі сінякі і зацягнуўшыяся шнары – ня шмат, бо яе ня дужа псавалі, яна ж была прыгожай. Яе скура была белай і чыстай, гладкай, грудзі – маленькімі і мяккімі, з вострымі саскамі. Праз плоць, амаль празрыстую, прасьвечвалі рэбры.

Яна была зусім худзенькай, такой, што яму хацелася плакаць, калі ён яе кранаў. І ў той жа час яе цела было нерэальна, д’ябальскі прыгожым. Прывабным, як цела сукуба. Быццам бы адзін з прывідаў гэтай старой вілы атрымаў нарэшце плоць. Тут чуліся галасы, чуліся крокі. Ён блага спаў тут, прачынаўся і курыў у цемры, стоячы ля адчыненага вакна. І цяпер тут апынуўся чалавек – жанчына. Працяг яго душы, яго рук, яго плоці.

Ён прагна цалаваў яе, асьцярожна, насколькі мог, каб не напалохаць яе і не зрабіць ёй балюча. Яна ж адказвала яму ціха і пяшчотна, быццам бы і не была вопытнай жанчынай. Проста скаралася яго рукам, аддавалася ім, тулілася да яго з пяшчотай, з безабароннасьцю, ад якой у яго ёкала сэрца. Ён падхапіў яе на рукі, узьняў, і панёс наверх – у свой пакой, дзе ён і спаў, і працаваў.

- Мне здаецца, гэта ўсё было, каханы, - ціха прашаптала яна. – Я ўжо была тут. Яна ахапіла яго шыю рукамі.

- Яе цела на ложку пад ім, маленькае, тонкае, якое зводзіць яго з розуму. Ён усю яе пакрыў пацалункамі, ад верху да нізу, і, калі адчуў, што яна гатовая, увайшоў у яе. Яна ціха ўскрыкнула, і ахапіла яго плечы рукамі.

Ён выліўся ў яе хутка, амаль адразу – у яго даўно не было жанчыны. Потым яны ляжалі на ложку, абняўшыся, і яе галава пакоілася на яго плячы. Ён ахапіў яе рукой, і прытуліў да сябе.

- Я быў мёртвы, каханая. Цяпер я разумею гэта, - ціха вымавіў ён. – Ты ажывіла мяне.

- Як і ты – ты забраў мяне са сьвету сьмерці ў сьвет жыцьця. Любы мой. Яна пацягнулася да яго вуснамі.

- Ведаеш, мне здаецца, мы ўжо былі разам, - вымавіў ён.

- Як і мне, каханы, - прашаптала яна, лежачы ў яго на плячы.

# Глава 6: Хутар

- Каханы, я не распавядала цябе, але ж гэта сапраўды было. Яна з жахам глядела на яго. – Мне неяк і праўда прапанавалі візітку. Я і ў офіс схадзіла. Але ж нешта ўтрымала мяне. І я сказала, што падумаю. А потым – потым я сустрэла цябе, - прашаптала яна.

- А я сустрэў цябе, любая, - ціха вымавіў ён. – Так бывае, бо ж я – Бог. І я магу паварочваць падзеі назад. Ня ўсё, што можа адбыцца, павінна адбыцца. Але ж, нават і не адбыўшыся, яно пакідае на нас свой сьлед.

- А Міша? – ціха прашаптала яна.

- Міша – у парадку. Бо там, у той рэальнасьці, ты выратавала яе. У гэтай жа рэальнасьці Мішы не існуе. Яна яшчэ не нарадзілася на сьвет. Ён пацалаваў яе. Але ж заўсёды недзе ёсьць нехта, хто чакае цябе і мяне. Ён мякка пацалаваў яе вусны. Яна ахапіла яго рукамі, і замёрла, сагрэўшыся на яго плячы.

Вечар быў прахалодны і ціхі, але ж у паветры ва ўсю адчувалася вясна. Дрэвы ўжо пачалі разгорваць лістоту, і аднекуль цягнула дымам з вогнішча.

- Мне здаецца, што вакол рэальныя – толькі ты, і я, каханы, - ціха прашаптала яна.

- Так і ёсьць, дачушка мая. Сонейка маё любае. Ён крануў яе шчаку вуснамі. – Бо ў сьвеце насамрэч ёсьць толькі Шхіна, і Бог.

Ён трымае яе на руках, і яна прыціскаецца да яго грудзей, ахапіўшы яго за шыю. Іх вусны сустракаюцца. О, які салодкі яго пацалунак! Яго губы накрываюць яе губы, і яна адчувае іх цяплыню і смак, дакрананьне яго вусоў і барады, адчувае крыху дымны водар. Яна гладзіць яго твар, кранае далонямі шчокі. Блізка ад сябе яна бачыць яго вочы, яны глядзяць на яе зь любоўю. Ізноў і зноў яго вусны дакранаюцца да яе вуснаў, і яны

зьліваюцца, нібыта ў танцы, мякка кранаючы і пяшчотна накрываючы, яго вусны ўбіраюць яе губы, і яна адказвае яму, нясьмела і асьцярожна дакранаючыся да яго, яго ж пацалункі ўладныя і гарачыя, яны вымушаюць яе адкрываць вусны, і тады іх дыханьне становіцца адзіным. Ён захліпаецца ад пяшчоты, якая накрывае яго, як хваля, а яна ад яго пяшчоты губляе галаву, адчуваючы, як салодкія хвалі накатваюць там, унізе, дзе нешта мякка стукае знутры яе, і сьціскаецца, як вялікая пухнатая лапа, так, што яе подых замірае, і галава ў яе кружыцца ад ахапіўшага яе пачуцьця. Ён апускаецца зь ёй на ложак, і яна лажыцца, прытуліўшыся да яго пляча. Ён садзіцца побач, і ахінае яе рукой.

- Раскажы мне казку, каханы, - ціха просіць яна.

- Ты – мая казка, пяшчотная мая дзевачка. Мая маленькая. Ён гладзіць яе рукі сваёй далоньню. Яна вялікая і гарачая, цяжкая. Чамусьці ёй хочацца плакаць, хочацца прыціснуцца да яго грудзей, і ляжаць на іх адвечна.

- Казку? Слухай, золатка. Калі-некалі жыў адзін народ, - ціха пачынае ён. – І на яго зямлі ўсяго было ў дастатку – і зьвера ў лясах, і рыбы ў рэках і вазёрах. І мёда ў борцях, і жалезных рудаў у балотах, бурштыну ў марскіх хвалях. І быў гэты народ багаты, і горды. Ня многа ён браў у зямлі, але ж яна давала яму шчодра. Добра радзілі ячмень і жыта, а жанчыны нараджалі магутных, як дубы, сыноў, і дачок, прыгожых як месяц, і зоркі разам. Нікому не пераходзіў гэты народ дарогу, але ж і чужынцаў на свае землі таксама не дапускаў. Але ж нечакана прыйшла да яго бяда. Закаваныя ў жалеза чужынцы аднекуль з захаду тапталі родную зямлю, нішчылі і жглі паселішча, занявольвалі вольных іператваралі гордых сыноў лясное зямлі ў сваіх нікчэмных рабоў. Доўга і адчайна біліся ваяры з навалай, якая кацілася на іх, як магутная навальнічная хмара, што накрывае неба чорным полагам, не шкадуючы сваёй крыві і плоці, але ж стрымаць яе не маглі. Паступова надыходзіла цемра, і засьцілала адвечныя сьвятыя дубравы сваім чорным крылом. Гэтыя чужынцы казалі, што нясуць Крыж. І крыж яны і сапраўды несьлі – толькі той, што ставяць у галавах у нябожчыка, бо шмат палягло і магутных ваяроў, і жанок і

дзяцей, і старых. І тады сабраліся лепшыя зь лепшых гэтага народу, самыя годныя і славутыя зь яго сыноў, нямногія з тых, што засталіся, і вырашылі ісьці далей, на ўсход, дзе векавыя пушчы шумелі высокімі кронамі, вазёры былі глыбокія, нібыта бяз дну, і рэкі - магутнымі і шырокімі, і ўся гэтая зямля ляжала, неабсяжная, перад імі, вабячая сваімі багацьцямі. Яны ведалі, што не пустыя яе чорныя лясы, і іньшыя народы хаваюцца пад іх шатамі, але ж яны нікога не баяліся, бо ўсякі чужынец і вораг быў лепшым, чым крыжак, чалавек з душой і сэрцам, зашытым у жалеза, нібыта і не чалавек, і ня зьвер, а нейкі дземан ці дух, апантаны адзінаю мэтай – зьнішчэньня і рабаваньня. І так, параіўшыся, яны выступілі на ўсход. Племя гэтае звалося Ліцьва, і зямля, якую яны засялілі, таксама стала называцца Ліцьвой. Шумелі яе магутныя лясы, раськінуліся шырока і прывольна палі, і было шмат месца і дзе паляваць, і дзе будаваць гарады і мястэчкі. Але ж найбольш любілі гэтыя людзі, ліцьвіны, пушчу. Яна была іх домам, іх крэпасьцю, і іх храмам. У лясах ляжалі іх сьвятыя камяні, высока шумелі галінамі магутныя прысьвечаныя Перуну дрэвы. Гэты народ ведаў і Бога, Бога адзінага, якога называў Дiевас, і Окапірмс – найпершы з багоў.

- Якая цікавая казка. Як прыгожа ты распавядаеш, каханы, - ціха шэпча яна, і яго рука накрывае яе руку, гладзіць яе, абдымае плечы.

- Галоўнымі ў гэтага народу былі не каралі і не князі, а вешчуны, ваўхвы, якія называліся Крыве. Ад іх гэтую зямлю таксама назвалі Крывіяй – зямлёй крывічоў, людзей племені Крыве. І гэтыя жрацы ведалі шмат, шмат таямніцаў, каханая. Усё, што датычыцца сонца, і зорак, і месяца, і пораў года, і пра ўсіх багоў, і пра ўсіх духаў, што жывуць і ў лясах, і ў моры, і ў рэках, і ў вазёрах, і ў кожным дрэве і расьліне, і пра духаў усіх жывёлаў, і ўсіх хваробаў, і вагня, і ветра, і тых, што ў небе, і на зямлі, і пад зямлёю. Ведалі яны і таяніцы памерлых, так сама, як і жывых.

- А ты – ты адзін зь іх? – ціха запытвае яна.

- Так, я – Крыве. Я чую шапаценьне лістоты і говар вазёрных хваляў, і вецер, і бег па небу аблокаў, і бачу праз ваду і зямлю і

цяжкое, каханьне вялікага, моцнага, грубага мужчыны, які дзеля яе намагаецца быць пяшчотным. Такога сільнага, вялікага цела яна ніколі ня бачыла. Яно належыла лесу, было амаль зьвярыным. І адначасова яно належыла ёй. Ёй дастаўляла асалоду скараць гэтага вялікага зьвяра, які пяшчотна цалаваў яе ножкі, аблізваючы кожны пальчык. Такім пяшчотным зь ёй ніхто і ніколі ня быў. І ніхто ня быў зь ёй такім жорсткім і грубым, калі ён уваходзіў у яе. Яго плоць была такой жа вялікай, як і ён сам, але ж ён мог атрымаць асалоду толькі ад такога, як у яе, цела – амаль дзіцячага, тонкага, не нагадваючага цела жанчыны. Ён жадаў кахаць анёла, бясплотны дух, найсьвяцейшую дзеву, якой для яго была яна.

Яны ляжалі, абняўшыся, на ложку.

- Ты - Бог, каханы?

- Бог, любая.

- Але ж чаму ты - Д'ябал?

- Таму, што сусьвет скажоны, анёлак мой. І так ён бачыць мяне. Гэтаму сусьвету няма апраўданьня, яго існаваньню - таму, што ён вораг Бога. Усё у ім супраціўна мне, і мне ненавісна. Акрамя цябе - ты вылечваеш маю душу, хворую сусьветам.

Ён абняў яе і прыціснуў да сябе. Яна сядзела ў яго на руках у пакоі старой хаціны, вялікай, зь нізка насунутым дахам. Ён яе перабудаваў, узьняў і расшырыў. І хоць недалёк ад яе па трасе пабудаваў вялікі сучасны дом, хаціна засталася. Не ўзьнялася рука зьнішчыць яе, зруйнаваць. Усё ж - дзедава памяць, успаміны дзяцінства.

Ёй было хораша зь ім - яна яго кахала. Ён адкрываў ёй дзівосны новы сусьвет - сусьвет яе мараў, яе сноў.

І ён кахаў яе - кахаў так моцна, як раней ня мог і ўявіць. Ня мог уявіць, што магчыма такое каханьне, якое суцэльна зьмяняе тваю душу. Каханьне адчыняе ў душы веды. Яно адкрывае ў ёй Бога.

Вечар, мяккі і цёплы, апускаўся на лес. Змазваў фарбы, прыглушаў гукі. Яе твар перад яго тварам набыў мяккі, нерэальны выраз. Быццам бы дзева з малюнка глядзела на яго праз змрок. Яе тут магло ня быць, і тады б ён памёр. Але ж вось яна - прыйшла, і ажывіла яго. Са зьдзіўленьнем ён бачыў свае рукі - яны былі жывымі, рэальнымі. І яны маглі кранаць яе - цёплы камочак плоці. Нібыта ня верачы сабе, ён дакрануўся да яе рукі вуснамі.

- Дзяўчынка мая, ты - рэальная. Ты - тут, са мной.

- С табой, каханы. Яна абняла яго за шыю легкімі, прахалоднымі рукамі.

Аб такой жанчыне ён марыў заўсёды, такую ён жадаў.

Пяшчотна ахапіў яе. Яна прыціснулася да яго, палажыла чарнявую галоўку на яго плячо.

- Пойдзем на курганы, прагуляемся? – прапанаваў. – Вечар такі цёплы, прыгожы.

- Пайшлі, каханы. Яна пацалавала яго мяккімі вуснамі.

Яны выйшлі ў мяккі вечаровы змрок зь цёплай, жарка натопленай хаціны. Хвоі адразу абступілі іх, елкі зашумелі пагрозна. У далечыні чорны бор узьнімаўся густой поўсьцю – як шчаціньне на сьпіне раз’юшанага дзіка. Мяккая жоўтая сьцяжынка бегла ад самага парога хаты, і адразу нырала ў гушчар. Гублялася ў ім, вабіла ў цемру лясную, глыбокую, таямнічую. Там, у лясной чарнаце пачаналася казка, ведала яна. Яна не баялася начнога лесу, як і не баялася яго. Ён ішоў побач зь ёй, упэўнена, крэпка трымаючы яе за руку. І ён мяняўся. Яна гэта ведала – ён ня быў болей яе айцом, знаёмым ёй, любым, але ж чалавекам з усімі яго слабасьцямі, заганамі і недахопамі, чалавекам слабым, якім і павінен быць чалавек, хоць і моцным і крэпкім мужчынай зь вялікім мускулістым целам, якое ўсё ж паддавалася магутнай руцэ часу. Пусьць і ня так хутка і лёгка, як целы больш слабыя, бо ў іх хаваліся

слабейшыя душы. Яго ж душа нікуды не хавалася, і слабой яна не была. Аднак час і смерць скараюць усё, і ўсіх. Нават і магутны дуб падпарадкоўваецца правілу сьмерці. Ён нараджаецца, жыве, і сыходзіць, пераўтвараецца ў пыл, зямны прах. Той жа чалавек, што ішоў побач зь ёй, чалавекам болей ня быў. Ён пераадолеў сьмерць, ведала яна. І ён вызваліў яе, і паклікаў, забраў яе з сабой. Яны саступілі са сьвятла ў змрок, і галіны самкнуліся за іх сьпінамі. Зьдзіўлена яна аглядала сябе. Яе сукенка, белая, ляцела матыльком праз змрок. Шапацелі складкі адзеньня, пышныя рукавы нагадвалі кветкі, кручаны шнурок пад горлам сьцягваў глыбокі выраз, перад сукенкі быў густа вышаты чырвонымі, сінімі, чорнымі кветкамі, якія віліся і спляталіся па ім, з’ядноўваючыся ў чароўны вузор. Яе тонкая талія была перацягнута тканым яркім поясам, на шыі блішчэлі бурштынавыя каралі, на руках шапацелі бранзалеты. Маленькія ногі ў мяккіх скураных ботах ступалі па пяску, валасы ліліся доўгімі, густымі хвалямі. Яна была ёй, дзевай са старажытных часоў, каралеўнай з кургана, якую пахавалі багата ўпрыгожаную бурштынам на грудзях магутнага рыцара, які ў пасьмерці ахапіў яе вялікай рукой. Яна ляжала там і спала, ведала яна. Яе цела, тонкае і крохкае, магчыма, ужо стала пяском, зямлёй, зьмяшаўшыся зь яго магутным целам, якое праглынула яе, яе пясок праглынае час, сыпячыся бясконца з мінулага ў будучае. Аднак і мінулага, і будучага не было, як не было і сучаснага – усё было адзіным. І ізноў яна бачыла сябе – у белым ільняным строі з карункамі, у мяккім кардыгане, перацягнутым скураным поясам, у гумавых боціках на нагах. Яна ішла побач зь ім, і пазірала на яго, і бачыла яго ў таўстым скураным строі – жосткай куртцы-жыпоне, упрыгожанай металам, які рабіў яе яшчэ больш крэпкай, адштурхваючай стрэлы, у ільняной кашулі і вузкіх нагавіцах цёмнага сукна, у высокіх ботах з каванымі насамі і шпорамі, зь вялікімі грубымі кольцамі на пальцах і шырокімі бронзавымі наручамі на запясьцях, яго чорныя валасы грывай спадалі яму на лоб, перацягнутыя скураным рэмнем, упрыгожаным вялікім камянём-знакам, бо ён быў жрэц, Крыве, воўхв, і не хаваў, а падкрэсьліваў гэта. Насельнікі гэтага лесу ведалі, хто ён, і ён ведаў іх – чортава племя, лясных і балотных духаў, якія заціхалі, калі ён праходзіў. Ад яго ішоў холад, і жар, адчувала яна. І яна ішла побач, ахінутая яго полымем. І ў той жа час ён

быў ізноў ён – яе айцец, яе Міхась, яе настаўнік, чараўнік, насельнік лясной хаціны, які атрымаў свае веды ад дзеда, а дзед – ад другога дзеда, і гэтак – бясконца, далёка, глыбока ў мінулае. Ён лёгка ішоў, хоць ад яго яшчэ пахла сьпіртным. Але ж яна ўжо прывыкла да яго гэтага паху. Наадварот, яго крокі былі яшчэ больш пругкія, упэўненыя, вочы пільна пазіралі праз змрок, і рука крэпка трымала яе руку. Яго чорныя валасы і барада зьліваліся зь цемрай, як і цёмная кашуля, і штаны, і боты. Толькі яна была белай, нібыта кідаючай выклік лесу. Але ж яна нічога не баялася, бо была зь ім. Ды і ад каго ёй было хавацца, калі яе вёў Крыве – старажытны жрэц, якому падпарадкоўваліся і час, і прастора, і ўсе істоты вакол, жывыя і нежывыя.

- Не халодна цябе, красуня мая? – ціха вымавіў ён на хаду, нахінаючыся да яе. – Не, не халодна. Каханы, - дадала яна ў думках. Ён пацiснуў яе руку.

- Хутка прыйдзем. Распалім вогнішча. Пасядзім з табой разам. Як даўно я хацеў гэтага. Ён пацiснуў яе руку, асьцярожна. Яе маленькая кісьць нагадвала пялёстак, яе далоньку ён нават і не адчуваў. Веў яе туды, дзе ўсё пачалося, вёў да самога сябе, туды, дзе быў пахаваны ён – другі, той, зь якім яго пазнаёміў яго дзед, калі яны адчынілі курган. Тады дзед таксама запаліў вогнішча. Яны селі насупраць адно аднаго, і дзед укінуў у вагонь зёлкі зь мяшочка, ад якіх з полымя падняўся густы дым, пахнучы палынам і ядлоўцам. І яшчэ нечым, салодкім, ад чаго кружылася галава.

- Глядзі на вагонь, унук. Глядзі на вагонь, - вымавіў дзед. – Ён заберыць тваю душу. Ачысьце яе, і прынясе яе табе новай, больш моцнай, бясконца моцнай. Голас дзеда губляўся ў цемры, якую праглынаў агонь. Полымя ахоплівала яго. Ён гарэў. Ён ляжаў, не варушася, на вялікім памосьце, а на грудзях у яго ляжала жанчына. Яго мёрцьвая рука ахінала яе, прыціскаючы да сябе магутнай плітой. Жанчына была яшчэ жывой, але ж яна спала. Спала крэпка. Ён жа быў ужо мёрцьвы, і мёрцьвы даўно. З тыдзень таму ён загінуў у бойцы, і яго прынесьлі сюды. Доўга ляжаў ён, акураны дымам кастроў, асыпаны духмянымі зёлкамі, на вялікім памосьце, пакуль рабілі ўсе неабходныя трэбы. Ня

змог сыйсьці, як Крыве – бо яго забрала вайна. Агнявы пераход ня быў зьдзейсьнены, і яго душу праглынула цемра, у якой цяпер ён будзе блукаць адвеку. Жанчына на яго грудзях мірна дыхала, ахапіўшы яго грудзі рукой. Здаецца, ён адчуваў яе дакрананьне. Добра, што яна тут. Што яна зь ім. Што яны сыходзяць разам. Яму ня будзе так самотна ў цемры. Да таго ж, яна сыходзіла дабравольна, і яна была жывая. Сыходзіла, як жрыца – па сваёй уласнае волі. І цяпер яна – мацней за яго, і яна вядзе яго праз змрок. Можа, гэта таму, што яна насіла крыж. Маленькі зьзяючы праменьчык у яе на грудзях, які нагадваў сьвятло паўночнае зоркі. Ён любіў цалаваць яго, адчуваючы яго холад на яе пяшчотнай скуры. Гэта было даўно. Ён знайшоў яе ў начным зімовым лесе – адбіў у каравана ваяроў, якія везьлі падарункі князю з далёкага поўдня. Яна нагадвала птушку, яркую, з бліскучым чарнявым пер’ем – шаўкавістымі валасамі. Яна не разумела яго, а ён – яе, але ж яны быццам бы адразу пазналі адно аднаго. А потым прыйшоў пасланец. Князь патрабуе вярнуць назад тавар. І тое, што яму належыла. Апынулася, што яна – нявеста князя. Гэтая прыгожая цір была рабыняй, за якую той заплаціў шмат грошаў. Яна – хрысьціянка зь невядомае паўднёвае зямлі, насельніца манастыра, дачка старажытнага славутага роду, які вёў сваё паходжаньне зь невядомых усходніх царэй. Пасланец казаў яшчэ шмат чаго. Ён ківаў, і слухаў. І людзі вакол слухалі, і ківалі.

- Князь павінен аддаць рабыню, - вынеслі старыя прысуд. – Шмат гора прынясе нам яна. Хрысьціяне і так ужо точаць на нас мячы, бо мы не жадаем скарыцца іх праклятаму Богу, пра якога мы ўсё ведаем. Навошта нам скарацца сыну, калі мы пакланяемся Айцу. Наш Бог – мацнейшы, бо ён – адзін, і найпершы з усіх Багоў. А тут, на зямле, яго ўвасабляе Крыве. Навошта нам расьпяты? Хай жанчыны ўпрыгожваюцца цацкамі зь яго выявай. Мы ж – ваяры, а не жанчыны. Не рабы, і не слабыя, каб пахіляцца крыжу. Жанчыну вывелі, і адвезьлі. Ён сам прыйшоў да яе ў пакой. – Ты паедзеш туды, дзе крыж, - спакойна вымавіў. Паказаў ёй на крыж, што вісеў на яе шыі, на яе, а потым махнуў рукой за вакно, за лес, туды, дзе блішчэла срэбрам лента Рубона.

- Але ж я не пакіну цябе, - спакойна вымавіў ён. – Я прыйду за табой. Памятай гэта. З гэтымі словамі ён уклаў ёй у руку Знак – залатую выяву на шнуры, якую яна сьціснула далоньню. На імгненьне яму здалося, што ў яе руцэ зазьзяла сонца. І сонца тут жа схавалася за хмары. Ён нахінуўся, і ўдыхнуў яе салодкі вабячы пах. Тады цалавацца ён ня ўмеў. Ён ніколі не цалаваў жанчыну, і таму проста дакрануўся носам да яе шыі. Яна адкінула галаву, і яе рука лягла яму на плячо. Блакітная вена пульсавала перад яго позіркам. Можа, яна хоча, каб ён забіў яе? Але ж гэта будзе азначаць, што яна яму належыць, і тады яго народу не пазьбегнуць вайны. Ён скрыгатнуў зубамі.

- Пайшлі. Узяў яе за руку, і вывеў да паслоў. Тыя нізка нахіліліся. Яна апусьціла твар, і сышла ад яго, як цень.

Ён жа стаяў, чорны, як ноч, і праклінаў сябе. Сьціскаў у кулакі далоні.

- Я забяру цябе, - гучна выкрыў ён усьлед, калі яны схаваліся з позірку. – Забяру цябе. Ня ведаю, як, але ж ты будзеш маёй.

- У ёй – маё семя. Вы ўсе гэта бачылі. Ён павярнуўся да натоўпу. Калі яна народзіць, гэтае дзіця будзе маім. Князь майго народу ўзыйдзе на прастол Палтеск'і. Наша кроў. Мы забярэм тое, што яны адабралі ў нас.

- Чакайце, калі нарадзіцца дзіця. Калі заўважыце першыя прызнакі цяжарнасьці. Вы павінны прыняць яго. Я сам прыму яго. Я – Крыве, я – жрэц, хоць я і ваяр, і князь, чаго не павінны рабіць. Але ж так вымусіў мяне лёс. Аднак - досыць, і цяпер лёсам буду кіраваць я. Досыць волі нявядомых багоў, сваіх і чужых. Цяпер я сам стаў Богам. Чуеце? Натоўп зрабіў крок назад, ад яго, бо позірк яго быў страшны. Чорныя маланкі білі зь яго вачэй, валасы зблыталіся, і закрывалі лоб, шырокія плечы нагадвалі магутныя скалы, пліты, якія ляжалі на далёкіх паўночных парогах магутных рэкаў, барада струменілася сівымі бурлівымі патокамі.

- Няможна тое, ісьці супраціў волі багоў, - вымавіў нехта.

Як маланка, ён павярнуўся, і з перарэзанага горла страпціўца

на натоўп ліванула кроў. – Воля багоў – гэта мая воля, - прарычэў над галовамі яго голас. – Я – ваш Бог. Бог сапраўдны, і Бог Адзіны. Я – Адзіны, Айцец Багоў, і Цар над Багамі. Одын. Цяжка дыхаючы, ён спыніўся.

- Одын! – выклікнула некалькі мужчынскіх галасоў. Ваяры ўдарылі ў шчыты мячамі. – Одын! Одын! – няслося далёка над лесам. Нех

та з паслоў павярнуўся, і апасьліва, але ж з пашанай перахрысьціўся, пазіраючы ў насоўваючыяся аблокі.

Ён нібыта прачнуўся, і пазіраў у вагонь. Дзед глядзеў на яго. Яго сівая барада вагалася за полымем, як кусман туману.

- Ты быў там. Ты ўспомніў? – запытаў ён.

Ён жадаў адказаць нешта, але ж зь яго вуснаў сарваўся глухі стогн, крык, нагадваючы рычаньне. – Ты гатовы, - вымавіў дзед. Пайшлі са мной. На паляне ў зямлю былі воткнутыя тры вялікіх нажа – лязамі ўгару.

- Распранайся. Дзед забраў у яго адзеньне, акуратна злажыў побач. Распрануўся сам, а потым яны па чарзе кувыркнуліся праз нажы. Што было далей, ён не распавядаў нікому. На паляне малады і стары воўк сышліся ў бойцы, і стары перамагчы ня здолеў. Калі ён апрытомнеў, то цяжка дыхаў, лежачы на зямлі. Усяго яго пакрывала кроў. Марудна ён прыходзіў у сябе, цяжка ўстаў, знайшоў адзеньне. Дзед ляжаў на зямлі побач, прысланіўшыся сьпіной да дрэва.

- Калі б ты не забіў мяне, я б забіў цябе, унук. Сын. Таму – усё правільна. Ні аб чым не шкадуй. Дапамажы мне ўстаць. Ён працягнуў наперад руку.

Ён узяў моцную старэчую далонь, нібыта пацягнуў на сябе корань магутнага выварачанага дрэва. Нібыта пацягнуў на сябе ўсю зямлю, і гэты лес з курганамі, і самое неба, якое пахіснулася над ім. Дзед устаў, і аперся на яго. Разам яны пайшлі прэч, з кургана – дамоў. Над галовамі ўзьнімаўся золак.

- А што адбылося потым? – ціха вымавіла яна.

- Потым, сонейка, дзед памёр. Хварэў ня доўга, і сышоў. Сышоў так, як і павінен сыйсьці Крыве. Бо ж ён абраў сьмерць па сваёй уласнай волі – ад маёй рукі. Я б ніколі ня здолеў забіць яго. Потым я зразумеў гэта. Ён апусьціў твар у далоні.

Касьцёр дагараў, мяккія водблескі падалі на яго рукі, афарбовалі чырваньню чорныя, як вугаль, валасы.

- А я – я быў яго сынам. Я даведаўся аб гэтым там, ля вогнішча. Ён сказаў мне гэта, каб я не шкадаваў, што забіваю яго. Ён быў з маёй маці. Тады мне чуць гэта было жахліва. Таму яна і з’ехала ад яго, і аддавалася ўсім, за грошы. Таму не змагла быць з тым, каго лічыла маім айцом. Ён не адпусьціў яе – разумееш?

- Яна сама не адпусьціла сябе, каханы, - ціха вымавіла яна, абдымаючы яго. – Твая маці была сьвятая. Сапраўдная жрыца, годная свайго Крыве. Як і я ніколі ня кіну цябе, каханы. Кім бы ты ня быў, і што б вакол не казалі, мы пойдзем сваёй дарогай, любы мой. Наш пуць – ня пуць сьмяротных, ён ляжыць праз цемру. Твой пуць – гэта пуць Бога, а я – толькі цень твая. Як жа можна пазбавіцца цені?

- Ты – мая душа, анёлак мой, - ціха вымавіў ён, прыціскаючы яе да сябе. – Таямніцы мінулага і сапраўды страшныя. Але ж цяпер для нас няма страху. Усё прайшло, і засталіся толькі мы. Мы прачнуліся, і бачым сябе сапраўднымі. Ён мякка пацалаваў яе вусны.

# Глава 13: Ваўкалак

Ён цалуе яе, і яна сядзіць у яго на каленях у цемры. Ён - другі, але хто ён, яна ня ведае. Яна разумее, што ён - гэта ўсё ж ён, але ж ні месца, ні час ёй не знаёмыя. Быццам бы нехта трэці стаіць паміж імі - страшны, магутны. Такі магутны, што ў яе захоплівае подых, забірае дыханьне, якое яна аддае яму, і ён п'е яго сваімі вуснамі. На ім цёмная сьвітка і кашуля - белая, ільняная. За вакном шуміць лес, а ў хаце цёмна, і прахалодна, як у склепе.

Яе маці паснула - стамілася. Яна хварэе, і яе тонкая постаць ледзь бачная праміж шэрых ільняных падушак. Хутка яна памрэ - разумее яна. Яна ўжо даўно ня зь імі. Ён ня змог уратаваць яе - кожнаму свой час.

Ён прыцягнуў яе да сябе, апусьціў на рукі. Яго вочы пільна глядзяць ёй у вочы - высмоктваюць душу.

- Ты народзіш мне сына, - ціха кажа ён. - Маю кроў. Мне патрэбны сын. Трэба працягнуць род. Яго вочы цёмныя, амаль чорныя, і яна скараецца яго рукам, якія лажацца ёй на грудзі пад кашуляй.

Вусны яго нахінаюцца, кранаючы яе вусны. Але ж ён ня лашчыць, ня песьціць яе. Яна апускаецца на ложак, і яго цела накрывае яе сабой. Яна чуе яго востры пах - пах поту і семені, пах цела свайго айца, які раптам становіцца ёй агідным, адштурхвае яе. Яна яго не жадае, але ж ён сьціскае яе рукі сваімі, прыціскае грудзямі грудзі. Яго сьцягно пасоўвае яе сьцёгны, і ён навальваецца на яе ўсім целам. Гвалціць яе доўга, задавольваючы сваю жарсьць. Яна ціха ляжыць пад ім, глытаючы сьлёзы, плакаць і крычаць яна ня можа - баіцца патурбаваць маці. Нарэшце ён узьнімаецца, і адпускае яе. Яе спадніца задраная, кашуля ўзьнятая на плечы.

- Апраўся - коратка кажа ён. Ён не глядзіць на яе, нібыта яна яго не цікавіць.

Але ж гэта ня так, і яна і ён гэта ведаюць. Яна ціхенька ўстае, і запраўляе спадніцу. Завязвае хустку.

Звонку ён курыць на ганку, пахмура гледзячы на лес. Бажена памірае. Яна была прыгожай, і ён кахаў яе. Але ж яна не нарадзіла яму сына. Толькі нарадзіла дачку. А цяпер ужо позна, і ён стары. Позна шукаць новую жонку, ды ён і не жадае. А яшчэ ён ведае, што так павінна было адбыцца.

Бажена была сьвятой. Адэля ж - уся ён. Яго дачка - чорная, як ноч, з валасамі ў колер крумкачынага крыла. Яна і сама - чорная. Проста яшчэ ня ведае. Ён усьміхаецца пахмура. Як чараўнік, ён павінен працягнуць род. Нарадзіць сына - ад яе. І яна народзіць яму яго. Чорна, глуха шуміць лес. Цямнее. Ён устае, і ідзе ў хату. Заходзіць у пакой, падыходзіць да ложку, і апускаецца перад ім на калені. Прача ў коўдру твар. Яе цела ён амаль не адчувае - яно быццам бы зьнікае ў пустаце нябыту. Ён жа - здаровы і поўны моцы, і за гэта ненавідзіць сябе. Яна сыходзіць, а яму яшчэ жыць. Жыцьцё працягваецца. Яе лёгкая рука кранае яго валасы.

- Не кідай яе, Міхал, - чуе ён яе ціхі голас. - Ня кіну, ластаўка мая, - кажа ён. Яго голас глухі, нібы са дну калодзежу, ці склепу. - Ня кінеш ... гэта добра... памятай: ты абяцаў. Яе рука падае побач на ложак. Ён кранае яе вуснамі, і адчувае, што яна халодная. Усё на гэтым сьвеце скончваецца. Усё пературваецца ў прах. Адзіная таямніца, не падуладная яму. Можа, сын яе пераможа. Унук. Ён ведае, што яна зацяжарыла. Яна яшчэ ня ведае, але ж ведае ён. Чараўнік - сын чараўніка. Сын свайго ўласнага дзеда і брат сваёй маці.

- Мой дзед быў страшны чалавек, - ціха кажа ён. - І страшны чараўнік. Але ж я - страшней за яго, - дадае, памаўчаўшы. Яна сядзіць у яго на каленях, ён гладзіць яе валасы.

- Я таксама хачу сына, - ціха кажа яна. - Хачу сына ад цябе.

Ён усьміхаецца і качае галавой.

- Не хачу працягваць гэты праклятым род, сонейка. Я вызваліў і цябе, і сябе. Але ж хто ведае, як зьдзейсьніцца лёс. Ён замаўкае.

Цяга плоці за яго мацней. Яна нахінаецца да яго вуснаў.

- Гэта ж былі мы, каханы, - ціха кажа яна. - Але ж чаму я не кахала цябе?

- Ты кахала мяне, любая, - ціха адказвае ён. - Толькі не жадала скарыцца. Твая воля была моцнай, і мне непадуладнай. Ты павінна была захаваць яе, каб нарадзіўся я. Перадаць мне сваю волю, каб я стаў мацнейшым за дзеда. Каб перамог яго.

- І ізноў нарадзіў мяне, - ківае яна, разумеючы.

- Але ж сын забірае моц айца, і айцец гіне, - ціха працягнула яна.

Ён кіўнуў. - Так, каханая.

- Твая маці сышла, бо не жадала жыць безь яго. Без твайго сапраўднага айца. Яна прыціснулася ілбом да яго шчакі.

- Яна сышла раней, любая. Сэрца. Заган ад нараджэньня. Такі ж, як і ў мяне. Але ж, можа, і праз гэта таксама. Я ж не хачу сына, бо не хачу працягваць гэты кляты род. Ужо колькі часу мы блукаем па зямлі, хоць ён даўно ўжо для нас выйшаў. Мы з табой не належым зямлі, любая.

Ён цалуе яе.

- Не належым, каханы. Ізноў яна бачыць цёмную, старую хаціну. Хаўтуры ўжо адбыліся, і ідзе трэці дзень. За вакном шэры мяккі дзень перайшоў у дождж. Яна стаіць перад ім, яе рукі ў яго на плячах. Яго вусны сьціскаюць яе сасок маленькіх грудзей, выпрастаных зь белай кашулі. Яна ўздрыгвае - ёй здаецца, што зь яе грудзей цячэ малако.

- ... сына... гучыць у яе вушах. ... ты народзіш мне сына...

Яна лажыцца на ложак, і пакорна рассоўвае ногі. Ён вызваляе свой чэлес, ўваходзіць у яе, і пачынае рухацца. Цемра з-за вакна сочыць за імі, пазірае ёй у вочы, і яна закрывае іх, каб яе ня бачыць.

- Ты - цяжарная! І цяжарная ты ад мяне. Болей ты яго ня ўбачыш. Ён б'е яе па твары - нясільна, але ж яе носу цячэ кроў. Ён абдымае яе, і яе твар зьнікае на яго грудзях. Кроў пэцкае перад кашулі, але ж яны не заўважаюць гэта - ні яна, ні ён.

- Толькі мне, толькі мне ты належыш, - шэпча ён, гладзячы яе плечы.

- Толькі табе, - пагаджаецца ціха яна. - Табе, каханы, і болей - нікому.

# Глава 14: Круг

- Круг у мяне сёньня. Масьцера прыедуць. Цябе, вось, хацела паклікаць. Ты ўсё ж чараўнік, не забыўся? Старога шаноўнага роду. Павінен кругі паважаць. Ганна, насупіўшыся, глядзіць на яго.

- Якія кругі, Ганна. Ён усьміхаецца. - Які я табе чараўнік? Я ж не чарую. Яго вусны рассунутыя в вусьмешцы, ён глядзіць на яе з-пад чорных густых броваў, вочы прыжмураныя, і ў іх скачуць маленькія чарцяняты-агеньчыкі. - Што мне там рабіць? - працягвае ён. - Усялякую лухту слухаць?

- Лухту? Ганна відавочна злуецца. Як так - прынізілі яе калег па цэху, а разам зь імі і яе. Такога яна нікому не прабачыць.

- Дык ня пойдзеш? Яна пагрозна глядзіць на яго.

- Ганна, адчапіся. Ён устае. – Працы шмат. Сапраўднай працы, а ня той бязглуздай, што вы займаецеся. Ну, вось скажы мне, калі вы каго вылячылі? Калі каму вы сапраўды дапамаглі? Што нашкодзілі, гэта я не сумняваюся. А вось якая ад вас карысьць?

- Якая? Ганна таксама паўстае, грудзямі насоўваецца на яго. – Самая сапраўдная! Вялікая ад нас карысьць! А ты не прыкідвайся дурнем. Ты таму на круг ня йдзеш, што нас не шануеш. Узьняўся вышэй высокага – глядзі, балюча будзе падаць! Нельга супраціў сваіх ісьці, ты – чараўнік, і кропка. Калі адмовішся, убачыш, што будзе.

- А што будзе? Што будзе, Ганна? Ён зь цікавасьцю пазірае на яе, але ж у яго вачах ужо зьбіраюцца навальнічныя хмары.

- Тое і будзе! Убачыш. Ганна усьміхаецца пагрозна, і нацягвае на вушы хустку. Думае, і ўсё ж запраўляе яе за вушы.

- Не-пай-ду, - выразна кажа ён. – Мне і апошняга разу дастаткова. Я потым тыдзень піў, каб мазгі прачысьціць. А цяпер мне нельга. У мяне жонка маладая, ругаецца.

- Жонка? Ганна кпіліва глядзіць на яго. – Табе кожная … жонка. Яна дадае бруднае слова.

- Ты мне мазгі ня пудры. Жонка ў яго!

Ты ж ведаеш, хто яна і чаму тут. І я ведаю. Як твой дзед рабіў, так і ты зрабіў, хоць ты і забіў яго, і адрокся. І род свой цяпер сконьчыць хочаш. Толькі не табе вырашаць. Ёсьць над табой дзяды. А што ты лічыш сябе, мо, Богам, ці чортам, гэта твая справа. Адное – кім ты сябе лічыш, а другое – хто ты ёсьць. Загуляўся, ты, Міхал, у гульні. Дужа высока лятаеш. Мы цябе прызямлім.

- Хацела жаба спаймаць бусла, а карова – ваўка. Толькі наадварот атрымалася. Вой, Ганна, ня злуй мяне. Хоць, што ты там кажаш? Добра.

Раптам ён пагадзіўся. - Калі там гэты круг? Дзе, і хто будзе?

- Вось і добра, што пагадзіўся. Ганна адразу палагаднела. – Круг – у мяне. Заўтра, а паўночы. Ды зьбіраемся раней. Ужо а сёмай гадзіне народ падцягвацца будзе. І Піліпаўна, і Вархаламеяўна, і Параска, і Галка, і Снапок, і Чарток, і дзед Мікола, і дзьве Марфы, і яшчэ народ будзе. Стол накрыем, пасядзім. Патрыньдзім. Яна гульліва ўсьміхнулася, і паспрабавала пхнуць Міхася ў бок. Той лоўка ўвярнуўся – нібы яе не заўважыў. Ганна правалілася наперад, але ж ён спыніў яе нявольны рух.

- Тьфу, дурань. Яна выругалася.

- А Мікола яшчэ не памёр? – ён зьдзівіўся. – Яму ж сто дваццаць год!

- Не памёр. Якія яму сто дваццаць? Яму і сотні няма. Чаму яму паміраць? Яна зьнізу ўгару пазірнула на яго.

- Маладзён. Жаніх, - пагадзіўся ён.

- Прама як ты. Ганна ўсьміхнулася кпліва.

- Прыйду. Ён кіўнуў. І раптам дадаў:

- Зь ёй прыду.

- Што?! Ганна ўзьняла на яго вочы. Адкрыла рот.

- На ведзьмаўскі круг? Са шлёндрай гарадской? Нават і ня думай. Калі ты такое зробіш, усіх чараўнікоў раз’юшыш. Гэта – зьнявага. Для таго, каб кагосьці на круг прывесьці, падстава павінна быць важкая.

- У мяне яна ёсьць, - коратка вымавіў ён. – Павер. Я ведаю правілы, Ганна. Бо ж я іх заўсёды парушаю, як ты кажаш. А як можа парушыць правілы той, хто іх ня ведае?

- Ай, ну цябе. Наплёў, як заўсёды. Карацей, я пайшла. Мне яшчэ хату мыць. Сустрэнемся заўтра апоўначы. Ганна разьвярнулася, і пакрочыла прэч па дарожцы, якая ахінала высокі стары дуб. Калі яна праходзіла пад ім, таўставатая галіна з падсохлымі жалудамі з шумам звалілася, і шлёпнула яе па плячы, сьцягнуўшы на бок хусьціну, якая закрыла вока. Ганна нема закрычэла, і спатыкнулася ад нечаканасьці. Ён разрагатаўся.

- Дурань, каб цябе трасца!! Яна павярнулася, і памахала кулаком, сплюнуўшы пад ногі.

Яго высокая постаць на ганку закрывала ўвесь дзьвярны праём – шырокім плячам, здаецца, дзьверы былі вузкія.

- Стары, а дурны! Яна разьвярнулася, пасунула хустку наперад, і рашуча пакрочыла, куды йшла.

Ён таксама ўсьміхнуўся, адкінуў назад валасы, і ўвайшоў у хаціну. Прыгнуўся ў нізкаватым вяршніку, прайшоў праз вялікія чыстыя сені, ладна вымеценыя, у якіх духмяна пахла травой. Усе кадушцы і лары стаялі на месцах, ні сьмецьця, ні рызьзя нідзе не было. Яны зь ёй усё павыцягвалі і павыкідывалі, што – спалілі, а што перанесьлі ў вялікую крытую пуню. Яна так упадабала старую хаціну, што наогул не жадала зьвяртацца ў новы дом – дні стаялі цёплыя, і ён пагадзіўся яшчэ пабыць тут. Яна зь цікавасьцю аглядала пакоі, якія пераходзілі адзін у другі. Некалі гэта былі клеці і гаспадарчыя прыстройкі, але ж цяпер

яны былі пустыя – не было ў яго гаспадаркі, на чорта яна яму. Але ж калі-некалі ён хаціну наведваў, правяраў вокны, дзьверы, нядаўна перакрыў дах – старая дранка зусім прахудзілася. Ён і дах замовіў аўтэнтычны, з чарапіцы ў шэраваты, сівы колер. Атрымалася няблага – амаль не заўважна, што дах сучасны. Высокія дубы велічна стаялі вакол паляны, ахіналі дом галінамі, а за імі прама за сьценамі былой пуні цямнеў густы, глухі лес. Яна зьдзіўлялася ўсяму, і радавалася, як дзіця. А больш за ўсё любіла сядзець зь ім на ганку, прытуліўшыся да яго пляча, піць каву ці гарбату, і пазіраць у гушчар. Дом меў два ўваходы – парадны, і невялікі з высокім ганкам, незаўважны сьпераду – у бок лесу. Ганак жа быў высокі, з разнымі вітымі слупкамі, дзьверы – вузкія, але ж ня нізкія, крэпкія, упрыгожаныя разьбой. Вось і цяпер яны селі зь ёй разам, падсьцяліўшы старую гуньку ад невядома калі жыўшай на гэтым сьвеце лошадзі, і селі на яе, аглядаючы паўстаўшыя зь цемры дрэвы. Маленькая нізкая загародка павалілася і пасела ў траву, і лес, здаецца, наступаў на яе, разіўся прарвацца ў хаціну, але ж спыняўся, быццам бы апасаючыся нечага, і разьбіваўся аб лужайку маленькімі брызгамі елак, якія ён старанна выкарчоўваў, ды яны ўсё расьлі і расьлі, насоўваліся ўсё бліжэй і бліжэй. Лес не жадаў скарацца чалавеку, а чалавек не жадаў скараць яго. Чалавек і лес мірна жылі разам, побач, плячо ў плячо, і было не зразумела, дзе скончваліся зьвярыныя тропы, і пачыналіся чалавечыя сьцяжыны. Толькі тут яна даведалася, што такое лес сапраўдны, глухі, няхожаны. - І як ён тут захаваўся? – зьдзіўлялася яна. Уздоўж вялікіх дарог і паселішч лес быў новы, малады, празрысты, з тонкімі ствaламі і рэдкаватымі кронамі. Тут жа ён быў векавым. Можна сказаць, што і адвечным. Таўстыя ствалы было не ахапіць рукамі, мяккая зялёная цемра глушыла гукі. Крокі танулі ў яго цішыні, словы захлёбваліся. І ўсё ж, ён быў прыгожы, чысты, сухі, з аксамітным сакавітым падлескам і духмянымі буйнымі чарніцамі, грыбамі і суніцамі на сьветлых прагалінах.

Быццам бы іх ніхто не зьбіраў, ніхто пра іх ня ведаў.

Вечар быў прыгожы і ціхі – вясновы вечар. Трава налівалася сокам, маладая хвоя вытачала духмяны пах.

Ён ахінуў яе вялікай рукой, яна прытулілася да яго пляча. Ён быў цёплы, вялікі, і пах прыемна – лесам, і крыху дымам. Гэта месца было дасканалым, і яны ў ім былі дасканалымі, яны належылі яму, а яно – ім, яны ўзаемна дапаўнялі адно аднаго.

- Што, птушачка мая, маўчыш? – запытаў ён яе. – Не шчабечаш, як заўсёды.

- Я слухаю лес, каханы, - ціха вымавіла яна. – Мне здаецца, што ён гаворыць. Толькі я не разумею, што ён кажа.

- Ён расказвае казкі, любая. Казкі на мове такой старой, што на зямлі ўжо не засталося чалавека, які б яе ведаў. Ён нахіліўся, і пацалаваў яе. Яе валасы пахлі духмяна, водарам невядомых кветак, тонкія вузкія плечы ахутваў пушысты белы шаль, белая ільняная блюзка і пышная спадніца надавалі ёй выгляд дзіўны, нерэальны. Нібыта яна і сапраўды выйшла да яго з казачнага лесу, дзівосная русалка, чароўная прыгажуня зь невядомых зялёных глыбіняў.

- Ты ведаеш, што русалкі жывуць у лесе? – ціха запытаў ён.

- Я чытала. Яна пацёрлася шчакой аб яго плячо. – Яны качаюцца на дрэвах.

- І вабяць падарожнікаў сваімі сьпевамі, - працягнуў ён. – Клічуць іх белым целам і чорнымі валасамі. Таму іх завуць зазоўкі. Бо яны зазываюць. І хто пакаштаваў цела такой лясной жанчыны, той ніколі не зможа быць з жанчынай сьмяротнай.

- Так, як я. Ён прыцягнуў яе да сябе.

- Я таксама ні зь кім не змагла б быць, толькі з табой. С табой адзіным. Яна абапёрлася на яго плячо шчакой.

- Пойдзеш заўтра са мной на чараўнічы круг? – запытаў ён.

Яна ўзьняла на яго вочы. – Як гэта? Там будуць сапраўдныя чараўнікі? У яе голасе гучэла захапленьне.

- Будуць. Ён усьміхнуўся. – І сапраўдны – сапраўдныя. Некаторыя зь іх дык нават і небясьпечныя, бо ж яны – розныя,

прыгажуня.

- Але ж ты – самы моцны, - ціха вымавіла яна.

- Я – самы моцны. Ён кіўнуў.

- Ня ведаю, чаго яны запрасілі мяне. Бо я даўно туды не хажу. Людзей я не лякую, ніякае шкоды не раблю, нічога, што яны звычайна робяць.

- А што яны робяць? – пацікавілася яна.

- Хто – што. Хто – лякуе, а хто - усялякую трасцу. Брыдоту. Лечаць словам, толькі толку ад іх лячэньня – аніякага. Што яны там шэпчуць, хто іх ведае. Нейкую лухту. Хто – малітвы перакручаныя, хто – так, ад сябе нешта. Сапраўдных ведаў ніхто зь іх ня мае. Яны сышлі, як вада ў пясок.

- Зусім сышлі? – сумна запытала яна.

- Не зусім. Ён усьміхнуўся.

- Таму ты і ня ходзіш да іх? – запытала яна сур'ёзна.

- Таму і не хажу, сонейка. Бо ж я – чараўнік сапраўдны, а яны лічуць сябе такімі. І што мне там рабіць. Слухаць розную лухту? Хто ў каго карову сапсаваў? А ў гэты раз, я ўпэўнены, яны будуць могілкі дзяліць.

- Як гэта? – не зразумела яна.

- Хто на якой магіле будзе псоты наводзіць. Каб не перасякацца. Ён пацягнуўся. – Яны ўсё дзеляць. Да валуна адзін ходзіць, на возера – другі. Да дубу – трэці. Толькі да сваіх дубоў я іх не пускаю, а болей дубоў тут не засталося. Парубілі на гаспадарчыя патрэбы. Ці цэрквы пабудавалі. А я свае рубіць ня даў. Дзед ня даў, - выправіўся ён. Гэтая дубы тут некранутыя ўжо шмат сотняў год.

- А як адрозьніць, сапраўдны чараўнік, ці не? – пацікавілася яна. – Ніяк. Ён пацiснуў плячыма. – Гэта ж адразу бачна. Вось я – сапраўдны? - ён павярнуўся да яе, зазірнуў ёй у вочы.

- Ты – сапраўдны, - падцьвердзіла яна. – Калі-некалі мне здаецца, што ты – адзіны сапраўдны ў сьвеце, каханы.

Калі яны прыйшлі да Ганны, ужо было амаль цёмна – пераваліла за дзясятую гадзіну. У невялікіх нізкіх вакенцах чырваньню гарэў вагонь – не электрычны, зразумела яна. Гэта быў агонь жывы, той, які высякаюць з камянёў, калі сінія іскры падаюць на сухі трут, і ўспыхваюць, асьвятляючы схіліўшыйся над імі твар. І тады чалавек дуе на вагонь, быццам бы надае яму моцы сваім подыхам, а полымя убірае чалавечае дыханьне, і расьце, буйнее, квітнее чароўнай кветкай-папарацьцю, вымушаючы захапляцца цуду нараджэньня вагня – кожны раз сьцьвярджаючы тым самым літасьць да чалавеку багоў. Бо там, дзе ёсьць агонь, ёсьць і жыцьцё. Жыцьця няма без агня, як вясны – бяз сонца. Агонь існуе ўсюды – і ў небе, і ў зямлі, і ў чалавеку. Толькі з вадой ён не сябруе, і адзінае месца, дзе могуць разам існаваць і вада, і агонь – гэта чалавечае цела, і душа. Ды яшчэ – неба, хмары адвечна змагаюцца з сонцам, ды ня могуць загасіць яго. Крэсівы-хмары высякаюць агонь маланак – вялікая боская рука б’е хмарай аб хмару, каб пасылаць агонь людзям. Хто зьбярэ гэты нябёсны агонь – агонь маланкі, ды не загасіць яго, а здолее зьберагчы, той набудзе моц вялікую, роўную багам.

Разам яны ўзьняліся на ганак, і ён таўкануў вялікай рукой цяжкія дзьверы. Яны адразу ўвайшлі ў хаціну – сенак у Ганны ў яго разуменьні не было, пакой, перагароджаны печкай, пачынаўся адразу за маленькай каморай пры ўваходзе. Хаціна была няярка асьветлена лучынай, і гаршчкамі з вугольлямі, зь якіх курыўся прыемны салодкі дым. Пасярод стаяў доўгі стол, накрыты, на якім якіх толькі страваў не было – і вэндліна, і гародніна, і пірагі, і клёцкі, вылажаныя гарой у шырокай круглай місе. За сталом сядзела некалкі чалавек – ня шмат. Меньш дзясятку. Ганна займала месца збоч, у галаве сталу пасядаў стары дзядок, маленькі, з доўгай белай барадой, у капялюшы, нагадваючым баравік.

- Вечар добры! – паздароваўся ён.

- І табе вечар добры, Міхал. Дзядок кіўнуў, астатнія ж павярнуліся, і моўчкі аглядалі іх.

- Па кім клёцкі ладзім? – запытаў ён старога.

- Па табе. Дзед усьміхнуўся бяззубым ротам.

- А навошта – па мне? Бо ж я - жывы.

Ён шырока ўсьміхнуўся. Ахінуў яе рукой.

- Гэта зь якога боку паглядзець. Мікола пагладзіў бараду. – Як можна назваць жывым таго, хто блукае паміж тым і гэтым сьветам, Міхал? Хто паўстаў з магілы, у якой яму было наканавала ляжаць да страшнога суду, паўстаў самавольна, супраціў усіх законаў, і боскіх, і чалавечых. Ты перайшоў мяжу, Міхал. Ты цяпер – нечысьць. Ваўкалака, нябожчык, які толькі прыкідваецца жывым. Колькі год таму ты памёр?

- Ня ведаю. Я не лічыў. Ён усьміхнуўся. - Там няма часу. Ты ж ведаеш.

- Такіх як ты, прабіваюць калом. Мікола паправіў капялюш, шчоўкнуў пальцамі, і сьвячу на стале задула подыхам ветру. Твары вакол схавала цемра.

- Ды вось вы ня здолелі. Маё цела ня трапіла вам у рукі. Вы нават і ня ведаеце, дзе яно. Тут жа я з вамі ня ў целе. І калом мяне не забіць. Я не баюся ні нажу, ні мячу. Ні агня, ні вады. Няма на сьвеце той сілы, каб мяне зьнішчыць. Бо я перайшоў мяжу, і здолеў зьвярнуцца назад, але ж ужо ня тым, кім я быў. Яна ня бачыла яго твару ў цемры, але ж яна ведала, што ён – цёмны, амаль чорны, і імя яму – сьмерць. Яго моцная рука крэпка трымала яе руку, і была гарачай, хоць яна і адчувала яе холад. Па яго скуры пайшлі сінія плямы. Яе ж далонь была белай, амаль празрыстай, быццам бы ў яе жылах не было крыві.

- Але ж я прыйшоў сюды не адзін. Раптам ён усьміхнуўся.

Сьвяча ўспыхнула ізноў. На гэты раз яе вагонь быў сінявата-белы, і нагадваў балотныя вагеньчыкі.

Прыглядзеўшыся, яна заўважыла, што гэта не сьвяча, а маленькая місачка, у якой, як у вазерцы, плавала кветка – язычок полымя. У сьвятле лямпы твараў бачна не было – толькі

рукі, якія рухаліся, ламалі хлеб, і нібыта казалі нешта. Як могуць казаць рукі, яна не разумела, але ж яны гаварылі зь імі. І мова іх была старой, пагрознай, магутнай, як мова каранёў глыбока ў нетрах зямлі. Пальцы размаўлялі з пальцамі, далоні – з далонямі. Яны раіліся, зразумела яна. Абмяркоўвалі нешта, што яна не разумела, але ж разумеў ён.

- Ты прымеш нас, Мікола? Прымеш яе, і мяне – разам? – гучна запытаў ён, і ярка запалала на стале мноства сьвечаў. Цяпер яна бачыла твары – старыя жанчыны ў простых дзеравенскіх хусьцінах моўчкі сядзелі, пакачваліся, быццам бы сьпявалі бязгучна. Ці гэта яна ня чула іх, раптам зразумела яна. Усё вакол бачылася, як праз ваду, праз густаваты духмяны дым.

- Дзяўчынка, - нягромка вымавіў стары. – Падыдзі сюды. Яго твар наблізіўся да яе, нібыта падплыў у паветры, але ж ён не варушыўся, і зь месца не сыходзіў.

- Маладая, - вымавіў ён нарэшце. – Ты – яго дзіця. Ты ведаеш, што ён мёрцьвы, красуня? Што праводзіш ночы ў абдымках сьмерці? Вусны твае кранаюць мёрцьвыя вусны, і ты прымаеш у сябе плоць нябожчыка? Ты ведаеш яго від сапраўдны?

- Ведаю, - ціха вымавіла яна. – Яго сапраўдны воблік – сьвятло. Яна павярнулася да яго, і ён нахіліўся, і прыпаў да яе вуснаў. Яго твар быў цёмным, і вусны халоднымі. Яна адчула яго подых – подых тленьня, і крэпка ахапіла яго за шыю. Яго рукі самкнуліся вакол яе, як кола – крэпка, не разарвеш. Яна палажыла далоні на яго скроні, і павярнула да сябе яго твар. О, які ён быў прыгожы! Твар мёртвага рыцара, які стаяў перад ёй жывы, набыўшы дзеля яе цела, перамогшы і самое сьмерць дзеля яго да яе каханьня. Як магла яна не кахаць яго, таго, хто прыйшоў да яе зь бездані! Хто ўваскрасіў сваё мёртвае цела дзеля яе, хто кінуў выклік законам гэтага сьвету і нават самому Богу, бо яго воля вяла яго, воля, якую ён паставіў вышэй за Боскую, каб перамагчы гэты сусьвет, і быць адвечна зь ёй.

- Ты – Бог, каханы, - ціха вымавіла яна. – Бог мой сапраўдны, Бог адзіны. Яна апусьцілася перад ім на калені, і прыпала да яго ног, ахапіўшы іх, і прыціснуўшыся да іх тварам. На іх былі халодныя жалезныя паножы, і высокія чорныя боты са срэбнымі

шпорамі. Яна адчула на сваім плячы яго руку – у цяжкай скураной пальчатцы, упрыгожанай срэбрам. Ён узьняў яе, і прытуліў да свайго пляча. На ёй сучаснае адзеньне пераўтварылася ў аксамітную сукенку, чырвоную, як кроў. Яна разумела, што часу тут не было, і яны тут зараз – сапраўдныя. Рыцар, і яго каханая. Ён захіне яе ад усяго, разумела яна. Ад усяго і ўсіх, і на тым, і на гэтым сьвеце. І раптам ізноў яго рука стала цёплай і мяккай. Ён глядзеў на яе, і ўсьміхаўся.

У хаціне прыемна гарэла мяккае сьвятло.

- Сядайце за стол, маладыя, - нягрока вымавіў дзед. – Хаўтуры сконьчыліся, і цяпер мы будзем сьвяткаваць вясельле.

Ён апусьціўся на лаву побач, і яна села ля яго.

- Ня часта тое было, каб я вянчаў мёрцьвага рыцара зь яго каханай. Мікола ўсьміхнуўся ў бараду.

- Таго ніколі не было. Ён кіўнуў. – Павянчай нас, Мікола. Ты ж – сьвятар.

- Калісьці быў. Дзядок махнуў рукой, кранаючы яго і яе лоб. Начарціў на іх нейкія знакі – быццам бы напісаў нешта.

- Ну, што там у цябе, Ганна? – нарэшце вымавіў ён, павярнуўшыся. Ганна важна надзьмулася і пракашлялася.

- Марфа чорнае робіць, - незадаволена вымавіла яна. – А дазволу ў яе няма. Яна можа толькі на ваду чытаць ад суроку, які сама навяла. На прывароты ў яе дазвол адзін раз у квартал. А яна робіць кожны тыдзень. Я ўсё ведаю.

- Адкуль ведаеш? – вызьвярылася Марфа, маленькая сухаватая кабета ў белай хустцы ў сінюю кветачку.

- Варона на хвасьце прынесла, - гаркнула Ганна. – Я перад тваёй хатай усю нядзелю сядзела. Народ да цябе, як у царкву ішоў.

- Тое па ваду! – візгліва выкрыкнула Марфа.

- Ага. Маладзіцы ўсе як на падбор, навошта ім тая вада. Хіба я

ня бачу. Ты мяне за дурную не лічы. Прывароты мая справа. Я чорнае раблю, і рабіла, у мяне безьліміт! – важна вымавіла Ганна, выпяўшы вялікія грудзі.

- А хто табе яго даў? Га? – Марфа прыжмурыла вока.

- Чорт! Чорт мне яго даў! А ты перабіваеш, мыш царкоўная! Ганна пасунулася да яе – праз стол, наперад.

- Вып’ем, Міша? – запытаў сумна стары, тузануўшы сябе за бараду.

- Вып’ем, дзед Мікола. За сустрэчу! Ён узьняў чарку, адной рукой ахінаючы Летыцыю за плечы. Узяў яе талерку, і палажыў туды дзьве вялікія клёцкі. Паліў сьмятанай. Дадаў яшчэ салёных грыбоў.

- Еш, сонейка. А тое глядзець на цябе балюча. Як сьвяты дух.

Сам узяў зь яе талеркі грыб. Дзед, не закусваючы, пацёр вусы рукой.

- Добрае віно, - нарэшце вымавіў ён.

- Гэта маё, я сам рабіў. У мяне – прыбор. Дыстылятар. Я ж ня Ганна, зь вядром вошкацца.

- А я ў бочцы – па-старому. Мікола прыжмурыў вочы.

# Глава 15: Дульсінея

- Олег, ну слушай, будь ты, наконец, мужиком. Ну что ты киснешь. Что тебе, баб мало? Ну, каких тебе нужно подогнать? Я те любых подгоню. Вот, смотри. Вадзім адкрыў галерэю ў смартфоне, працягнуў яму. – Видишь? Какие хочешь! И блондинки, и брюнетки. Ён зарагатаў, нібыта вымавіў добры жарт.

- Ня трэба, дзякуй. Алег пасунуў яго руку, памахаўшы адмоўна галавой. Вадзім не пакрыўдзіўся, і ладней уладкаваўся ў крэсьле, выцягнуўшы караткаватыя ногі. Яго вочы, татарскія, з прышчурам, хітра глядзелі на яго.

- Слушай, ну ты ж умный мужик. Без пяти минут кандидат. Видный. Денег, правда, у тебя немного, но в целом для Минска достаточно. Ты не думай, они не такие дорогие, как кажутся. Это они прикидываются – у них тактика своя. А за твою квартиру они тебе ботинки языком мыть будут, про остальное я и не говорю. Ён ізноў зарагатаў, радуючыся сам сабе.

- Да ты глянь, глянь. Неужели никто не нравится? Ён пасунуў яму смартфон прама пад нос. Алег глянуў, пазіраў з хвіліну, а потым ізноў пакачаў галавой.

- Слухай, ну, шчыра кажучы, не жадаю я цябе, Вадзя, пакрыўдзіць, але ж яны нейкія … сяляначкі. Калгасьніцы. У мяне такіх усё завочнае, і палова вочнага аддзяленьня. Я ад такой ледзь пазбавіўся – учапілася, як клешч. Ад успамінаў ён уздрыгнуў.

- Ну, тебе не угодишь. Вадзім разьвёў рукамі. – А по мне – девочки просто класс! Кляс, як ты кажаш. Цудоўныя дзяўчынкі. Я их тщательно отбирал, у них и санкнижки у всех имеются. Они ж в общепите работают, - ізноў састрыў ён.

- Ну, так. Ты ж дарэктар, табе лепш бачна, што там у іх ёсьць, і дзе. Толькі ўсё роўна, ня трэба.

- Ну, ня трэба, так ня трэба. Сходи ты ко мне в клуб хоть раз, посидим нормально, отдохнём. Адпачнеш. И познакомишься там с кем-нибудь. Пазнаёмішся. Вадзім працягнуў руку, каб хлопнуць яго па плячу. Алег ухіліўся, лоўка.

- Каб не былі мы з табой сябры дзяцінства, Вадзік, дык я б цябе і на парог не пусьціў, - падумаў ён. Вадзім ужо парадкам надакучыў яму, і распуснай, нахабнай манерай паводзінаў, і сваімі шчырымі парадамі, ад якіх Алегу хацелася ванітаваць.

Але ж ён толькі крыва ўсьміхнуўся, і вымавіў:

- Ты ж ведаеш, што клюбы – ня мой фармат адпачынку. Я лепш дома, з кнігай. Ці – з вудачкай на возеры. На працы стамляюся, галава баліць, цішыні хочацца, а ня гвалту. І жанчыну хочацца спакойную, - памаўчаўшы, дадаў ён. – Не каб таскала ў клюбы. А каб паразмаўляць можна было. Пагуляць разам. На прыроду з'езьдзіць.

- Да тебе кореш нужен, а не женщина. Вадзім шырока ўсьміхнуўся. – Ну и что, твоя баба, по которой ты сохнешь, она – такая? Вот прям такая – гулять, книжки обсуждать? С удочкой, может, сидеть? Слушай, ты её себе нарисовал, но она ведь не такая совсем. У тебя бы с ней ничего не получилось. Я тебе говорить не хотел, но я её знаю. И, как это тебе сказать, в не совсем приличном смысле. Ну, я сам её не … того, короче, ты понял. Но в целом наслышан. Ты ж посмотри, какая она. Воскреси в памяти её светлый образ. Обычная шалава.

Гэта ён вымавіў лёгка, нібы сплюнуў праз зубы, і Алегу захацелася яго забіць. Вот так, проста. Узяць, і пракнуць мячом – кароткім, такім, якім дабіваюць на полі бойкі, які носяць на баку пад плашчом. Мізэрыкордыя называецца. Вось быў бы ў яго такі меч-джала, ляжаў бы цяпер Вадзім на канапе, і зьдзіўлена пазіраў у паталок. Ці, лепей – на полі, і глядзеў бы шклянеючымі вачыма ў неба. А ён бы схіліўся над ім зь вялікім мячом. Кіньжал – гэта неяк па-злачынску. Не шляхетна. Ён жа не забойца. Ён – рыцар. Заўсёды сябе такім уяўляў у сваіх дзіцячых марах, як ён змагаецца з мельніцамі і драконамі, як вызваляе прыўкрасную даму з зачарванай вежы, і зьздейсьняе ў яе імя ўчынкі. Яна была такой дамай – прыўкраснай ледзі зь яго

мрояў. Словы Вадзіма абразілі не яе – яго, быццам бы яго хлопнулі па твары бруднай рукой, пакінуўшы чырвоную агідную пляму. Ён яшчэ памятаў смак яе вуснаў, яе лёгкі подых на сваёй шчацэ, шоўк яе цяжкіх валасоў, закрываючых коўдрай белыя плечы. Перад ёй хацелася паўстаць на калені і цалаваць яе ногі. Шлёндра! Для такіх, як Вадзім, яна ёю і была – прыгожай даступнай дзяўчынай, трафеям, самкай, на якую можна і трэба паляваць, а потым пахваліцца заваяваным, павесіць памяць аб ёй недзе у далёкім пыльным куце, і пайсьці паляваць на іньшых. Што ён ведае, што разумее, суценёр грэбаны. І яшчэ паказвае яму свой прастытуцкі каталёг. Зьдзекваецца, ці што? Але ж Вадзім, было бачна, ня зьдзекваўся. Спакойна глядзеў на яго, скрыжаваўшы рукі на грудзях.

- Слушай, может, тебе и больно, но ты послушай всё равно. Я её видел несколько раз. Она ко мне в клуб приходила. Да, высокая такая, стройная. Красивая. Яркая такая баба. И приходила не одна. Парень с ней был один, специалист по … веществам. Ну и разные другие дела вертел. Ну, ты понял. Она при нём была, как бы тебе это сказать прилично … короче, его ручная блядь. Он её везде таскал с собой, для статуса. Для компании. Ну, знаешь, такая красивая девочка, сидит, улыбается. А когда нужно … ну, ты понял. Создавала настроение. Знаешь, она, конечно, интересная. Что-то в ней есть. Но по мне, так весьма и весьма средне. Худая для меня слишком. И, честно, блаженная какая-то. Застенчивая. Вид – как у монашки, глаза коровьи, только ресницы моргают. Такая, не от мира сего. Ну да, не глупая, даже слишком. Разговор могла поддержать. Для бабы, может, так и не надо. Ну и молодая, видно, совсем. Я подростков не люблю, а в ней что-то такое детское есть. Что-то извращённое. Даже для меня. По мне, женщина должна быть такая, ну, как дорогая тачка – гладкая, отшлифованная до блеска. Тюнингованая. С буферами, фарами. Сиденьем. Чтобы как вдавил в … педаль, и – фрррррр, полетела душа в рай со скоростью две сотни в минуту. А эта какая-то – бледная, не знаю. Такая, как модели – томно-отсутствующая. По мне, совсем не секси. Но вот я видел – да, мужики на неё реально залипали. Знакомый один мой вообще крышей съехал из-за неё. Тоже Олег, кстати. И нахера она ему – была у него нормальная

баба, и не одна. Он всё её выебать мечтал, только Алекс этот ебанутый ему чуть челюсть не вынес, и на этом всё кончилось. По мне так из-за бабы драться – последнее дело. Не знаю, вроде бы он потом её всё-таки отпёр. Я как-то не вникал. В общем, ничего особенного в ней нет. Поверь мне. Бывают и получше бабы. А эта – богиня, с такой намаешься. Богини только мозг выносить могут. О, это у них получается отлично! Выдатна.

- Ведаеш, зь кім яна зараз? – Алег пахмура глянуў на яго.

- Она? Не знаю. Давно не видел её, кстати. А что?

- Яна зь Міхалам. Міхаілам. Можа, чуў пра такога? Скульптар быў. Але ж ня дужа вядомы. Вучыўся добра, ды адразу ў андаграўнд сышоў. На хутары жыве. Мячы робіць. Куе рознае – гістарычнае, дасьпехі, зброю.

- Погоди, в смысле? С Мишкой живёт? С хутора? У которого – кузница? Вадзім зацікаўлена ўзьняў твар.

- Этот Мишка ж знахарь. Воду заговаривает, типа. И много чего ещё. Он же известный… чёрт, - раптам дадаў ён. – Такой – чертила. Мефистофель просто. Там биография – мама моя. Он же в Боснии воевал, ты в курсе? В партизанах. Ну, война всё списала. Он вообще товарищ опасный. Блин, а как это она? Ничего себе. Слушай, я честно не знал, он вообще одинокий жил всегда. Как-то ни одна баба не прижилась с ним рядом. Скульптор… каваль … Вадзім усьміхнуўся крыва.

- Но она совсем молодая, слушай…Так ему ж уже лет. За пятьдесят точно. Слушай, я вот думаю … блин… Ну, она ж реально ему подходит. Похожая на него, как сестра. Тьфу, какая сестра… как дочка. Блин, точно. Вот прям копия. Бывает же такое… Мишка бабу нашёл. С бабой живёт. Вадзім пакруціў галавой.

- Я чуў, яны расьпісаліся. І павянчаліся ў касьцёле. Так што ніякая яна яму не дачка, а жонка. Афіцыйная. Алег паморшчыўся, як ад болю.

- Да? Ну, тогда точно не дочка. Просто его типаж, видимо. И

как они познакомились? Интересно даже. В клубы он не ходок. Погоди, Олегу он для ресторана делал что-то. Какой- то большой сложный проект. Целый арсенал ему сковал, и рыцарей – прямо как живые. Может, через него? Ну, ясно … бедная девочка, - раптам дадаў ён, памаўчаўшы. – Я тебе одну вещь расскажу про него. Только ты никому ни слова. Хотя, ты и так ни с кем не общаешься, отшельник грёбаный. Ён ізноў рассьмяяўся.

- Короче. Стрёмный он тип. Больше того я тебе скажу – на моих руках крови нет, а вот на его – есть. И случилось мне как-то общаться с бабой одной, подруга моей первой жены. Так вот, она от него чуть ноги унесла. Он её чуть нахрен не забил. Не знаю, что там было, но она про него вспоминать даже не хочет. Да, денег у него – до хрена. Может, и побольше, чем у меня. Огромные деньги, не все – его, ну, так бывает. Только, как бы тебе это сказать, Олежка. В общем, он – извращенец, садист. Ну, таким, видимо, на войне стал. А как выпьет, так совсем крышу сносит. Он и не соображает, где он, кто он. Чушь такую несёт. Олега один раз мечом нахрен чуть не зарубил. Тот с ним помахаться решил, ради смеху. Ну, ты ж знаешь, Олег – он рыцарь, тамплиер, блядь, печального образа. Ну, каждый сходит с ума, как хочет. Короче, выпили они и решили помахаться. И этот Мишка за полсекунды его чуть пополам не развалил. Я не шучу. Олег долго отходил потом – пил месяц не просыхая. Между жизнью и смертью побывал. Слушай, а она тогда уже с ним была – с Мишкой этим. Блядь, они ж из-за бабы подрались. Точно. Только Олег пошутил, а тот – ни хера. Ну и чуть не завалил его. А что ему? Лес рядом, закопал бы где, и всего делов. Или б озеро кинул. И твоя эта дульсинея, любимая твоя идеальная, с таким мужиком живёт. Ну, поздравляю. Замуж за него вышла. А ты знаешь, вот у меня иногда такое впечатление складывается, что бабы любят, когда их пиздят. Насилуют. С говном мешают. Они таких тогда ещё больше любят. Мазохистки. Нет у нас нормальных баб, Олег. С достоинством. Вот только такие – подстилки.

- Ня ведаю, Вадзім. Мне здалося, ён яе любіць. Ды і не благі ён чалавек. Вумны, цікавы, выхаваны. Я зь ім у яго на зямлі раскопкі рабіў – там яго родавы маёнтак, стары. Ня ведаю

нават, колькі і год. Першы прыклад готыкі ў краі. Самы старажытны. І ён усё так распавядаў, з захапленьнем. І яна мне здалася шчасьлівай, ведаеш. Хай будзе шчасьлівая. Хоць і зь ім. Мне ўсё роўна. Давай, яшчэ па адной, і разыходзімся. Мне заўтра ўставаць рана. На рыбалку дамовіўся ехаць. Адпачну душой. Прырода лечыць. Яны звонка стукнуліся келіхамі.

# Глава 16: Праца

- Якая табе работа? Ты што, звар'яцела? Я што, жанчыну трымаць не змагу? Каб ні пра якую работу я нават і ня чуў. Адкуль у цябе ўзяліся такія думкі? Хіба ж табе што патрэбна, што я табе не даў? Можа, ня даў, дык ты скажы. Толькі ты мяне ня крыўдзі, каханая. Птушаня маё. Ты наогул уяўляеш, што такое работа? Гэта ж ты сабе наогул не належыш. Гэта як рабства, толькі горш. Бо раба і кормяць, і апранаюць. А работа - калі на гэта яшчэ і трэба дадаткова зарабіць. Бо грошы за работу ня плацяць. Толькі каб ня здохнуць і да яе дапаўзьці. А работа - яна бясплатная. Кожнага раба і кормяць, і апранаюць гаспадары па яго занятку. Калі трэба моц, мясам кормяць. Калі трэба відам ураЖваць, апрануць у золата. А на рабоце толькі работу дадуць выконваць, а пра астатняе ты сам дбаеш. Я цябе буду карміць, апранаць, бо ніякае працы табе ня хопіць, каб апранацца і жыць так, як ты любіш, а ты будзеш марнаваць час - на работу езьдзіць. І думаць будзеш толькі пра яе. Яна цябе ўвесь мозг затлуміць. Ды і наогул, тут, дома - ты ў мяне каралева. А на работе ты кім будзеш? Не, нават і не прасіся. І ня думай пра гэта.

Ты не апранутая, галодная, ці што?

- А можна тады, каханы, я на цябе папрацую? Можа, табе дапамагчы што трэба? Яна робка паглядзела на яго.

- Кім? Ад зьдзіўленьня ён нават спыніўся.

- Кім ты на мяне будзеш працаваць? У кузьне? Ён раптам зарагатаў. - Сонейка, ад цябе толку, ты мяне, канешне, прабач, ня многа. Ну, я ня тое меў наўвазе - ты, канешне, разумная, і дбайная, акуратная, я нічога не кажу. Але ж хлеб нам баба Нюра пячэ, градкі Іван капае, а мне шмат ня трэба - я і каве рады з бутэрбродамі. Ты ў мяне не для таго. Не для працы.

- А для чаго я? - пацікавілася яна.

- Для душы. Для каханьня, - патлумачыў ён. - Найдзі сабе

занятак, які хочаш. Хобі нейкае. Толькі пра працу каб я болей ня чуў. Нада ж такое прыдумаць - праца! Ён усьміхнуўся і пакачаў галавой, праходзячы ў дзьверы. Працы насамрэч было шмат - не да таго, каб слухаць дзіцячую лухту.

Шмат, але ж ня той, пра якую магчыма было падумаць, аглядаючы вялікі будынак кузьні і немалую гаспадарку, утрымоўваць якую і сапраўды было ня проста. Былі яшчэ і іньшыя справы, пра якія ёй крый божа ня трэба было ведаць, якія былі асноўнай крыніцай яго даходаў, а ня кузьня і ўсе гэтыя выставы і выкладаньне, якія насамрэч былі хобі, накшталт таго, якое ён ёй прапанаваў займець. Ён разумеў, што ёй сумнавата было сядзець тут зь ім у лесе. Хацелася нечага, у чым яна магла разьвівацца, атрымаць пэўны сацыяльны статус у сваіх вачах. Бо ж таго, што яна насамрэч мела, было ёй недастаткова. Яна была прыгожай, якой толькі можа быць прыгожая жанчына. Прыгажосьць яе сапраўды ўражвала, нават палохала, вымушала слупянець. Толькі праз яе яна магла б зь лёгкасьцю набыць якую заўгодна працу – мадэлі, актрысы, рэферэнта ці адміністратара, кансультанта. Гэткую прыгажуню ніхто б не разьвярнуў на парозе. Можна сказаць, што ёй усе дзьверы былі адчыненыя. А пра працу накшталт эскорту дык нават можна і не казаць. Такая жанчына магла б зарабляць вялікія грошы. Яна была дарагая, вытанчаная, элегантная, вумная, шляхетная. Усё, што толькі можа быць у жанчыне каштоўнага, было ў ёй. Прыгажосьць адчыняе усе дзьверы, адкрывае любую дарогу. Таму з працай у яе б праблемаў не было. Толькі зрабіла б яе гэтая праца шчасьлівейшай? Сьвет унушае жанчынам, што яны павінны нешта рабіць, павінны працаваць на ўзроўне з мужчынамі, і быць нават лепей за іх. Тое, што яны проста ёсьць з мужчынамі побач, нібыта не дастаткова. Але ж сапраўдная праца жанчыны – быць жонкай, быць каханай, падтрымліваць мужчыну ўва ўсім, даваць яму радасьць, суцяшаць душу, узьнімаць яе сваёй прыгажосьцю, хараством. Мужчынскі сьвет і так ня просты, і жыцьцё у ім ня сахар. Канкурэнцыя, адказнасьць, задачы такія, аб якіх жанчына нават і не здагадваецца ў сваім маленькім утульным сьвеце, які для яго самога нагадваў сьвет дзіця. І адзінае, што ён хоча, гэта мець прыгожую, лагодную жанчыну побач, якая будзе чакаць

яго, калі ён прыйдзе дамоў, падтрымае яго, суцішыць яго душу, выслухае, змые з яе бруд і чарнату, якія ён прынёс звонку. У жанчыне мужчына жадае бачыць анёла. Не другога мужчыну, не дабытчыка дабрабыту ў хату. Гэта, наадварот, мужчыну зьневажае, калі яго жанчына вымушана зарабляць грошы, сутыкацца зь іньшымі мужчынамі, якім яна будзе вымушана ўсьміхацца, выконваць іх загады, служыць ім значна больш, чым яна магла б служыць яму. Калі жанчына ідзе ў сьвет, значыць, што ў яе няма таго, хто б мог паклапаціцца аб ёй. І тады якое права мае на гэтую жанчыну такі мужчына, пры якім яна вымушана зарабляць грошы на свае, і крый божа, на яго патрэбы? Калі ж мужчына можа забясьпечыць жанчыну ўсім неабходным, і нават болей, то навошта ёй працаваць? Хіба ж дома працы не хапае? Недзе ён чуў такое слова – самарэалізацыя. Быццам бы самарэалізавацца можна толькі праз працу на кагосьці, праз зарабленьне грошаў. А калі жанчына прысьвячае сябе каханьню, сям'і, і самой сабе, і проста жыве, квітнее, як ружа ў райскім садзе, то яна не самарэалізуецца? Хто і калі вырашыў, што жанчына павінна канкурыраваць, змагацца за месца пад сонцам, спаборнічаць, каб атрымаць прызнаньне? Калі ёй падабаецца нешта рабіць, хай робіць, што хоча. Хай вывучае штосьці, займаецца мастацтвам, музыкай, чытае, стварае нешта прыгожае – робіць жаданае для душы. Не для іньшых, каб даказаць штосьці камусьці. Хіба ж ён кахае яе за яе дасягненьні? Ён кахае яе за тое, што яна ёсьць – такая вось прыгожая, дасканалая, мудрая, добрая, пяшчотная, ласкавая, і наіўная, як дзіця. За тое, што яна – анёлак. Ну навошта ёй праца? Праца патрабуе абавязкаў, выгады, рэнтабельнасьці. Адное – сабраць кветкі ў прыгожы букет, а другое – гандляваць такімі букетамі. Ці прыгатаваць ежу для сваёй сям'і, альбо працаваць поварам.

Да таго ж, ён быў Бог раўнівы, аб чым не раз казаў ёй, не жартуючы. І ў яго сьвеце яна павінна была належыць толькі яму аднаму. Належыць яму, як Богу. І гэта было правільна, бо душа вольная абіраць паміж зямным і нябёсным, бляскам гэтага сьвету, і каханьнем да Айца. І калі душа сапраўды мудрая, і жадае набыць жыцьцё адвечнае, і можа адрозьніць золата сапраўднае ад бліскучых цацак, то яна перад сусьветам абярэ каханьне, якое адзінае ў ім магчыма: каханьне яе да Бога, бо

Бог кахае яе заўсёды неабумоўлена, як яе самую кахаў, і кахае ён. Але ж сьвет вабіць і цісьне, вымушаючы душу сумнявацца ў тым, што яна годная Айца, годная Бога. І зло ў ім нашэптвае душы, што сапраўдная яе каштоўнасьць ня ў тым, як яна служыць Богу, а як служыць сьвету. - Бог не цікавіцца табой. Бога няма. Каханьне Бога трэба заслужыць. Ты ня годная яго каханьня, - шэпча ціхі зьмяіны голас. - Ты, душа, не дастаткова прыгожая, не дастаткова годная яго. Ты мала працуеш, і бавіш час у бязьдзельлі, ты кажаш, што прысьвечваеш сябе каханьню – суцэльна і поўнасьцю, але ж насамрэч праз сваю ляноту ты Богу агідная. Сусьвет прапануе душы шмат справаў, каб заняць яе, адцягнуць яе ад думак аб сваім каханым. Бо ж толькі ў каханьні сэнс існаваньня душы, а сэнс існаваньня жаночай душы – у каханьні да таго, хто яе стварыў, ад каго нарадзілася яна - да нябёснага Адама, Айца сусьвету, праяўленага для яе мужам. Ён мог сказаць, што бездакорна кахае яе, і будзе кахаць і ў здароўі і ў хваробе, і ў любым стане, так, як кахае Бог, ад яе ж ён жадаў аднаго – яе да сябе каханьня. Ён ня мог яго патрабаваць – ён проста яго жадаў, маліў Бога, што яна адкажа на яго найвялікшую любоў такой жа любоўю, і яна адказвала, бо гэтай любві ў ёй было шмат, так многа, што яна напаўняла яго бясконцай моцай. Але ж як на неба находзяць хмары, так і на яе душу находзілі сумненьні. Ёй здавалася, што яна павінна быць нейкай іньшай, не такой, якая яна ёсьць, якой ён яе пакахаў. Што яна ня годная яго, што скора яму надакучыць. Што ён насыціцца яе прыгожым целам, і стаміцца ад яе каханьня да яго, пачне грэбаваць ёй, стаміцца задавольваць яе жарсьць. І тады яна павінна рабіць нешта, каб апраўдаць сваё перад ім існаваньне – набыць якуюсьці іньшую, незалежную ад яго персанальнасьць, мець сваё уласнае жыцьцё, за якое ён будзе паважаць яе, бачыць яе годнай сабе, цікавай. Якая недарэчная лухта. Ён горка ўсьміхнуўся. Няма той персанальнасьці, якая б магла ўзрушыць у ім згаслае каханьне, пераўтварыць яго адсутнасьць у прысутнасьць. Кахаюць не за штосьці – кахаюць проста так, так, як кахаюць Бога. За самое існаваньне, за хараство адвечнае, нязьменнае, тое, што ўласьціва душы ад нараджэньня. Няма таго чалавека, які б не адчуў каханьне да немаўля, хоць яно і нічым яго сапраўды не заслужыла. Няма ў яго яшчэ ні дасягненьняў, ні талентаў, ні тытулаў, ні узнагарод. Няма нічога, акрамя яго самога. Але менавіта да дзіця чалавек

адчувае самае чыстае, шчырае каханьне. Мала такіх вырадкаў на сьвеце, якія б не аддалі дзіцю апошняе, не ахвяравалі сваім жыцьцём, каб выратаваць яго. Так і ён кахаў яе – кахаў шчыра, як кахаюць дзіця. Безумоўна і адвечна, бо ж душа адвечна з'яўляецца дзіцём для Бога, якой бы сталай і мудрай яна сябе не лічыла.

Ён пагаворыць зь ёй вечарам, вырашыў ён. Тое, што ён так груба адмовіў ёй, вісела каменем на яго сумленьні. Раз яна загаварыла аб гэтым, гэта яе сапраўды турбуе, і ў сваім малечым сьвеце яна заблукала ў складаных дарослых пытаньнях. Усё ж яна – дзіця, зусім маладая. Каму, як не яму, цярпліва вучыць яе?

Калі ён прышоў з працы, быў ужо зусім позьні вечар. У кухні прыемна сьвяцілася залатым сьвятлом вакно, было чыста і прыбрана. Яна прыгатавала вячэру, і сядзела з нагамі на канапе, глядзела нешта ў смартфоне. Ён увайшоў на парог, і, пачуўшы, яна паўстала, падыйшла, і працягнула рукі, каб абняць яго.

- Пачакай, маленькая. Я – у душ. Зараз прыйду. Накрывай пакуль на стол. Ён асьцярожна крануў яе шчаку вуснамі, каб не запэцкаць яе. Прайшоў у душ, і доўга мыўся пад гарачым пругкім струменем, намыльваў валасы шампунем. Ён стаміўся за дзень, і цяпер наліваўся новай моцай, якую ў яго ўлівала вада, разганяючы кроў па жылах. Нарэшце выключыў ваду, выцерся палаценцам, апрануў хатняе адзеньне на гарачае крыху вільготнае цела, брызнуўся парфюмай, і пайшоў да сталу. Яна накрыла на стол, паставіла ежу, што прыгатавала – аладкі зь мясам, кіслае малако – нічога надзвычайнага. Ён любіў простую ежу: бульбу, мяса. Працаваў шмат, і пад'есьці любіў добра. Еў толькі раніцай, і вячэраў, таму за дзень мог і добра прагаладацца. Сеў за стол, яна села насупраць.

- Як прайшоў дзень, каханы? – запытала, як заўсёды.

- Добра, сонейка. Працы шмат – рабілі замову на складаную аградку. Там многа мелкіх дэталяў, нейкія нават і гербы – усё прыйшлося прамалёўваць, адліваць асобна. Ну, затое прыгожа атрымалася. Я такую работу люблю – калі шмат возішся, затое

бачыш рэзультат. Не халтура. А яшчэ мне замовілі статую адліць – жаночую. Плачучы анёл.

- А як ты? Як дзень прайшоў? Званіў хто, можа?

- Маці толькі, каханы. І Агнеса званіла. Яны з таго разу, калі Глеб без штаноў знайшоўся, добра пасварыліся. Але ж цяпер усё добра. Неяк яны дамовіліся, што гэта было непаразуменьне. Ён ёй так нічога толкам і не рассказаў – толькі тое, што яго нейкія бандыты выкралі і пагражалі, але ж ён неяк дамовіўся зь імі. Быццам бы ён улез кудысьці, куды ня трэба, але ж усё абышлося.

- Ага. Абышлося. Ён кіўнуў, і ўсьміхнуўся – успомніў тую размову з Джаваньні, калі ён Хрыстом Богам прасіў яго адпусьціць дурня, і пакляўся, што бярэ ўсё пад сваю поўную адказнасьць. Шкада была небараку-зямляка, шчыра кажучы. Дурань насамрэч не заўсёды злодзей. Хлапец і так напалохаўся страшэнна, дрыжэў, як ліст. Мараць рукі крывёй такога недарэкі проста не хацелася.

- Але ж насамрэч Агнеса яму не паверыла. Яна ўпэўнена, што ён быў у прастытуткі, - усьміхнулася яна.

- Ну, можа ён там і быў. На гэты раз усьміхнуўся і ён. – Хто яго ведае, дзе ён быў, сонейка. Без штаноў. Ён пакачаў галавой, прыкрыўшы вочы рукой. Яму было сьмешна.

- Слухай, любая, я тут наконт працы з табой хацеў пагаварыць.

Яна ўзьняла на яго вочы.

- Ты мне шчыра скажы: навошта яна табе? Толькі праўду. Не хлусі. Грошы я табе на рахунак асабісты кожны месяц кладу. І яшчэ табе на картку даю на расходы – колькі мы дамовіліся, табе трэба. Ежу, адзеньне, кнігі – усё я табе пакупаю. Калі што хочаш, ніколі не адмоўлю, ты ж ведаеш. На кавярні, салоны, сяброўак даю. Можа, табе сумна, дык на працы табе цікавей ня будзе. Апрануцца прыгожа ты і так можаш – ты ж у горад езьдзіш, дома я цябе не трымаю. Так навошта табе праца? Ён глянуў на яе, і ізноў зьдзівіўся, якая яна была прыгожая. Проста

балюча было глядзець. Нават і тут, у хатнім аточаньні, у простым зручным адзеньні. Простым, але ж элегантным – мяккі дамашні касьцюм малочнага колеру зь вялікім выразам, адкрываючым плечы, тонкія рукі упрыгожаны вузкімі кольцамі і бранзалетамі, на высокі белы лоб спадае чорная пасмачка, кранаючы шчаку, валасы вольна ўзьнятыя, закручаны і заколаты бліскучай вузкай заколкай. Яе твар быў мяккім, зусім юным, і нейкім адвечным у сваім чыстым, нявінным характве.

- Мне сорамна проста сядзець дома, каханы. Баюся, што, можа, я табе надакучыла – які ад мяне толк. Мне хацелася б дапамагаць… раптам яна спынілася.

- Золатка маё, я не стары немашч, і не дзіця, каб мне дапамагаць. Я – мужчына. Твой муж. І каб я гэтага болей ня чуў – што табе сорамна. А вось што надакучыла – гэта адкуль? Адкуль у цябе нават і думкі такія – што ты мне можаш надакучыць?

- Агнеса сказала, - ціха вымавіла яна, шчыра. – Мы размаўлялі, і яна мяне пачала стыдзіць, што я нічога не раблю, не жыву поўным жыцьцём. Ну, так, няпрама, як яна ўмее. Што я дома сяджу, што губляю час, запытвала, дзе я вучуся, ці зьбіраюся, і чаму не, і што я буду ў жыцьці рабіць, і … што ты мяне кінеш, калі я буду табе не цікавая, калі я толькі дома буду завіхацца. Што мужчыны такімі грэбуюць. І я падумала, што можа і праўда, што ты мне ня кажаш, але ж я нічога не раблю, толькі карыстаюся … тваімі рэсурсамі… скончыла яна сумна.

- Маім каханьнем, - паправіў ён яе. – Не рэсурсамі, бо любыя рэсурсы абмежаваныя, а маім каханьнем да цябе, якое неабмежаванае, і безумоўнае. Я цябе кахаю проста за тое, што ты ёсьць. А не затое, хто ты ёсьць. А вось Агнеса нікога не кахае, і яе ніхто не кахае. Я сумняваюся, што нават і яе бацькі калісьці сапраўды кахалі яе. Бывае такое, што людзі зусім ня могуць, ня ўмеюць кахаць. А тым, хто можа, зайздросьцяць. Агнеса проста зайздросьціць табе, таму, як цябе кахаю я. Ніякай працы табе непатрэбна, сонейка. І нічога не патрэбна рабіць, каб я цябе кахаў. Ты – маё жыцьцё. Скажы, ці ёсьць такі чалавек, што не любіць жыць? Сапраўды, нават самагубцы ў сьмяротны час, калі ведаюць, што губляюць, жадаюць жыцьця, як і ўсялякі

іньшы. Таму – не бывае такіх людзей. Праз працу я ня буду цябе кахаць больш. Ня буду кахаць цябе і меньш. Але ж мне будзе балюча, прызнаюся. Я хачу бачыць цябе тут, побач. Ты мне патрэбная, як паветра. Я – твая праца. Ён усьміхнуўся. – Ці, можа, я табе надакучыў, сонейка? Ён запытаў яе сур'ёзна. Яго вочы раптам пацямнелі, нібыта іх завалакла хмара.

- Не, каханы, - ціха вымавіла яна. – Мне хораша побач з табой. Я цябе кахаю так, што ніхто ня можа і ўявіць. Ты – усё для мяне. Я рада быць тут, рабіць хатнія справы, гатаваць ежу. Гэта, насамрэч, такая маласьць, што я падумала … я хацела больш…

- Гэта – не маласьць, любая. Гэта так шмат, што ты і ўявіць ня можаш. Для мяне гэта дужа істотна. Ты ўсё маё жыцьцё зьмяніла, у мяне нібыта крылы вырасьлі. Калі я ведаю, што ты – тут, што завіхаешся на кухні, гатуеш мне, проста знаходзішся побач, чытаеш ці робіш нешта, я адчуваю тваё дыханьне, дзе б я ня быў, у любым месцы. Ведаю, што я прыйду, а ты мяне чакаеш. Ты – са мной, і мая. Калі ж ты будзеш дзесьці на працы, я буду хвалявацца. Думкі ўсялякія палезуць у галаву – што цябе пакрыўдзіць нехта, што ты ў небясьпецы, я ж ня ведаю, якія людзі сустрэнуцца. Я, прабач, не магу дапусьціць, каб мая жанчына адна ехала ў метро, у электрычцы. Такая прыгажуня. Ці мала вакол дурняў. Ты насамрэч робіш дужа шмат – для мяне шмат. Ты для мяне сусьвет. Ты ж ведаеш, калі ты хочаш прагуляцца, я заўсёды цябе важу, ці машыну замаўляю. Прабач, але ж адна ты хадзіць ня будзеш. Гэта выключана. Ты ж мяне кахаеш, любая?

- Кахаю, родны мой. Болей за жыцьцё, - ціха вымавіла яна.

- Тады навошта табе праца?

- Ні навошта. Яна кіўнула.

- Але ж, глядзі. Я тут падумаў – ты ж маляваць любіш. Можа, табе мастацтвам заняцца? Паспрабуй. Малюнкі можна і прадаваць. Калі хочаш, я б цябе павучыў. Цікава табе? Ты ж любіла маляваць, я памятаю.

- Цікава, каханы. Я б магла прыроду маляваць. Тут так прыгожа,

сапраўды. Толькі я ня ўпэўнена, што я таленавітая. Што ў мяне атрымаецца нешта годнае.

- Золатка маё, у цябе абавязкова атрымаецца, - упэўніў ён яе. – Толькі трэба практыкавацца. Ты падумай, што табе цікава. І мы з табой абмяркуем, як гэта можна зрабіць. Намарэч, жанчына шмат чаго можа рабіць дома, жаночага, і для гэтага ёй наогул ня трэба хадзіць некуды і сядзець там колам. Ці, прабач, дарыць сваё хараство прагным вачам. На такую прыгажуню, як ты, кожны глядзець ня можа. Гэта асаблівы прывілей. Карацей, ты яшчэ падумай, што табе б такога хацелася, што б не абцяжарвала, не абмяжоўвала твой час, але ж прыносіла б табе задавальненьне, і раскажы мне. Дамовіліся, любая?

- Дамовіліся, каханы, - вымавіла яна. – Пайшлі мы адпачываць, красуня. Заўтра прыбярэш. Ён узьняўся. Яна таксама ўзьнялася, падышла, і абвіла рукамі яго шыю. Ад яе ішоў цёплы, духмяны пах. Пяшчотны, салодкі, нібы ад смачнай выпечкі, цукровы. Ён палажыў рукі ёй на талію.

- Вось для гэтага ты мне патрэбная. Яго пальцы асьцярожна пагладзілі яе аголеную скуру, вусны кранулі шчаку.

- Як жыцьцё, патрэбная. Як я сам сабе. Хачу цябе. Заўсёды і ўсюды. Ты – маё цела, і мая душа. З табой я поўны, без цябе ж – палова чалавека. Яго вусны накрылі яе вусны. Раптам ён узьняў яе, падкінуў, і ахапіў рукамі.

- Трахаць цябе хачу. Кахаць цябе. Кожную ноч, і кожны дзень. Як піць, як есьці. Дурніца мая. Ён дакрануўся да яе шыі. Яна адкінула галаву. – Для чаго патрэбая жанчына? Толькі для аднаго – для гэтага. А такая, як ты, гэта рэдкі скарб. Мець такую красуню – прывілей, годны караля. Бога. Што табе яшчэ рабіць, акрамя гэтага? Што ты яшчэ не зрабіла? Ты ж сэрца маё скрала, прывязала да сябе ланцугамі. Я ля цябе як пёс. Раб твой. Ён павярнуўся, і раскрыў рукой дзьверы. Цемра пакою ахінула іх. Яго рукі лашчылі яе, калі ён апусьціў яе на ложак, вусны вывучалі цела. Раптам яна адпусьціла ўсё – усе думкі. Ёй проста было хораша зь ім – яна была зь ім сабой. Гэтае шчасьце не было абумоўленым, яно было сьвятым, чыстым, сапраўдным, і яна мела на яго поўнае права. Яна не павінна была быць некім

іньшым, некім лепшым. Для яго яна проста павінна была быць сабой, як і ён для яе – сабой сапраўдным. Яна застагнала, і ахапіла рукамі яго галаву, паглыбляючыся ў густыя чорныя валасы пальцамі.

- Я зраблю для цябе што заўгодна, мой каханы. Што зрабіць мне для цябе, бо ўсяго зробленага не дастаткова. Я ведаю гэта, любы мой. Бо любая мая ахвяра згарае ў незьлічоных праменях твайго сьвятла. Яна прытулілася да яго, яе вочы пазіралі яму ў вочы, зьзяючы, як дзьве вялікія зоркі, разрываючыя нябыт няіснаваньня. Чалавеку было ня вынесці таго каханьня, якое лілося зь іх на яго. Такое каханьне магчыма вынесьці толькі Богу, падумаў ён, абдымаючы яе, і прыціскаючы. Яго рукі самкнуліся вакол яе, як кола. Самое тела яго было шчытом, ахінаючым яе, і не было той пагрозы, якую гэты шчыт ня мог бы вытрымаць.

- Толькі існуй для мяне, каханая, - ціха вымавіў ён. - І гэтага будзе для мяне дастаткова. Ён нахіліўся, і іх вусны сустрэліся. Кожны раз, цалуючы яе, ён адчуваў, што сьвет вакол мяняўся. Ён цалаваў яе дзіцём і жанчынай, і аголенай душой, лунаючай у адвечнасьці, і Шхінай, найвышэйшым стварэньнем, роўным яму, у якое ён глядзеўся, і бачыў самое сябе. - Існаваньне тваё - найвялікшая для мяне радасьць, бо, ствараючы цябе, я ўвасобіў найлепшае, што меў сам. Ты ня можаш і ўявіць, якая асалода бачыць твой прыгожы твар, цалаваць тваё дасканалае цела, але ж найбольшая асалода - глядзець у тваю душу, любая. Бо прыгажосьць яе робіцца тым мацнейшай, чым больш разгараецца ў ёй полымя каханьня, на якое пазірае ў захапленьні сам Пан-уладар сусьвету. Дзівосныя скарбы адкрывае мне твая душа.

- Але ж ты ведаеш іх усе, і ўсе яны для цябе малыя, - ціха вымавіла яна, прытуляючыся да яго шчакой. - Яны для мяне бясконцыя, каханая. Як ты і я бясконцыя, - вымавіў ён, крэпка абдымаючы яе.

# Глава 17: Жыцьці

- Хадзі сюды, прыгажуня мая. Вакол густа пахне травамі. Праз крыху мутнаватыя шыбы прабіваецца цьмянае зялёнае сьвятло.

- Ты будзеш вучыць мяне? - ціха запытвае яна, становячыся перад ім.

- Я буду цябе кахаць, - нягромка кажа ён. Яго вочы ўсьміхаюцца, яны ласкавыя, цёмныя і глыбокія, як лясны гушчар. Ён такі вялікі, і пахне лесам. Яго чорныя валасы пабліскваюць, калі паламаныя промні дакранаюцца да іх, і ёй хочацца накрыць іх далонямі. Ён ахоплівае яе сьцёгны, і яна кладзе рукі яму на плечы. Ён прыціскаецца тварам да яе грудзей, рукі яго ўзьнімаюцца ўверх, узьнімаюць яе блюзку, якую яна ськідвае праз галаву. Ён таксама здымае кашулю, і яна бачыць яго шырокія грудзі, гладзіць плечы, адчувае подых. У хаціне цёмна і прахалодна, гукі леса ледзь кранаюць яе, сьлізгаць па даху.

- Ты - чараўнік? - ціха запытвае яна.

- Я - чараўнік, - адказвае ён. Ківае, ледзь заўважна. Усьміхаецца. Усё у яе ўнутры замірае.

- Што гэта адбываецца, каханы? - запытвае яна яго.

- Чараўніцтва, любая. Яно бывае і такім. Ты зачаравала мяне, а я - цябе. Ён нахінаецца, і бярэ вуснамі яе сасок. Яго шырокія плечы рухаюцца, і яна адчувае яго подых на сваіх грудзях.

- Вазьмі мяне, - ціха шэпча яна. - Вазьму, - адказвае ён. Яго подых робіцца глыбокім, цяжкім, вусны балюча сьціскаюць яе скуру. Яе грудзі баляць, перапоўненыя. Здаецца, зараз яны брызнуць малаком прама яму ў твар. - Ты - маці, - ціха кажа ён. - Маці, маленькая. Дачушка мая. Ён пяшчотна цалуе яе грудзі. - Ты зачнеш ад мяне, - шэпча ён. - Народзіш ад мяне. Ён яшчэ нешта кажа, але ж словаў яна ня чуе. Яны быццам бы сьлізгаюць па ёй, шапацяць хвоямі і чаротам, віруюць глуха, як вада ў чорным віры.

- Пакажы мне сябе, - кажа ён, і яна апускаецца на ложак. Адкідваецца перад ім, рассоўвае ногі. Ён распранаецца, і яна бачыць яго плоць – вялікія, як у быка, муды, яго чэлес таўшчынёй зь яе руку дакранаецца да яе сьцёгнаў. Яна ўздыхае, і апускае вейкі. Праз іх яна бачыць, і адчувае цяжар яго цела, грубага, цяжкога, вялікага. Адчувае, як у яе ўпіраецца яго плоць, і калі ён націскае і ўваходзіць, яна ўздрыгвае. Яе ўлоньне вузкае і шчыльнае, дзявочае. Ён жа вялікі, моцны. Але ж яму падабаецца кахаць яе так, груба, глыбока, прагна. Яго муды труцца аб яе ягадзіцы, якія ён сьціскае рукамі. Усё больш і больш моцны вір ахоплівае яе зь яго дыханьнем. Там, унутры, яна адчувае, як яе семя яднаецца зь яго семенем. Яна зачынае ад яго, разумее яна. Ён моцна штурхае яе ўсё далей і далей, так, што яны крычыць, і тады ён закрывае ёй пацалункам рот, убіраючы яе язык, пакуль яго хер уздрыгвае і пульсуе, выліваючыся ў яе. Яна прыціскаецца да яго, ахоплівае плечы рукамі. Яе вочы мокрыя ад сьлёзаў, якія ўвільгатняюць яе скуру.

- Ты мой? - шэпча яна.

- Твой, галубка. Як і ты мая. Мая назаўсёды. Памятай, дачушка. Я прыйду за табой. Мая, дзе б ты ні была, і дзе б ня быў я. Іх целы праглынае адвечнасьць.

Успаміны аб мінулым ірвалі яму душу. Ён заблукаў у бясконцасьці жыцьцяў, якія паўставалі перад ім адно ярчэй другога. І ў кожным зь іх была яна. Была зь ім побач, праходзячы яго шлях аж да сконцу – яго, ці яе, ці проста мімаходам кранала, як анёл кранае крылом, вымушаючы заміраць душу, якая потым памятае пра гэтае дакрананьне ўсё жыцьцё. Не было такога жыцьця, у якім бы не прысутнічала яна. Нават калі ён не сустракаў яе ў фізічным целе, яна была побач зь ім як мара, як боскае сьвятло ў яго душы. Ён пазнаваў яе ў вобразах, створаных майстрамі, у выявах багіняў, у жаночых тварах, вачах, якія пазіралі зь іх на яго. Але ж яны не былі ёй. Яна была значна большай, чым асобная жанчына. Яе прыгажосьць ня мела вымярэньня, яе каханьне было вышэй за любое іньшае каханьне, магчымае ў сьвеце. На полі бойкі ён памятаў пра яе, у вязьніцы ён бачыў яе вобраз, і піў ваду і віно

жыцьця зь яе вуснаў, у катавальні, на лобным месцы, у палацы, за сталом зь сябрамі, залiваючы вiном смагу няўтоленае душы – i днём, i ў начы, усюды побач зь iм была яна. Як туга, як смутак, як адчай. Як шчасьце бязьмернае, бязьмежнае, як веды аб тым, што чакае яго ў пасьмерцi. Бо яна адразу сустракала яго за сьмяротным парогам, i там iх рукi змыкалiся, i вусны сутыкалiся, i целы з'ядноўвалiся, каб iзноў раз'яднацца ў наступным жыцьцi, дзе ён адчайна шукаў яе, заваёўваў дзеля яе гарады, руйнаваў краiны, i будаваў новыя. Забiваў, i быў забiтым, i ўваскрасаў iзноў – дзеля яе, каб яе знайсьцi, бо ведаў, што яна – тут, побач. Недзе ў гэтым сьвеце, праз якi ён прабiваўся, як зубр праз сьнег, ён ведаў – была яна. Чакала яго. Яе трэба было толькi знайсьцi, выратаваць, i прытулiць да сябе. Але ж калi ён яе знаходзiў, нешта адбывалася, i ён нiбыта губляў розум. Страх, што ён iзноў згубiць яе, кiдаў яго душу ў пекла. Ён так жадаў яе, што накiдваўся, як галодны на ежу, цi сасьмяглы на ваду, насалоджваючыся яе целам i яе душой. I яна не вытрымлiвала жару яго каханьня, i iзноў сыходзiла, гублялася, каб вабiць яго здалёк. Але ж яна спазнавала яго – ён бачыў гэта ў яе вачах. Нават калi яны пазiралi на яго ў жаху, калi ён браў яе ў зруйнаваным горадзе, пакрыты пылам i крывёю, калi катаваў яе тонкае цела сваiм, гвалцячы яе ў немагчымасьцi атрымаць яе поўнасьцю, вылiваючыся ў яе зноў i зноў, закрываючы яе ў высокiм замку, забiваючы з-за яе на двубоях, зьдзейсьняючы дзеля яе самыя страшныя злачынствы, парушаючы законы боскiя i чалавечыя. I ў гэтых вачах, гледзячых на яго, было каханьне. Такое вялiкае, неабсяжнае, каханьне Бога. Толькi яно давала яму моцы рухацца далей. I вось, цяпер ён атрымаў яе, i яны разам апынулiся па адзiн бок, а сьвет – па другi. Сьвет быў iм варожы. Бог быў iм варожы, бо яны пайшлi супрацiў яго законаў – бязьлiтасных законаў унiверсуму. I тады, каб захiнуць яе перад iм, бязьлiтасным i ненавiсным яму Богам, Богам стаў ён сам. Ён быў вымушаны – iньшага шляху ў яго не было. I калi ён прыняў на сябе гэтую адказнасьць, боскую адказнасьць за яе цяжарам памерам у сусьвет, тады Бог i сапраўды сышоў у яго. Ён успомнiў – успомнiў усё. I як падаў у сусьвет Лючыпарам, i як сыходзiў у яго сынам, i цяпер усьвядомiў сябе – Мiкаэля, i адначасова Дракона, якiя няспынна змагаюцца адзiн з другiм, бо сыходзячы ў сьвет, Бог адзiны распадаецца на дуальнасьць: Сатану i

Хрыста, д’ябла і Бога, Адама і Еву - калі ад яго адыходзіць яго уласны подых, набываючы сваё асобнае жыцьце. Уваходзячы ў сьвет, ён бачыў Шхіну, і ў адчаі цягнуў да яе руку, у якую лажылася яе маленькая далонька. І тады яго рукі змыкаліся, і ён ахінаў яе, трымаючы яе крэпка як мог толькі трымаць ён сам. А потым усё адбылася ізноў па законах сьвету. І Д’ябал, Дракон заўсёды быў побач зь ім. Ён думаў, што адрокся ад чараўніцтва, што аддаў сваё сэрца Богу, Хрысту, крыж якога ўзьняў і нёс на Ўсходз , хрысьцячы непакорныя народы. Але ж раптам недзе ў глухіх лясах ля халоднага мора ён сустрэў самога сябе – моц, якую ён ня мог пахіснуць. Ён сустрэў Айца – мудрэйшага і старэйшага, чым ён сам. Сустрэў самога сябе такога, які прайшоў праз бездань вякоў. Бога-чараўнік, Бога-ваяр, Айца, які спазіраў на сына зь мяккай сумнай вусьмешкай. І сувора вучыў яго. Так, як яго вучыў стары, у хаце якога яны цяпер знаходзіліся. Трапіўшы туды, ён апрануўся ў адзеньне Крыве, уваскросіў і яго плоць, і розум, і душу. Айцец-дзед увайшоў у яго, і ўладна завалодаў ім – нібыта нябёсы расшырыліся, і ў іх ён убачыў сапраўдныя твары багоў. А над ім – Адзінага. Імя гэта гучэла, вібрыравала ў яго вушах, і ён ізноў убачыў у сябе ў руцэ меч-маланку. Яна ж была Марай, яго нябёсным агнём, ідэальнай каханай Бога, які служыць самому сабе на сваім уласным алтары.

Яна ляжала на яго грудзях, і ён марудзіў уставаць, насалоджваючыся яе целам. Дзень хіліўся на вечар, на двары было цёпла і зацішна. Трэба было б сабраць на стол, павячэраць, а потым абыйсьці гаспадарку. Можа – схадзіць на возера. Прагуляцца зь ёй. З раніцы да яго цягнуўся народ за вадой, замовамі. Як яны яму, шчыра кажучы, надакучылі – але ж куды дзявацца. Пачэсная “доўжнасьць” чараўніка дасталася яму разам зь дзедавым домам, спачатку ён адсылаў прэч, ругаўся, але ж людзі цягнуліся, і ён проста махнуў рукой. Жадаеце казку – будзе вам казка. Нельга пазбаўляць народ надзеі, веры ў тое, што існуюць сілы, вышэйшыя за бязьлітасны сьвет вакол. А яны і сапраўды існавалі, і ён быў адной зь іх. Пакуль ён ляжаў, ахінуўшы яе рукой, пачуў, як на ганку спыніліся нечыя крокі. Патапталіся, і нешта грукнула ў дзьверы.

- Хто там? – гучна выкрыкнуў ён.

- Гэта я, сусед. Прабач, калі ня ў час, - пачуўся знаёмы голас.

Ён узьняўся, яна нацягнула блюзку і спадніцу.

- Уваходзь, суседка, - гучна гаркнуў ён, так, каб у дзьвярах пачулі.

Але ж Ганна, ўжо не чакаючы, ўвальвілася ў хату. Летыцыя толькі пасьпела аправіць адзеньне, яе валасы, зблытаныя, вольна віліся па плячох, падалі да таліі. Яна была басанож, у мяккім ільняным строі з аборкамі – стыль кантры, які здаваўся ёй пасуючым да аўтэнтычнага мястэчку.

Ганна незадаволена, амаль грэбліва зьмерыла яе вокам, падціснула вусны. Гарадская. Ні вады прынесьці, ні печ вытапіць, толькі і можа, што каву варыць, ды аладкі смажыць. А бульбу ён сам на аладкі чысьціць, і трэ нават. Яна рукі псаваць баіцца. Паскудзёнства. Сядзіць увесь дзень у тэлефоне сваім, ці чырыкае нешта ў нейкім вялікім блакноце. Ці ў ноўтбуку тырчыць. Дзеля гэтага варта было на прыроду прыязжаць. А ён, дурань стары, ня ведае, як ёй дагадзіць. Знайшоў сабе лялльку маладзей на трыццаць гадоў, і гуляецца. Хай гуляецца, пакуль можа. У іх парода такая. Дзед яго да дзевяноста год года не дажыў, моцны быў мужык. Гэты ж стацьцю ды ростам у дзеда, ды яшчэ і мацней, і вышэй на галаву, а нутром – невядома ў каго. Дурны, шалёны, нікога не паважае. Проста нячысты нейкі. І дзеўка гэтая яго - невядома што. Чорная, гэта было Ганьне бачна. Але ж прыкідваецца звычайнай гарадской фіфай. Было і яшчэ нешта, аб чым Ганна здагадвалася, і ад гэтага вараціла яе нутро. Такія ўжо яны – чортаў род. Даўмонты. Веды і моц толькі па роду перадаюць, і чужога нікога да сябе не падпускаюць. Дзяўчына гэтая і стацьцю і тварам, і валасамі чорнымі, доўгімі, была падобная на Міхася. І на старога Даўмонта. І на дачку яго. Усе яны аднолькавыя, быццам бы адлюстраваньні ў люстэрку.

Яна пераступіла нагамі, аправіла заложаную за вушы хусьціну, абцёрла рот, і стала, усунуўшы рукі ў бакі.

- Што табе трэба, Ганна? Чаго прыпёрлася? – няветліва запытаў

ён яе.

- А зараз даведаешся. Яна з прышчурам глянула на яго. – Стаіш? Сядай, бо звалісься. Магіла пад камянём раскапаная. Я толькі што зь лесу. Да крынічкі хадзіла – мне вада трэба была, хату ад псотаў памыць.

- Ты што, са сьвятой крыніцы бярэш ваду падлогу мыць пасьля сваіх чарцей? Ён узьняў на яе вочы. Ухват ля печы гучна абваліўся ў яе ззаду.

- Дурань з дурняў. Я што табе, правіл ня ведаю? Я папрыскала толькі. Абмыла, абцёрла начыста.

- А што з магілай? – вымавіў ён, нібыта ня чуў.

- Што што. Дзірка пад камянём раскапаная. І там – нікога няма. Ганна раптам замаўчала.

- А куды ён дзеўся? – запытаў ён яе.

- Я адкуль ведаю. Ганна паціснула плячыма. – Я яму не сторож. Адкапаўся, ды сышоў.

- Значыць, хутка да цябе прыйдзе. Чакай. Ён адвярнуўся ад яе, пацягнуўся, гледзячы ў вакно.

- Не да мяне, а да цябе. Бо ж гэта ты яго забіў. Ганна злосна ўсьміхнулася, але ж яе шчака ўздрыгвала – ад страху.

- Вось таму ён да мяне і ня прыйдзе, бо я яго забіў. Каб не забіў другі раз.

Раптам на парозе пачуліся гукі – ізноў. Яны абодзьва павярнуліся, нават і Летыцыя, якая сядзела ў тэлефоне, узьняла галаву.

На парозе стаяла мажная, высокая кабета.

- Прывітаньне, цётка Ганна. Прывітаньне, дзядзька Міхал. Я тут да вас.

- Да абодзьвух? – пацікавілася Ганна кпліва.

- Не, да гаспадара. Кабета робка, але ж рашуча зрабіла крок наперад.

- Пасядзі ў пакоі, - махнуў ён Ганьне галавой убок. – Альжбэта, праходзь. Расказвай.

Кабета, павагаўшыся імгненьне, і зьмерыўшы вачыма Летыцыю, асьцярожна села на край стула.

# Глава 18: Чорны волас

- І вось гляжу я, дзядзька Міхал, а на палічцы шчотка ляжыць. Такая вялікая, як у парыкмахерскіх. Як лапата. Бліскучая, я адразу яе заўважыла. Нават і не зразумела, што гэта. Я ж дзіця нарадзіць ад яго жадала, усё да таго ішло. Іду да яго, і адчуваю – у мяне вот тут, прама пад сердцем – дзіця. Мне сон прысьніўся, маці Божая прыйшла з Хрыстом збаўцай, маленечкім, на руках, і кажа: “Дзіця ў цябе будзе, Альжбэта. Ад яго”. – Ад Алега, - патлумачыла яна. Высмаркалася ў хустку, і ўцёрла ёй вочы. І працягнула:

- Я да яго адразу пайшла. Пазваніла, ён адчыніў. Стаіць. – Што табе трэба, - кажа. Я яму адразу і пра дзіця, і пра сон распавяла. Я, кажу, ад цябе цяжарная.

- А ён … тут яна снова заплакала. Памаўчала, і працягнула:

- … кажа:

- Ты ў доктара была? Тэст рабіла? Я яму кажу – які тэст! Мне маці Божая ў сьне прысьнілася. А ён толькі галавой пакачаў, і кажа:

- Бяз тэсту і медыцынскага заключэньня, дзе будзе дакладна ўказаны срок, прашу мяне не турбаваць. – Да таго ж, я, - гаворыць, - засьцярагаўся, і ніякага дзіця ня можа быць. Нешта мне, - кажа, - ня верыцца, што яно ад мяне. Калі яно і сапраўды ёсьць. Потым, праўда, неяк палагаднеў. – Хочаш, кажа, пасядзі. Адпачні. А я ў краму схаджу, і ў аптэку. Куплю нечага да чаю. І тэст табе куплю. А потым мы паразмаўляем.

І пайшоў. А я ў прыбіральню пайшла, і шчотку гэтую заўважыла. У яго такой ніколі не было. У яго толькі расчоскі, а гэтая – жаночая. І ў ёй волас – чорны. А ў мяне ж белы. Вой, дзядзька Міхал, тут я ўсё і зразумела. Разлучніца гэта. Яна яго ў мяне забрала. Зачаравала яна яго, падпаіла ці падкарміла. Во, і волас чорны, глядзі! Вось яна, шчотка гэтая, будзь яна няладна. З гэтымі словамі яна дастала з глыбокага кармана вялікі

завёрнутую ў хусьціну скрутак. Разьвярнула, і Летыцыя са зьдзіўленьнем убачыла, што Альжбэта трымае ў руках яе згубленую расчоску. Дарагую, брэндавую, прафесыйную расчоску, лепш за якую яна потым нідзе не магла знайсьці. Ёй і выцягваць валасы было зручна, і расчэсваць, яна не зьбірала статыку, і выглядала стылёва і акуратна, як яна любіла. І каштавала каля 50 еўра. Дык вось дзе яна яе забыла! У Алега. Яе рука ледзь сама не пацягнулася наперад, і яна стрымалася ў апошні момант. Альжбэта, заўважыўшы, зь цікаўнасьцю глянула на яе, сьлізганула вачыма, і адразу адвяла позірк.

Насамрэч, яна схлусіла. Шчотку гэтую яна і сапраўды знайшла ў Алега, але ж прыйшла яна, калі яго дома не было. Гэтая размова адбылася раней, да таго, як Алег сустрэўся зь Летыцыяй, і пакуль ён хадзіў за тэстам, яна ціхенька сьцягнула і палажыла ў кішэню яго запасныя ключы. Сама ня ведала, навошта. Хай будуць. Насамрэч яна лічыла яго дом сваім, наяўна ўяўляла, як яна жыве ў кватэры зь відам на плошчу, жонка паважанага кандыдата навук, а потым і прафесара, закупаецца ў вялікай краме насупраць з вывескай “Каравай”, гуляе з кошыкам па “камароўцы”. І, канешне ж, становіцца цяжарная, і нараджае дзіця. І не адно. А потым прыязжае дамоў, на вёску, і з пагардай, але ж паблажліва, глядзіць на сяброўак. Яны дагэтуль у навозе пэцкаюцца, а яна – гарадская пані замужам за інтэлегентным хлопцам.

Тады Алег і сапраўды прыйшоў з тэстам, але ж яна адмовілася яго рабіць прама тут, і ўпэўніла яго, што зробіць дома, і адразу яму прышле рэзультат. Але ж праклятым тэст быў, відавочна, сапсаваны, бо ніякіх дзьвух палосак не паказаў, і яна так Алегу і напісала ў месенджары – сапсаваны, прасрочаны нейкі. І таму яна пойдзе да доктара, і зробіць УЗД. А потым ёй сказалі, бачылі яго з дзяўчынай. Быццам бы ён размаўляў зь ёй пасьля пары, і яны нават пайшлі разам дамоў. Болей дакладнай інфармацыі не было, і, кіруючыся сваёй інтуіцыяй, памаліўшыся перад іконай Дапаможніцы ў тузе і смуце, яна накіравалася да Алега, сама ня ведаючы, чаго, і што яна яму скажа. Проста пайшла, адчыніла ключом дзьверы, бо на званок ён не адказаў, і стала, аглядаючыся, у хаце. І адразу ўбачыла гэтую клятую шчотку. Прама ў прыхожай на палічцы збоч ад яе. Яна схапіла

яе. Яе сэрца тахкала. Шчотка разлучніцы! Доказ таго, што ў яго была жанчына. А яна, Альжбэта, цяжарная. Яна і бяз УЗД ведае. Сама ня памятаючы як, яна апынулася на вуліцы. Сабрала наскора сумку, і адразу пабегла на вакзал. Яшчэ пасьпела на цягнік дамоў. Гэта было ўчора, а сёньня яна ўжо бегла па лясной сьцяжыне да кавалёвай хаціны. Бабка Ганна жыла бліжэй, ды пра яе казалі ўсякае, што яна з чортам знаецца, чорная і брудная, як сажа. Да яе хадзілі па порчы, шкоды, прывароты, і Альжбэта крыху пабойвалася такой цяжкой артылерыі. Пра Міхала ж наогул нічога не казалі. Яго проста ведалі. Людзей ён адкрыта не прымаў, але па вялікай патрэбе не адказваў. І ён быццам бы і ня быў чараўнік. Лячыў замовай і малітвай, ды яшчэ, казалі, маліўся старым багам, такім, якіх ужо ніхто ў краі і ня ведаў. Гэта ў яго было ад дзеда, а дзед атрымаў у спадчыну ў свайго дзеда. Іх род, казалі, некалі быў Крыве, паганскія жрацы, ваўхвы, ды тое было даўно, ніякіх ваўхвоў тут не было ўжо добрую сотню год. Апошняе капішча народ яшчэ пры саветах разрабаваў, а балвана-піруна і каменныя крыжы-бабы забралі ў музей. Толькі вось засталася жывая памяць, якую для народу ўвасабляў Міхал. Ня істотна было, што ён і ня жыў тут большую часьць жыцьця, што нарадзіўся і жыў у Менску, і толькі з год - у дзеда, калі памерла яго маці, што потым з’ехаў некуды, казалі, аж на Балканы, што вярнуўся праз час ужо не юнаком, а сівым мужыком з парэзаным зморшчынамі тварам, пахаваў дзеда, і стаў жыць на яго хутары, а потым пабудаваў вялікі дом і кузьню, і стаў займацца кавальствам. Змрочны быў Міхал чалавек, і, можна сказаць, што і страшны. Але ж водкі ня піў, так, як пілі астатнія – да чарцей, працаваў шмат, і жыў адзін, без жанчыны. Неяк яны ў яго не затрымоўваліся, можа, была пара, ды і тыя хутка зьніклі, з’ехалі ад яго. Ды і праўда, хто ж з гарадскіх захоча на хутары жыць. Альжбэта і сама не жадала, і таму жанчынаў гэтых разумела. Да таго ж, характар у Міхала быў цяжкі, і від такі, што наўрад ці закахаешся зь першага погляду. Наадварот, напалохаешся. Хоць ён і быў прыгожы мужчына, статны, высокі, але ж надта цяжкім быў яго позірк, змрочным, надта ён быў чорны, цёмны, як цыган, надта маўклівы, а калі казаў, то грубаты, рэзкі, хоць і нікога не пакрыўдзіў, але ж неяйкай падыхала ад яго небясьпекай, нечым драпежным, палохаючым, як ад дзікага зьвяра, які рухаецца праз нетры. Здаецца, ён цябе

ня бачыць, але ж усё роўна стыне ў жылах кроў, і баішся сутыкнуцца позіркам з позіркам палаючых жоўтых вачэй.

І цяпер, схлусіўшы, Альжбэта ўнутры ўся сьціснулася, і працягвала Міхалу шчотку з воласам разлучніцы ў ім – чорным, доўгім, крыху хвалістым, бліскучым і гладкім, як шаўковая нітка.

- Зрабі нешта, дзядзька Міхал. Зрабі, каб Алег забыў яе, каб са мной быў. Ты ж можаш, я ведаю. Паглядзі, які волас – чорны, доўгі. Яна ж няруская нейкая, я зло вялікае ад яе чую. Маці Божая мне сказала, што яна – вядзьмарка, каўдуньня. Гэта яна Алежку майго зачаравала. Пачысьці яго, дзядзька Міхал, спалі ты гэты кляты волас, ці яшчэ што. Як ты можаш, як умееш. А я табе ўсё жыцьцё ўдзячная буду.

Альжбэта пазірала на яго шчыра, са сьлязьмі ў сініх прыпухлых вачах, вялікіх, круглых, як у барана. Нос яе быў кірпаты, шыракаваты, вусны ж, наадварот, вузкія, круглыя чырвоныя шчокі палалі, хусьціна зьбілася на патыліцу, і з-пад яе вылезьлі валасы ў колер сьпелага збожжа. Плотная, шчыльна зьбітая, высокая і крэпкая дзяўчына, ладная гаспадыня, якая і вады прынясе, і хлеб вымясіць, і за быдлам і птушкай хадзіць будзе. Толькі дурная, як авечка, - падумалася яму. – Бываюць жа такія бабы – ёй жа гадоў можа дваццаць, а выглядае і паводзіць сябе, як Ганнава сястра. Проста ўвачавідкі ён бачыў, як яна расплываецца пасьля першых родаў, а пасьля другіх ужо не ўваходзіць у дзьверы, прасоўваючыся бокам. І голас яе з просячага і тонкага пераўтвараецца ў нахабна-візглівы. Ён паморшчыўся ў думках, і махнуў галавой, каб адагнаць непрыемнае відзеньне.

- А чаму ты вырашыла, што я табе дапамагу, Альжбэта? – зь цікаўнасьцю запытаў ён.

- А чаму – не, дзядзька Міхал? Яна зьдзіўлена спынілася, нават адкрыла рот.

- Таму, што ты мне хлусіш, - хацеў сказаць ён. – А хлусьню я наскрозь бачу. Ды толькі ўсьміхнуўся ў вусы.

- Ты ж іконам молішся, кабета. Да іх і ідзі. Ідзі да Пана, хай ён табе дапаможа. А ты замест Бога да старога чараўніка з'явілася. Я што табе, Бог, каб у мяне дапамогі прасіць? І, калі і так, і магу табе дапамагчы, ты ўпэўнена, што мая дапамога табе патрэбная? Бо ж ходу назад ня будзе, - нягромка вымавіў ён.

- Дзядзька Міхал, няма мне ходу назад, так я яго кахаю – Алежку майго ненагляднага. Альжбэта ізноў пусьціла сьлязу, якую ўцёрла рукавом разам з вільгацьцю, якая выступіла з носу.

- Рабі, што трэба. Я на ўсё згодная, - вымавіла яна, аддана гледзячы на яго.

- Прама такі на ўсё? – ён усьміхнуўся. Сітуацыя пачала яго ўжо не раздражняць, а забаўляць.

- На ўсё, што скажаш. Толькі б Алежку зьвярнуць. Альжбэта цяпер глядзела на яго аддана, і сапраўды, як на госпада Бога.

- Дай мне расчоску, - вымавіў ён. Працягнуў руку. Яна ўлажыла ў яго руку шчотку, і ён некалькі імгненьняў пільна глядзеў на яе. Глядзеў, і сыходзіў кудысьці. Гэты волас быў яму знаёмы. Гладкі, бліскучы, доўгі. Чорны, як вугаль. І ад яго, здаецца, ішоў танюткі ружовы пах. Шчотка пахла дарагой парфюмай, знаёмай. Нават пах Альжбэцінай коўты ня мог перабіць яго. Гэта быў яе волас – сумненьняў тут не было. І Алег гэты яму знаёмы. Малады бялявы хлопец. Раптам ён яго ўспомніў. Архіёлаг, яны яшчэ вывучалі камяні ў лесе на яго ўчастку. Там, дзе, як апынулася, быў маёнтак і старая царква, фундамент якой яны знайшлі.

Вось як паварочваецца ўсё – сьвет і сапраўды круглы. Ідзеш у адзін бок, і вяртаешся туды, адкуль прыйшоў.

- Расчоску гэтую я пакіну сабе, - спакойна вымавіў ён. Альжбэта кіўнула.

- А ты пабудзь пакуль тут. Я табе ваду зраблю.

- Пайшлі, дапаможаш мне. Ён кіўнуў Летыцыі. Тая ўзьнялася.

Ён узяў яе за руку, і разам са шчоткай яны прайшлі ў пакой.

Зачыніўшы дзьверы, ён крэпка ўзяў яе за плечы рукамі.

- Адкуль гэта ў яе? Расказвай. Яна са страхам пазірала ў яго твар, па якім, здаецца, праходзілі сутаргі. Яго вочы быццам бы кідалі маланкі, вусны, сьціснуліся, абазначыўшы скулы.

- Я адзін раз сустракалася з Алегам. Гэта быў мой настаўнік на курсах. Я схадзіла зь ім на выставу, а потым мы павячэралі. І ўсё, - ціха вымавіла яна.

- Зусім – усё? – глуха запытаў ён. – Праўду кажы. Раптам ад яго вачэй ёй стала жудасна.

Ён паводзіў сябе ня так, як звычайна, і такім раз’юшаным яна яго яшчэ ніколі ня бачыла.

- Між намі нічога не было, - ціха вымавіла яна.

- Як – нічога? А што між вамі было? Ён цябе кранаў, цалаваў? Адказвай.

Яна маўчала.

- І я, як дурань, сядзеў зь ім, і з табой. Што ён пра мяне падумаў, нават цікава. Сядзеў, і ўспамінаў, як мацаў маю жанчыну. Разглядаў цябе. І шмат ён цябе бачыў?

Яна пакачала галавой.

Ён прайшоўся па пакоі, і, здаецца, зь цяжарам узяў сябе ў рукі.

- Сядзі тут, - нягромка вымавіў. Узяў стакан вады – зачарпнуў зь вядра, якое раніцой прынёс з крыніцы, стаў перад ім, накрыўшы далоньню, і ціха пачаў чытаць нешта.

Прачытаў, узяў стакан, павярнуўся, і выйшаў з пакою.

- Пі, - працягнуў Альжбэце. Тая моўчкі выпіла, залпам.

- А цяпер – пайшлі абодзьве вон, - раптам вымавіў ён.

- Прыйдзеш праз тыдзень. У нядзелю. За тыдзень нешта

адбудзецца. А потым паглядзем, што з табой рабіць.

Альжбэта раптам пачала асядаць на стул. Ганна падхапіла яе, і пацягнула да дзьвярэй.

- Пайшлі, пайшлі, дурніца, - ціха шаптала яна. – Міхал раз’юшыўся. У шалёнства ўпаў. Я яго такога ведаю, яму лепей пад руку не пападацца. Разам яны выкаціліся на двор, і хутка пакрочылі, амаль пабеглі па лясной дарозе.

Ён павярнуўся, і пайшоў у пакой. Яна ўстала са стула, і моўчкі глядезла на яго.

- Выходзь, - глуха вымавіў ён, пацягнуўшы яе за руку. Выцягнуў на сярэдзіну хаты. Яго вусны ўздрыгвалі.

- Стой тут. Ён павярнуўся, і зьняў са сьцяны кароткую скураную пугу. А потым ён яе ўдарыў – ня сільна, па нагах. Яна ўскрыкнула, і закрыла твар рукамі. Другі удар прыйшоўся ёй па плячы. Па сьцягну. Па ягадзіцах. Па твары ён яе ня біў, біў ня сільна, толькі зьлёгку рассякаў скуру. Хутка па ёй пабеглі струменьчыкі крыві. Яна апусьцілася на калені, і заплакала. Ён піхнуў яе на падлогу, разарваў сукенку, сьцягнуў спадніцу. Удары, як языкі полымя, ахутвалі ўсё яе цела.

Здаецца, яго ніхто і нішто не магло спыніць. Зараз ён яе заб’е, зразумела яна. І раптам ёй стала ўсё роўна. Б’е – значыць, ёсьць за што. Насамрэч, яна – шлёндра, патаскуха. І сапраўды, зь кім яна толькі не была. І пра Алега нічога яму не расказвала. Нават і калі яны сустрэліся разам. Яна разумела, як гэта было яму балюча. Ён адначасова згубіў і сябра, зь якім болей ніколі ня зможа мець шчырыя адносіны, і давер да яе. Усё ў яе жыцьці адбывалася, як заўсёды. Хай бы ён яе забіў, ёсьць за што. Яна скурчылася, і закрыла твар рукамі. Струменьчыкі крыві збіраліся пад ёй у вялікую мокрую лужыну, беглі з рассечанай сьпіны, са сьцёгнаў.

Яна не супраціўлялася, толькі ўздрыгвала. І раптам пачула, як ён апусціўся побач зь ёй. Абняў яе, нахінуўшыся над яе целам, і заплакаў. Яго плечы ўздрыгвалі, і з горла вырываліся гукі рыданьняў. Яна ніколі ня чула, як плача мужчына – адчайна,

горка, наўзрыд. Гэта зусім не нагадвала жаночы плач. Раптам ёй стала страшна. Страшна, што ён зробіць нешта і з сабой, і зь ёй. Але ж ён толькі ўздрыгваў, і абдымаў яе.

- Любая мая, каханая, што ты са мной робіш, - ціха прашаптаў ён. – Што я з табой зрабіў. Прабач мяне, прашу. Ты мяне ніколі не прабачыш.

Здаецца, яна страціла прытомнасьць. Прыйшла ў сябе ад таго, што на яе лілася вада. Ня сільна, струменьчыкамі. Вада са сьвятой крыніцы, зразумела яна. Яна ўносіла яе боль, нібыта яна ляжала на мяккім пяшчаным крынічным дне, і па ёй беглі ласкавыя струмені.

Ён абмываў яе, і шаптаў нешта. Яго вялікія рукі гладзілі яе цела, і пад імі суцішваўся боль. Змыўшы зь яе кроў, ён узяў рушнік, чысты, і агарнуў яе.

Асьцярожна прыўзьняў. Яна ўскрыкнула. На белым рушніку адпячаталіся чырвоныя палосы, але ж кроў, на дзіва, амаль адразу перастала бегчы.

- Я ўмею замаўляць кроў, - ціха вымавіў ён. – Ідзі да мяне, сонейка. Ён узьняў яе, і асьцярожна давёў да ложку, на якім гадзіну назад яны ляжалі побач. Падсьцяліў рушнік, і яна лягла на яго. Ён накрыў яе яшчэ адным рушніком. Яе вочы закрываліся, і ён шаптаў нешта. Яго словы падалі на яе сьняжынкамі, прахалоднымі, мяккімі. Хутка яна паснула. Ён яшчэ пасяджеў крышачку, а потым устаў, і выйшаў на двор. Знайшоў пад страхой клешчы, узяў іх, і вярнуўся ў хату. Зьняў з шыі вялікі жалезны крыж, убраў шнурок, узяў крыж кляшчамі, і ўсунуў у вуглі. Марудна глядзеў, як крыж разгараецца, чырванее. А потым узьняў яго, і прыціснуў да грудзей. Вакол запахла паленай скурай і валасам. Некалькі імгненьняў ён назіраў, як крыж утопліваецца ў скуру, уваходзіць у мяса. А потым убраў клешчы, і кінуў яго ў ваду. Над вядром узьнялася воблачка пары.

Тое, што ён зрабіў, ён ведаў, для чараўніка было непапраўным. Ён сам зачыніў сябе. Бо ж шмат рэчаў ён мог рабіць, толькі зьняўшы крыж. Цяпер жа ён яго ніколі ня здыме. Толькі хіба

зрэжа з кавалкам скуры. Яна спала, а ён стаяў на каленях побач, і маліўся. Маліўся шчыра, голы па пояс, у простых чорных партах, якія ледзь трымаліся на сьцёгнах. Крыж на яго грудзях запякаўся, сачыўся крывёй, і жог яго шалёна. Быццам бы яго грудзі працінала палаючая рука Бога. Быццам бы яго перст уваходзіў у яго цела.

Раптам ён пачуў яе ціхі голас:

- Каханы!

- Што, сонейка? Анёлачак мой. Ён нахінуўся да яе. Яна абняла яго за шыю. Ён лёг побач, і яна схавала твар у яго на грудзях. Яе мяккія вусны асьцярожна кранулі яго рану. Ён схаваў твар у яе валасах, ахапіў далонямі плечы.

- Табе балюча? – ціха прашаптала яна.

- Так, сонейка, - вымавіў ён, цалуючы яе. – Але ж гэта нічога. Гэта пройдзе. Яна ўздыхнула, прыціснулася да яго, і заснула. Ён жа яшчэ доўга ня спаў, гладзіў яе плечы, думаў. Памяць накрывала яго, сцэны, якія ён жадаў забыць. Заставалася толькі маліцца Богу - маліцца шчыра. – Чалавек ня можа бяз Бога, - падумаў ён. Ён толькі што ледзь не забіў яе, біў страшна, але ж нехта ўтрымаў яго руку. Бог заўсёды побач з намі, толькі мы яго ня бачым, ня чуем. Як хутка чалавек забываецца пра Бога ў сваёй апантанасьці і гардыні! Як гэта страшна, калі чалавек катуе чалавека. Калі сільны зьдзекваецца са слабога. Яна была слабой, і яна была сільней за яго. Перамагла яго, не варухнуўшы і пальцам. Ён спадзяўваўся, што яна прабачыць яго. Ва ўсялякім чыне, ён будзе маліць аб гэтым Госпада. Бо яму ня жыць безь яе. З гэтымі думкамі ён паснуў, адчуваючы на грудзях яе цёплае дыханьне. Бог прабачыў яго, ён яго прабачыў, білася ў яго скронях адна думка, пакуль ён сьціскаў у руках яе цела. Зь ёй нічога не адбудзецца, і раны загаяцца. А яе душа, як заўсёды, прабачыць яго. Прабачыць яго так, як прабачае Бог. З гэтымі думкамі ён, нарэшце, паснуў – мірна і спакойна.

- А чаго ён раз’юшыўся, цётка Ганна? – запытвала Альжбэта на хаду.

- Там у сеньках вядро, - булькнула Ганна, махнуўшы галавой. Летыцыя ж паўстала, і ціха, як белы тонкі цень, абышла стол. Падышла, і ахапіла яго галаву рукамі. Яе мяккія вусны пяшчотна кранулі яго лоб, пакрыты іспарынай.

- Ты гарыш, каханы, - прашаптала яна, гладзячы рукамі яго шчокі. – Цішэй, цішэй. Ня думай. Проста ня думай аб гэтым. Ты – тут, толькі тут. І ты – са мною. А я – з табою, любы мой. Яе вусны шапталі яшчэ нешта, словы нейкай малітвы, якую ніхто ня ведаў і ня чуў. І з гэтымі яе словамі ён супакойваўся і суцішваўся. Яго твар зрабіўся мяккім, спакойным, прыгожым і высакародным чалавечым тварам.

- А што ты стаіш тут, каханая? – раптам вымавіў ён. – Што здарылася? Чаго вы ўсе маўчыце? Ён зьдзіўлена агледзеў стол.

- Блядь, Мишаня! Напугал ты нас до усрачки! Мне до ветру трэба. Живот прихватило у меня! Выйти мне нужно! Выпусти! Па твары Фёдара было бачна, што ён не жартуе.

- Дык ідзі. Адхожае месца праз двор – направа ад пуні, і адразу будку убачыш. Ці цябе правадзіць?

- Не нужно!! Я сам! Сам найду! Господи, спаси и сохрани!!! Фёдар маланкай кінуўся ў дзьверы.

- Што гэта зь ім? – запытаў ён зьдзіўлена.

- Нічога. Абасраўся ад тваіх казак, - змрочна вымавіла Ганна. – Хоць бы штаны да нужніку данёс.

- Каханы, ён проста шмат выпіў. Ты не вінаваты. Летыцыя абняла яго. – Пайшлі спаць, любая. І сапраўды, позна ўжо. За паўночы пераваліла. Ён цяжка ўстаў.

- Я тут лягу, на лаве, - вымавіла Ганна. – Там кажух які вазьмі ля печы, - махнуў ён. – А Фёдару вунь – той пакой пакажаш, як прыйдзе. Я пайшоў. Пашлі, золатка. Ён ахінуў яе, і ў спальні зачыніліся дзьверы.

Паступова ўсе разьмесьціліся па сваіх кутах, і ў хаце наступіла цішыня.

А ноччу Фёдар прачнуўся, і ўбачыў, што ў яго на грудзях сядзіць мярцьвяк.

Стары мужык з доўгай сівой барадой скурчыўся на кукішках над ім, і злавесна пазіраў у яго твар. З доўгага языка капала сьліна, казьліная барада лезла Фёдару прама ў вочы. Ад жаху ён нема завыў, намагаючыся ськінуць пачвару. Біўся і выкручваўся, але ж ваўкалака не сыходзіў, учапіўся за яго, і поперак болтаўся, худы і доўгі, як жардзіна. Фёдар раптам страціў голас, і толькі хрыпеў, і вішчэў, нібыта ў жудасным сьне. І ў той момант, калі апошнія сілы пакінулі яго, і розум зусім адмовіўся змагацца з ахопліваючым яго вар'яцтвам, дзьверы расчыніліся, і яго асьляпіла электрычнае сьвятло.

- Што ты крычыш? Што здарылася? – пачуў ён знаёмы, да болю і да жаху, голас.

- Каханы, глядзі, а што гэта на ім? – раптам пачуўся голас пяшчотны, жаночы. І побач – таксама жаночы, але ж густы, басавіты.

- Палка нейкая на ім ляжыць. І кажух.

Міхась нахінуўся, і ўзьняў тое, што накрыла Фёдара, паглядзеў зьдзіўлена хвілінку, а потым пачаў рагатаць.

- Каза! Ды глядзі, якая спраўная. Як сапраўдная.

- Каза калядная, - патлумачыў ён. – Пудзіла. Галава на палцы. І кажух. Стаяла ў куце. І як ён яе ськінуў.

- У цябе толькі чорта лысага ў кутах не хапае. Ды і той ёсьць! Ганна злосна сплюнула. Два часы ночы! Цемра кругом! Яна павярнулася, і сышла, плюхнулася на лаву.

Ён зьняў зь Фёдара казу, і паставіў у вугал.

- Жывы? – запытаў.

- Жывы, Мишаня. Еле живой. Полечиться мне нужно. Сердце

колотится. Ты иди, а я посижу. У тебя там нет ничего больше? Чтобы заснуть.

– Пачакай. Зараз. Ён адкрыў шафу, дастаў вялікую цёмную бутэльчыну, і стакан. Фёдар прыпаў да яго, ляскаючы зубамі.

Хутка сьвятло ліхтара згасла, і на хаціну апусьціўся мірны, спакойны сон.

# Глава 25: Паданьні старога хутара

Яны сядзелі ў дваіх на ганку. Ён курыў, Фёдар, прыжмурыўшыся, аглядаў навакольле, ахапіўшы сябе рукамі. Яго відавочна калаціла, і на сьпіртное ён глядзеў з агідай. Ад стопкі за сьняданкам адмовіўся, як чорт ад ладана. У яго наступіла тое, што ён звычайна называў “завязка”. Праўда, гэтая завязка заўсёды потым разьвязвалася, але ж на тое яна і завязка – каб завязваць разьвязанае, каб яно потым разьвязвалася ізноў.

Збоч ад яго стаяла карчажка з вадой – лядзянай, з крыніцы за лугам, якая булькатала па маленькіх каменьчыках, захаваная ў зарасьлях зьверабою і чабору. Казалі, што там, дзе яна цяпер цякла, стаяў стары крыж – каменная баба. Каб народ не хадзіў да яго, і ня кланяўся, нейкі поп загадаў яго зьнішчыць – выцягнуць, і прынесьці ў царкву. Але ж толькі гэта зрабілі, у царкву ўдарыла маланка – прама ў самы крыж, які пачарнеў, як вугаль, і з таго часу утрымоўваў адбітак маланкі ў сярэдзіне. Усё згарэла ўшчэнт, акрамя крыжа, які потым таямніча зьнік, як яго і не было. Поп Васіль звар’яцеў, і пачаў піць, як шалёны, а потым у зімку замёрз пад плотам. А на месцы, дзе стаяў крыж-каменная баба, пачала біць зь зямлі крыніца. І такая ў ёй была смачная вада, гаючая, што народ здалёк да Міхасёва хутара прыходзіў. Хутар так і звалі – Міхасеў, бо стары Міхась, дзед яго, жыў тут ужо невядома, колькі часу. Ён і ў вайну ўжо быў немалады, а памёр ажно пры начале трэцьцяга тысячагоддзя. Мо, яму і з тысячу год было, хто яго ведае – усялякае шаптаў народ пра стары хутар. Розныя байкі хадзілі з вушэй у вушы, з вуснаў у вусны – чаго толькі не бывае на сьвеце, асабліва – у месцах такіх глухіх і таямнічых, старых, што і ня ведаеш, на тым яны ўжо сьвеце, ці яшчэ на гэтым.

Раніца была пахмурай, але ж цёплай. Густы туман сьцяліўся над логам, абвіваў зьмяінымі кольцамі плот, і зьнікаў, хаваўся ў лесе. Прыемна і духмяна пахла травой, сенам і смалой,

вазёрнай вільгацьцю, якую даносіў ласкавы вецер.

- Пэўна, да абеду нацягне дождж, - падумаў ён. – Хоць бы распагодзілася. Вульлі ж ня зробленыя, а ён бачыў у лесе на ліпе рой пчолаў. Злавіць бы яго, і пасадзіць у новую хацінку, каб быў свой, уласны мёд. Трэба аднавіць дзедаву пасеку. Многа што яшчэ зрабіць трэба. З'язжаць яму не хацелася. Тут, у хаціне, ён адчуваў сябе дома – быццам бы раптам знайшоў самога сябе. Ды і дзеда свайго ён прабачыў. Прабачыў ужо даўно, як апынулася. Пасьля таго, што перажыў, і нарабіў сам. Дзеду такое нават і ня сьнілася ў страшным сьне. Ён махнуў галавой, адганяючы ўспаміны, павёў плячыма, распраўляючы, раўняючы сьпіну.

- Ну, як табе? – запытаў Фёдара. – Блага?

- Плохо мне, Мишаня. Просто пиздец, - адказаў Фёдар шчыра. – Башка болит, сердце колотится. Вот, водичку твою пью – целебную. Ей и спасаюсь. Лечуся.

- Лячыся. Ён кіўнуў. – Гэта вада добрая, за ёй здалёк людзі прыходзяць. Я не забараняю, яны мяне не турбуюць. Там сьцяжынка да яе ідзе, праз лес. Але ж далёка ісьці трэба, ня ўсякі дойдзе. Да таго ж, ваду гэтую трэба браць апоўначы. Толькі тады ў ёй самая сіла. Днём жа яна сьпіць, адпачывае. Тут – усё наадварот, у гэтым месцы. Я калі сюды зьвярнуўся, то адразу зразумеў – гэта як да сучаснага сьпіной павярнуцца, і ў мінулае зазірнуць, якое цяпер – наперадзе.

- И далеко ты зашёл в прошлое, Мишаня? – запытаў Фёдар сур'ёзна.

- Ня ведаю. Мне здаецца, глыбока. Я дзеда свайго прайшоў, а што далей, яшчэ ня бачу. Толькі мінулае цяпер, Федзя, у мяне наперадзе. Як усё прайду, то кола зраблю, і ізноў у сучаснасьць выйду. Толькі вось дзе, і як – самому цікава.

Ён зацягнуўся цыгарэтай. Фёдар паліў з коўшыку на далонь, і абцёр твар.

Маленькі шэры каток скокнуў на ганак, і прыладзіўся ля яго

нагі. Пацёрся ласкава.

- А у тебя кот есть, Мишаня? – зьдзівіўся ён.

- Няма ў мяне ката. Ён зацягнуўся, прыжмурыўшыся, углядаючыся ў далечыню лесу.

- Как нет? А это кто? Фёдар зьдзічэла паглядзеў на яго, а потым паказаў на жывёлу.

- Гэта? Ён глянуў уніз, дзе ля Фёдаравай нагі ўладкавалася кацяня.

- Можа, за Ганнай прыцягнуўся. Дзе яна, там і каты. Яна і сама ня ведае, колькі іх у яе. Нейкае кацяня, можа, учапілася за ёй зь вёскі, а яна і не заўважыла. – Кіс-кіс, - вымавіў ён, асьцярожна накрываючы рукой жывёлу. Кацейка скурчыўся недаверліва, але ж потым выгнуў сьпіну, і лагодна замурчэў.

- Забяру яго, - вырашыў ён. – Хай яна гуляецца. Будзе яго няньчыць. Жанчынам патрэбна кагосьці песьціць, а я для яе надта вялікі.

Ён усьміхнуўся.

- Я – яе буду песьціць, а яна – ката.

- А ты не будеш ревновать, Мишаня? Фёдар усьміхнуўся таксама.

- К кату – ня буду, - сур’ёзна адказаў ён.

Яны памаўчалі.

Туман разышоўся, але ж неба зрабілася яшчэ больш пахмурым, шэрым.

- Слушай, а правда, что она – твоя дочка? – раптам запытаў Фёдар, павярнуўшыся. Яго твар выглядаў неяк жалка, разгублена. Валасы тырчэлі, пад вачыма былі кругі.

- Ты – хороший мужик, Мишаня. Слушай, я никому не скажу.

Только ты мне скажи – правда это?

- Што – праўда, Федзя? – ціха запытаў ён яго.

- Ну, всё, что я вчера услышал. Что ты сам вечером расказал. Про деда, про волков. И то, что она – твоя дочка. Раптам ён замаўчаў. Прагаварыўся, але ж ня трэба было. Цяпер ён шкадаваў аб гэтым.

- А хто табе сказаў, што яна – мая дачка? – ціха запытаў ён.

- Не помню, Мишаня. Фёдар пачаў выкручвацца. – Что-то я такое слышал, мне показалось. Слушай, ну, не важно это, честно.

Ён павярнуўся да яго, і сьціснуў яго руку сваёй. Ад яго дакрананьня Фёдар войкнуў – яго рука была нібыта жалезнай, ціснула яго кляшчамі.

- Слушай, ну, она сама мне сказала. Я, Миша, приставал к ней вчера, пока ты плавал. Каюсь, некрасиво получилось. Пьяный был, нёс всякое. Что ты старый, и всё такое. А она мне сказала, что ты – её отец. Это чтобы меня отшить, Мишаня? Правда? Это ж не так? Или – так всё-таки? Фёдар запытальна глядзеў на яго, сумнымі, напоўненымі жалем вачыма.

- Мишаня, ты её не ругай. Ты её прости. Я её напугал. Она такая стала … далёкая. У меня сразу член опал, обтух. Она точно меня отшить хотела. Ты прости, что я спросил, Мишаня. Пьяный я до сих пор, ничего не соображаю. Само вырвалось. Ты не обижайся. Подумаешь, разница, возраст. Ну она молодая, а ты – не совсем. И что? Вон, англосаксы и не такое выкидывают. Я помню, одна баба молодая с девяностолетним дедом поженилась. Я ещё охренел тогда. Анна Николь Смит. Сиськастая такая, я ещё фанател по ней. И ещё по Памелке. Ну, мы тогда все по ним фанатели, помнишь?

- Я – не, - адказаў ён коратка. Яны замаўчалі ізноў..

- Так простишь меня, Мишаня? – запытаў Фёдар шчыра, засмучана.

- Бог табе прабачыць, Федзя. Як і мне. Ён ізноў замаўчаў.

- Не фанацеў я, Мішаня, па Аньне Ніколь, і па Памэле, ніколі, - вымавіў ён задумліва. – Я па Венере Бацічэльлі фанацеў.

- Это такая безрукая? – Фёдар пазірнуў на яго.

- Амаль. Па той – таксама. Толькі тая высячаная, а гэтая – намаляваная. Яна з ракушкі выходзіць, ты, пэўна, бачыў.

- Из ракушки – это русалка! Фёдар задаволенна зарагатаў.

- Вот любишь ты русалок, Мишаня, правда. А ты знаешь, что-то в них есть. Колдовское. Они красивые, и – страшные. Я б такой бабы боялся, Миша. Всё время б боялся. Мне б казалось, что Мадонна на меня глядит. Вот прикинь, просыпаюсь я утром с будунила – а на меня икона смотрит ожившая. Или эта, твоя, с картины. Ботичелли. Да я б откинулся сразу. От стыда и горя. А Памелка – она ничего, нормальная. У неё сиськи как подушки – на одну лёг, второй накрылся. И – ничего. Живую бабу любить надо, Мишаня, а не бесплотную. Эфемерный идеал. И как тебе повезло, что ты такую встретил, удивляюсь.

- Я і сам дзіўлюся. Ён памаўчаў.

- Праўда гэта, Федзя, - раптам вымавіў ён, паварочваючыся да яго.

- Что – правда? Фёдар не зразумеў.

- Тое, што яна – мая дачка. Гэта праўда. Ты што, ня бачыш? Ці ў цябе вачэй няма?

Фёдар аслупянела глядзеў на яго.

- Как – правда, Мишаня? Ты что, свою дочку трахаешь, что ли?

- Трахаю.

- Родную дочку? Фёдар вытарапіўся на яго зьдзічэла.

- Родную. І ня толькі трахаю. Я яе кахаю больш за жыцьцё. Я за

яе заб’ю, Федзя. І цябе заб’ю – лёгка. А пра іньшых дык і не кажу наогул.

- Да ты шутишь, Мишаня. Ты так не шути. Фёдар, нарэшце, рассьмяяўся, і пакачаў галавой.

Не нужно меня убивать. И никого убивать не нужно. Ну у тебя и шутки. Ты вот и правда – чистый волк. Я помню, тётка эта, толстая, рассказывала, вчера. Я ж не весь мозг отпил.

- А толькі яго палову. Ён усьміхнуўся.

- А раскажи мне, Мишаня, про деда твоего. Сказки какие-нибудь, легенды. Мне вот вчера понравилось – прямо вечера на хуторе близ Диканьки. Ведь есть ещё что-то такое, таинственное, загадочное. Вот то, что ты – волк, правда? Оборотень. Ты знаешь, я чуть не обосрался вчера. Честно. Вот прямо тебе поверил.

- Праўда, Федзя. Ён зацягнуўся ізноў. – Прадзед мой, ня памятаю, у якім калене, конюхам у багатага пана быў. Ну, і закахаўся ў яго жонку. Ну, такое бывае – панна была прыгожая, як сон, з Італіі аднекуль. А ён – мясцовы, ліцьвін. Вялікі быў мужык, моцны. Наш род сюды з Прусіі прыйшоў, калі тэўтоны пачалі ціснуць. Ён ужо тут нарадзіўся, і бацька яго быў і сапраўды, крыве – жрэц. Мне гэта дзед усё распавёў. Ну дык вось, адбылося неяк так, што на піру пан гэты ўпіўся, ці што, і жонку гэтую сваім сябрам аддаў на забаву. Яны зь яе зьдзекваліся, як маглі – ледзь жывая засталася. А ён што мог зрабіць? Нічога. Толькі на наступны дзень паляваньне было, і там адбылося, што апынуліся пан гэты і прадзед мой у гушчары адны. Пан – на кані, са зброяй, а дзед быў пешшу. Адкуль у яго конь? Конь вялікіх грошаў каштуе. Каштаваў. І тут адбылося нешта такое, што потым дзед дзеду распавёў, а той дзед – наступнаму дзеду. Раптам конюх гэты чалавечы воблік згубіў, і ў пачвару перакінуўся. У ваўка. Проста сьцягнуў пана за нагу з каня, і разарваў на кавалкі. І каня прыдушыў, кроў усю выпусьціў – і з каня, і з пана. Гэта пан усё, паміраючы, распавёў. Шукалі гэтага конюха ў лясох, ды знайсьці не маглі. Так рукой і махнулі. А калі пана пахавалі, то ён сам з’явіўся. І адразу к паньне на двор. А яна багатая была, грошаў і сваіх, і пасьля

мужа засталося - шмат. Яна яго прыняла, і перад усімі сьведчыла, што не вінаваты ён, а пана жывёліна нейкая невядомая задрала. Казалі, зубр звар'яцеў, а хто казаў, што дзік. Такім чынам, зьнялі з гэтага конюха віну, і працягнуў ён паньне служыць. Яна яго потым да сябе наблізіла, зрабіла сваёй правай рукой. А сын іх ужо і шляхецтва пры Вітаўце атрымаў. Толькі яно яму на пользу не пайшло. Загінула праз яго яго жонка, а ён самагубствам жыцьцё сконьчыў – сам сябе ў пахавальным кастры спаліў. З таго часу гэты род стаў пракляты. А калі яго сын адпомсьціць вярнуўся, то гэта ўжо другая гісторыя была. У сына сына таго конюха былі дачка і сын, дачку ён у Італію выдаў, за нейкую далёкую радзіну, а сын тут застаўся. Жыў сабе ціха на хутары, землямі валодаў. Ад яго мой род і пайшоў, і зямля гэтая – мая ад веку. Тут, дзе хаціна, недалёк маёнтак стары быў, які пагарэў у д'яблаву ноч ад перуна, як і касьцёл стары. Пасьля таго, як касьцёл пагарэў, сын той да старой веры зьвярнуўся. А потым – час так абярнуўся, што і багацьце сышло, толькі вось, землі засталіся. Але ж усе гістарычныя буры неяк нас абыходзілі бокам. Мой дзед і пры саветах выжыў, хоць яго і раскулачылі, і ў Сібіры пабываў, але ж – зьвярнуўся, і потым партызанам дапамагаў, і ў палон трапіў, ледзь лягера пазьбег. Пашанцавала, што вайна скончылася. Ажаніўся ён на дзяўчыне, з Польшчы – сіраце. З-пад Беластоку аднекуль. Сюды яе прывёз, сталі жыць. А астатняе ты ўсё, Федзя, учора чуў. Так што даўно я жыву на сьвеце, можна сказаць і так. Праз дзядоў сваіх жыву. Праз сваю памяць.

- Ну ты и даёшь, Мишаня! Фёдар зьдзіўлена пакруціў галавой, палыпаў вачыма.

- Вось так вось. Ён кіўнуў у адказ.

- А пра тое, як ён зь д'яблам спазнаўся, калі яшчэ тым конюхам быў, ён сам табе раскажа. Як ён чорта ў сябе пусьціў, як жыда забіў і жыдоўку ў Гішпаніі за сябе ўзяў, як нарадзіў на сьвет божы антыхрыста – д'ябла-сатану, які царкву папаліў, і старую вядзьмарку зарэзаў, якая яго пракляла, тое ён табе ніколі не распавесьць. Ганна, пракашляўшыся, плюхнулася разам зь Фёдарам побач.

- Прачнулася? Ён павярнуўся да яе. – Як спалося, суседка?

- Спалося мне блага. А як у тваёй чортавай хаціне спацца можа? На той лаве, дзе труна твайго дзеда-нябожчыка стаяла. Ён мне ўсю ноч сьніўся, за нагу мяне цягнуў. Ганна сплюнула ў пыл. Кацейка, на якога трапіла яе сьліна, ускочыў, але ж убачыўшы яе, замурлыкаў, і скокнуў ёй на калені.

- Кыся-кыся-кыся. Ганна пачасала яго за вушкам вузлаватым пальцам памерам зь невялікую сардэльку.

- Дай сюды. Гэта цяпер мой кот. Ён асьцярожна ўзьняў кацяня пад лапы, пасадзіў сабе на сьцягно, і прыкрыў далоньню. – Маёй аднясу. Хай гуляецца.

- Што там яна, спіць? – запытала Ганна сварліва.

- Сьпіць, - кіўнуў ён. – Яна рана не ўстае.

- Бо ты ёй спаць не даеш. Ганна фыркнула. – Стары чорт.

Ён не пасьпеў нічога адказаць, як з хаты пачуліся крокі, і знаёмы голас:

- Каханы, ты тут? Сьняданак гатовы! Я ўчорашнюю бульбу пагрэла, і рыбу пасмажыла, што мы ўчора налавілі.

- Вой, вы ўсе тут. Яна выйшла на ганак, захінаючыся ў доўгую сарочку, на якую была накінута мяккая вязаная кофта.

- Я думала, што Ганна ўжо сышла. А Фёдар яшчэ сьпіць, - выбачылася яна, прыкрываючы грудзі рукой.

- Садись, красавица, кофейку попей, отдохни. Фёдар хлонуў па ганку далоньню. – Не спеши, есть что-то не хочется.

- Дзякуй, любая. Зараз, пакуру, і пойдзем. Ты рыбу будзеш? – ён павярнуўся да Ганны.

- Ня буду. Мне да хаты сьпяшацца трэба, - рашуча вымавіла яна. – Бялізна ўжо падсохла. Я зараз тачку да цябе прывязу.

- Давай, я табе рыбіну ўкручу ў пакет. Зьнясеш дамоў, там пасмажыш. А тое сядзіш на адной гародніне. І як цябе зь яе так

разьнесла?

- У мяне ўсяго шмат, мне людзі нясуць. Ганна фыркнула. – Я і табе яшчэ прынесьці магу. Давай тваю рыбіну, - нарэшце вымавіла яна. – Складай ў пакет. Я пакуль бялізну складу. Яна не цяжкая, данясу неяк. І з тачкай буду да абеду, калі Дзімку Бог пашле. З гэтымі словамі яна накіравалася да плоту, і пачала сьцягваць у кошык рызьзё, якое прасохла, і палохала сваім жудасна парэпаным выглядам, і вялікія бялюткія прасьціны, зацьвярдзеўшыя, нагадваючыя сьвежасадраную бярозавую кару.

Яна схадзіла ў хаціну, і прынесла тры вялікіх кубка з растварымай кавай – сябе, яму, і Фёдару. – Прабачце, машыны няма, - выбачылася.

- Нічога, - ён кіўнуў.

- Не жалееш ты моё сердце, красавица. Фёдар з асалодай прыгубіў кавы зь вялікага глінянага кубку.

- Маўчы ты. Алкаш. Раз у жыцьці пап’еш і растварымай. Ён пацягнуўся, устаючы.

- Можа, вам малака ўліць? – запытала яна заклапочана.

- Нет, спасибо, красавица. Ничего, это я так. Хороший кофе, ароматный. Фёдар, прыжмурыўшыся, пацягнуў з кубка гарачую чорную вадкасьць.

# Глава 26: Школа жыцьця

- Карацей, так. Калі ты сваю мужычку не ўтаймуеш, я яе сама ў розум прывяду. І размаўляць буду зь ёй ня я. Знайдуцца людзі, павер мне. Ты мяне ведаеш, я не жартую.

Катаржына стаяла рукі ў бакі. Агрыпіна злосна глядзела на яе, прама ў вочы.

- А што мая такога зрабіла? Ну, хлопца не падзялілі – тое бывае. Пасварыліся. А ўтаймаваць я яе не магу. Прайшлі тыя часы. Яна раптам махнула рукой, і яе твар са злоснага стаў сумным.

- Яна мяне ня слухае, што хоча, тое і робіць. У тваёй хоць бацька ёсьць, а наш як сышоў у дзяцінстве, дык і не паказваўся. Казаў – на поўнач паедзе, рабіць, грошы зарабляць, а апынулася – у суседні район. Да бабы нейкай, зь якой сьпіўся ушчэнт, і памёр, як сабака, пад плотам. А яна ўся ў яго. Я яе сама ледзь цярплю. Дурная нейкая, зь дзяцінства такой была.Дралася, як певень, у футбол ганяла з хлопцамі, па дрэвах лазіла. Потым, праўда, як падрасла, дык ужо ня стала з хлопцамі лётаць. А наадварот – за імі. Твая ціхая, паслухмяная. І што маёй такое ў галаву прыйшло, чаго яна да яе прычапілася? Хлопец гэты, будзь ён ня ладзен. А мая такая – яшчэ, помню, малая была – ляльку ў яе нейкую дзіця на плашчадцы схапіла. Дык яна кінулася – мамачкі. Аж вішчэла. Я яе схапіла, а яна крычыць, выдзіраецца, за руку мяне ўкусіла, як сабака. Ну, я ўзяла прут, адхадзіла яе. І што ты думаеш?

- Што? – запытала Катаржына. – Нічога. Агрыпіна паціснула плячыма. – Яна таго прута і не заўважыла. Вырвалася, і да таго дзіця ізноў. Я яе дамоў занесла, закрыла ў пакоі, дык яна як пачала выць, крычэць – проста мамачкі. Потым, праўда, змоўкла праз якую гадзіну. Ужо і суседзі запытвалі, што гэта. Я кажу – васьпітаніе. Ну, яны прывыкшыя ў мяне былі. Яна так з самага маленства крычэла, як нарадзілася. А твая ціхая, як анёлак. Не дзяўчынка – золата. І вучыцца добра.

- Магла б лепей. Катаржына падціснула вусны.

Пасьля размовы з Агрыпінай ёй было зразумела, што сама яна з гэтай бядой ня справіцца. Да таго ж, Летыцыя была і сапраўды дзіцём беспраблемным, ціхім, паслухмяным – можа, і надта. Ніколі нават голас не ўзвышала, калі плакала, то толькі ціхенька, а потым наогул хавацца пачала. Зь ёй праблемаў не было – не перашкаджала, была самастойнай. Сядзела, чытала кніжкі – усе запар, малявала нешта. І адну яе можна было пакінуць, і ў школу яна хадзіла ахвотна. Толькі вось калі з гэтай Вольгай сутыкнулася, праблемы пачаліся. Пакуль яны дзецьмі былі, неяк на гэта ніхто не зьвяртаў увагі – пасварыліся, памірыліся, і забыліся. Гулялі разам, бегалі, і ў хованкі, і ў мяч. Праўда, у мяч яна гуляць не любіла – баялася. Дзіва – баялася мяча! Ні лавіць, ні-ні. Стане, як стоўб, і стаіць. Ці ўцякае ад яго. Яна болей скочыць любіла, праз скакалку, у гумкі гэтыя, у бадмінтон гуляць. Ну, яна маленькая была, худзенькая. А потым як вырасла за лета, дык зусім станьчэла. Ростам з дарослую жанчыну, а сама – аж празрыстая. Ветрам хістае. Які тут мяч! Яна гуляць палюбіла, апранацца прыгожа – вось тое была забава, Катаржына ёй шмоткі прывозіла розныя, з Польшчы, адусюль. Самыя дарагія, самыя модныя. Апранала яе, як ляльку, касьметыка, парфюмы – усё у яе было. Бывала, выйдзе зь ёй, дык мужчыны галовы скручваюць – і на яе, і на дачку. Яна ж тады выглядала няблага. Яна і цяпер ня дрэнна выглядае, хоць ужо пяты дзясятак пайшоў – грошы справу робяць. А на Летыцыю дык наогул рты адкрывалі. Зьнешнасьць у яе была мадэльная, валасы – да попы, ручкі-ножкі танюткія, грудзей, праўда, няма, ну дык гэта яшчэ наперадзе. Здаецца, дзяўчо як дзяўчо. І вумная, і прыгожая, і выхаваная. Але ж толькі праблемы пачаліся. Можа, Катаржына была сама вінаватая – ня ўсе дзеці маглі сабе дазволіць так апранацца, і вучыліся так добра ня ўсе. І прыгожыя дзяўчаты былі не такія – куды ім. Ну, прывабных было шмат, але ж такіх прыгожых – ніводнай. Ад яе, Летыцыі, нібыта сьвятло ішло. Ціхае, як ад кветкі. Як ад званочка. У яе і вочы такія былі – як званочкі, ліловыя. Як навальнічнае неба. Ну, хлопцы яе ніколі ня крыўдзілі, з гэтым праблемаў не было. А вось дзяўчыты яе не любілі. Большасьць адносілася роўна, абыякава. Былі і такія, хто сябраваць намагаўся, але ж Катаржына гэтых сябровак

хутка адвадзіла. Галеча, што зь іх узяць. Ведае яна тое сяброўства, толькі будуць папрашайнічаць – дай апрануць тое, падзяліліся гэтым. Няма чаго і дамоў чужых таскаць. Выглядзяць, што ў хаце ёсьць, а там і да бяды недалёка. Ды вось бяда прыйшла нечакана – праз гэтага хлопца. І што ён ёй даўся. Зразумела ж было, што такому кабяліне сучка патрэбная, каб на яе залазіць. А ён чамусьці да яе кветачкі прычапіўся. Ну, пахадзіў вакол, зразумеў, што нічога яму не абломіцца, і да Вольгі гэтай сышоў. Але ж потым яе кінуў, ды яшчэ неяк нахабна, насьмяяўся. Праўда, да яе дачкі зьвярнуцца не рашыўся. Катаржына б яму ўсе валасы павыдрала, вочы б выцарапала. Толькі Вольга гэтая цяпер Летыцыю ненавідзець пачала. І ўсю сваю злосьць, упартасьць на яе абрынула. Здаецца, у яе цяпер толькі адна мэта была – сжыць тую са сьвету. Спачатку яна некалькі дзяўчат нацкавала, яны таксама на яе бок перайшлі, але ж потым спалохалі і адсталі. Навошта ім праблемы. Вольга ж гэтая сама была праблемай. Не сказаць, каб дурная, але ж не вучылася наогул, усё болей з хлопцамі таскалася. Ну і цяпер – гэта ж дадумацца трэба да такога, таблетак у сок насыпаць. Праўда, яна неяк выкруцілася, і яшчэ Летыцыю абвінавацiла. Нават і ў клініку паклалі. Катаржына толькі праз тыдзень яе вызваліць змагла – выкупіць. А тое праляжала б яна там невядома сколькі. У яе адразу дыягназаў нашлі – і шызафрэнію, і расстройства нейкае – дыссатыятыўнае, і дэпрэсію, і аўтызм. Чаго толькі не нашлі, яна па ўсім параметрам падыходзіла. Хоць студэнтам паказвай. Запугалі дзіцё сваімі тэстамі, яна наогул загаворвацца пачала, а потым зусім маўчаць стала. І пасьля шпіталю амаль ня размаўляла. Катаржына яе ў Турцыю звазіла, у самы дарагі гатэль, ўсё, што адкладвала, патраціла. Ну і гэты дапамог. Гэты. Катаржына сплюнула. Ён дачкой цікавіўся, толькі калі грошы даваў. Даваў, праўда, ня мала. Так, што і на дачку, і на Турцыю, і на новыя ралеты хапіла. Аднак болей – нічога. Нібыта не было ў яго гэтага дзіця. Ён тады калі прыйшоў, і зь ёй паразмаўляў, быццам бы з катушак з’ехаў. Яна яму прапаноўвала – хочаш, будзе да цябе прыходзіць. Прыязжаць. Ён пагадзіўся быў, ды хапіла яго на раз, а потым – ні-ні. Заняты, не яго гэта, у яго ўмоваў такіх няма. Ён лепей грошы дасі. Адкупіўся. А яна зусім у сабе замкнулася. - Дзе тата? – запытвае. – Чаму ён да нас не прыходзіць? Чаму ён мяне ня любіць?

- Таму, што дурань. Бальны, вар'ят, і памрэ скора. А табе няма чаго цікавіцца і да яго цягацца. Ты яму ня трэба. Ён ад цябе адкупіўся, і сказаў, што бачыць цябе не жадае. Катаржына памахала перад яе тварам пачкай даляраў. У цябе толькі маці ёсьць, запомні. І ўсё на гэтым. Цяпер жа Катаржына разумела, што ня справіцца. Не з усім можа справіцца жанчына, нават і такая загартаваная ў жыцьцёвых бойках, як яна. І таму яна набрала знаёмы нумар, як бы прыкра ёй не было яго чуць ізноў.

- Слухаю. Голас на тым канцы быў тым жа, але ж халодным, чужым.

- Слухаеш? Дзіцё ў цябе ёсьць, напомніць хачу. А ў яе – праблемы. Катаржына коратка вылажыла ўсё, што ведала. І пра Вольгу, і пра цкаваньне, і пра пагрозы. На тым канцы маўчалі.

- Яна ёй таблетак падсыпала – вось да чаго дайшло! – выкрыкнула Катаржына ў тэлефон.

- Зь ёй вучыцца? Разам? – гэта ўсё, што ён запытаў.

І адключыўся.

Наступным днём Вольга прыйшла ў школу ціхая-ціхая, нават незвычайна. Да Летыцыі не чаплялася, і наогул сядзела адна, неяк нярвова грызла ручку, ад усіх адбрэхвалася. А потым яе як падмянілі. У школу яна прыходзіла толькі адсядзець, пасьля заняткаў зьнікала кудысьці. Усіх сябровак сваіх кінула, акрамя Карыны, зьвязалася зь нейкімі байкерамі, перакрасілася ў белы, выгаліла скроні, татуіровак набіла. Дзяўчаты, яны ж, як сарокі цікаўныя, – да Карыны прыставалі, у чым справа. Тая доўга аднеквалася, крыўлялася, а потым распавяла, што Вольгу пасьля заняткаў да нейкага мужыка ў машыну ўкінулі. Твара яго яна ня бачыла, бо перагародка была, але ж голас чула. І гэты голас сказаў, што калі яна яшчэ раз да Летыцыі прычэпіцца, то зь ёй адбудзецца шмат прыемных рэчаў, такіх, што яна аб сьмерці сама маліць будзе. Пасьля гэтага яе адвезьлі некуды на трасу, распранулі, і голую выкінулі, а шмоткі – ззаду. Яна частку знайшла, а частку - не. Так напаўадзетая да гораду па кустах і дабіралася, і за гаражамі сядзела, пакуль не сьцямнее, а потым Карына ёй шмоткі вынесла, ніз, бо яна ў

адных панчохах і куртцы была. Ніхто ня ведаў, колькі ў гэтым усім праўды, але ж Вольга і сьціхла, і азьвярэла адначасова. Летыцыя ж, калі са шпіталю выйшла, паводзіла сябе, быццам бы нічога не адбылося. Толькі яшчэ цішэй стала, і зусім размаўляць перастала – прывітаньне, да пабачэньня, вось і ўсё. Потым яе Катаржына ў Турцыю зьвезла, а потым – у іньшую школу перавяла, беларускамоўную. Там ужо да яе ніхто не чапляўся, і яна спакойна давучылася. Толькі Алекс гэты з’явіўся, і ўсё ізноў кувыркам пайшло. А потым – нечаканасьць адбылася. Яна, як апынулася, з бацькай усе гэтыя гады сувязь падтрымлівала, і бывала ў яго некалькі разоў – хлусіла, што з сяброўкай на возера едзе, што са школай на экскурсію, ды час выбірала, калі Катаржына была ў раз’ездах, і праверыць не магла. А часам і наогул нічога не казала. Ён да яе прыязджаў, вазіў яе некуды, гуляў зь ёй – і ўсё цішком. Калі ж яна з гэтым Алексам пасварылася, то неяк сабрала рэчы, і з’ехала да яго. А ўсіх іх проста паставіла перад фактам. А потым зусім дзікая рэч здарылася. Ён зь ёй ажаніўся, і нават у царкве. Фаміліі ў іх былі розныя, і ніякіх ДНК тэстаў Катаржына не рабіла. А цяпер бы на іх ніхто наогул згоды б ня даў. Яна спачатку ня ведала, у якога такога мужыка яна жыве, а потым калі прыехала, думала, з катушак з’едзе. Ён яе сустрэў, як быццам бы і ня ведаў, пaздароваўся, як зь незнаёмай. Акцёр! Такога гульца б у Галівуд, вялікія б грошы зарабляў бы. А гэтая дурніца проста зь яе зьдзеквалася – казала, яны на выставе пазнаёміліся, бо ён вядомы скульптар, і яна наогул не разумее, пра што маці гаворыць. Які-такі бацька. Бацька ў яе адзін – Юзаф, і той яе кінуў. А Міхась – яе каханы, зь якім яна абвянчалася, і хоча пражыць усё жыцьцё ў міры і згодзе. Катаржына тады сама ледзь умом ня тронулася, на таблетках супакойваючых зь месяц сядзела. А потым – махнула рукой. Плюнула на іх. Ён на яе імя такую сумму перавёў, што яна б за ўсё жыцьцё не зарабіла. А потым Вадзік сустрэўся – сапраўдны мужык, дзелавы, гаспадарчы. Яна толькі зь ім жаночае шчасьце спазнала. Ён просты быў, не мудрагелісты, вясёлы, і кампаніі любіў, і пагуляць, і ў Турцыю з’езьдзіць. Праўда, за яе кошт, ну гэта нічога – яна можа сабе дазволіць. Працаваў ён, канешне. Круціўся. Гандляваў тым-сім, і ёй падсабляў. Карацей, махнула яна на непуцёвую дачку рукой.

Што атрымалася, тое атрымалася. Трэба жыць цяперашнім, а не мінулым. А будучае – хто яго ведае, ці яно наогул будзе, тое будучае, ці не.

# Глава 27: Праўда

- Ці ёсьць на сьвеце праўда, акрамя каханьня? - ціха запытвае яна яго.

Яна сядзіць, аголеная, у яго руках, і зеленаватае сьвятло падае палосамі з вокнаў. Лісьце на дрэвах разгарнулася неяк хутка - адна цёплая ноч, і гарачы сонечны дзень, і яно стрэліла моцна, буйнеючы. Пакой заценены, і ў ім стаіць паўзмрок. Яго вялікая рука гладзіць яе грудзі, пальцы лашчуць саскі, барвовыя на белай скуры ў паўцемры.

Ён лёгка закрывае яе грудзі далоньню, ахопліваючы ледзь ня ўсю яе, зьдзіўляючыся пяшчоце яе скуры. - У жанчынаў такіх грудзей не бывае, - думае ён. Маленькіх, шаўкавістых, з пругкімі кропачкамі саскоў. Гэта і сапраўды грудзі Венеры, багіні, толькі што народжанай для яго ім самім, бо яна выйшла да яго з-пад кісьці яго ўяўленьня. Раскрылася перад ім дзівоснай ракавінай, у якой зьзяе пярліна яе цнотаў - яе адвечная душа. Яе любоў да яго - свайго творцы, да якога яна цяпер прытулілася, народжаная з улоньня яго сэрца.

- Нічога няма, акрамя каханьня, любая, - ціха кажа ён, абдымаючы яе. - Нічога няма акрамя нас. Яго вусны кранаюць яе саскі, якія, разумее ён, дасканалыя. Цёмна-ружовыя на белай скуры, якая ўзьнімаецца дзьвума маленькімі мяккімі бугаркамі, лёгкімі хвалямі слізгаючы пад яго руку.

- Цалаваць твае сасочкі - такая асалода, - ціха кажа ён. Яго голас робіцца хрыплым ад ахапіўшай яго жарсьці. Ён прагна ўбірае яе грудзі, і яна стогне, закрываючы вочы, і тады яго рука апускаецца праміж яе сьцёгнаў, паглыбляючыся. Яна сьціскае яго руку нагамі, але ж ён рассоўвае яе, раскрывае, адкідваючы на сьпіну. Ён ня можа болей трымацца. Яго чэлес сутыкаецца зь яе ўлоньнем, сьлізгае па вільгаці, але ж яна шчыльная, і ён ня можа ўвайсьці ў яе, і тады раскрывае яе рукой. Яму ўжо ўсё роўна, ці хоча яго гэтае тонкае цела, бо яе хоча ён, і гэта цяпер галоўнае. Нарэшце ён здольвае прабіць перапону, усунуцца ў яе

на паўгалоўкі, націснуць, і вось ужо яго сьцёгны рухаюцца, і ён глыбока ўнутры, і яна ўскрыквае і закрывае вочы. - Я кахаю цябе, дзяўчынка мая, як я кахаю цябе, - шэпча ён горача, узьнімаючыся над ёю. Яе цела амаль хлапечае, вузкае - ідэальны гермафрадыт, німфа са стройнымі сьцёгнамі і ледзь бачнымі грудзямі - алебастравае на чорным супрацiў яго жывату, парослага густым воласам. Ён трахае яе, проста ірве плоцьцю, усаджвае ў яе свой хер, выходзіць і усаджвае поўнасьцю. Яго заводзіць гэты кантраст - мужчыны і дзіця, юнасьці і сталасьці, грубасьці і пяшчоты. Гэта не жанчына, не, гэта анёл, ён трахае анёла, ябе сваю бясплотную душу, усаджвае хер у свае мары. Яна тонкая і маленькая, яна - сьвятая, яна - прыгожая, якіх не бывае ў сьвеце. Гэта блюзьнерства - ірваць гэтае кволае цела, нібы шаўковы покрыў, агаляючы яе нервы, слёзы і боль, і піць яго вуснамі разам зь яе ўздыхамі. Ён бачыць, як наліваецца, чырванее яго плоць, як шчыльна і туга ахопліваюць яго яе губы, і яго галава кружыцца. Лісьце, неба і вецер. Навальніца. Дождж. Нябыт. Шэпты ў цемры.

- Каханая ... каханы... Акрамя каханьня няма праўды. Акрамя яе няма сьвету. Усё у ёй. І ўсё у ім.

- Слухай, Федзька, давай на возера сходзім. Апоўначы. Віхрасты Саўка глядзеў на яго загаворніцкі хітра. Яго зялёныя вузкія вочы зрабіліся проста шчылінамі, вусны раз’ехаліся, агаліўшы рэдкія зубы.

Яны сядзелі на ахапцы сена каля толькі што накіданай ськірды, і палуднавалі. Аднак палуднаваць прыйшлося неяк пазнавата – бо насамрэч за палову дню пераваліла ўжо добра. Хацелася дацёмна дарабіць працу, скідаць апошную застаўшуюся паласу, каб заўтра ехаць на далёкі луг – заліўны, дзе высілася густая таўстая трава. Якую яшчэ пакасіць трэба, а там – і багна, і карані нейкія – усяго хапае. Цяпер жа сонца ўжо хілілася на захад, неба цнатліва ружавела, як дзявочыя шчокі, і ўсталяваліся мяккая прахалода і ціхае, празрыстае паветра. Траву яны скасілі нават раней, чым планавалася, і цяпер распраўляліся з боханам хлеба з салам і агуркамі, запівая яго квасам.

- Звар’яцеў, шалёны?

Шыракаплечы высокі Федзька, ужо поўны Фёдар, якому толькі што стукнула васемнаццаць год, нават зь бялявай барадой, хоць і рэдкаватай, неадабральна паглядзеў на яго. - І што гэты малы вярзе? – падумалася яму.

Возера, якое знаходзілася побач, і за якім як раз і быў той самы заліўны луг, карысталася благой славай. Казалі, што ў начы ў ім бачаць русалак, якія сядзяць на камянях ля вады – вялікіх, як жораны, чэшуць валасы, ды сьпяваюць свае сумныя песьні. Вабяць да сябе, у ваду, якая толькі здаецца на паверхні чыстай і празрыстай, а ў глыбіні – суцэльная багна і ціна, якая засмокча ўраз, не пасьпееш і слова сказаць.

Вось гэтых русалак, пэўна, і хоча паглядзець Саўка, якому толькі споўнілася пятнаццаць год, і ён мастак глядзець, і вывіжоўваць усіх, хто хоць нейкім чынам адносіцца да жаночага полу ці яго нагадвае. Ён нават і за старой Ганнай назіраў, якая лахманы свае ў возеры мыла, калі правалілася па пояс у гразкую нізінку на полі. І што ён там выглядзеў? Федзька аж скалануўся ад агіды. Але ж Саўку было не ўтаймаваць.

- Пайшлі, Федзька. На русалак паглядзем. Як раз ноч хутка. Адпачнем надвячоркам, да зорак. А потым пакуль дойдзем, схаваемся – глядзіш, і сапраўды іх убачым. Я веру, што яны ёсьць, - горача зашаптаў ён. – Мне сон прысьніўся: што сядзіць красуня, якіх у сьвеце няма, на камяні ля вады, валасы свае доўгія чэша. А косы ў яе – у колер месяцовага сьвятла. І цела – белае, аж зьзяе. Пайшлі, а?

- Калі табе так цікава, то ты і ідзі. Федзька запракінуў рукі за галаву, і адкінуўся на стог за сьпіной. – А я не пайду. Я – хрышчоны, на мне крыж. Ня тое, што ты. Ты крыжа ня носіш. Піянер. А я нашу. Мне маці забараніла яго здымаць. Ні ў якім чыне, сказала, нельга. А тое нячыстая сіла адразу прычэпіцца, і – памінай, як звалі.

- Ну і дурань. Саўка сплюнуў у траву. Лоўка, так, што зьбіў пух зь дзьмухаўца насупраць.

- А я вось нічога не баюся. Я б пайшоў. Толькі дарогі ня ведаю. Тут жа балоты паўсюль. А ты кажаш, хадзіў. Сеткі ставіў у камышах. Ты ж абяцаў на луг правесьці. Ну што табе - правесьці на возера?

- Пайшлі, Федзька. Ну пайшлі. Ён працягваў канючыць, і Федзька махнуў рукой.

Да таго ж, выглядаць трусам у вачах малечы яму зусім не хацелася. Ды і самому раптам стала цікава. А можа, праўду пра тых русалак кажуць? Толькі з крыжом іх ня ўбачыць.

А што рабіць?

- Ладна, пойдзем, - вымавіў ён. – Адтуль як раз да луга недалёка. Там востраў ёсьць невялічкі, і брод ля берага. На ім схаваемся, перасядзім да раніцы. А раніцой пойдзем на той бок. На луг. Толькі крыж …

- А што табе той крыж? – зьдзівіўся Саўка.

- Ды перашкаджае ён. Ня ўбачыш зь ім нічога. Федзька пакачаў галавой.

- А ты яго выкінь. Утапі ў возеры, - раптам прапанаваў Саўка. – А маці скажаш, што згубіў. Абарвалася вяровачка. Яна пакрычыць, і забудзе. Дзе цяпер набудзеш той крыж? Болей такіх лавак няма. Табе ў камсамол трэба ўступаць, а не крыжы насіць. Я вось лётчыкам хачу быць, а на неба з крыжом не бяруць. Я ж ня старая бабка, якая пасьля сьмерці марыць узьляцець да Пана на калені. Я лятаць хачу па-сапраўднаму. Жывым.

- Добра. Дамовіліся. Федзька пацягнуўся. – Лажыся. Пасьпім, і пойдзем. Як раз у прыцемках. Праз хвіліну яны храпелі, а яшчэ праз гадзіну прачнуліся разам, нібыта іх хтосьці падштурхнуў. Вакол гучна сьпявалі цвыркуны, і духмяна пахла травамі. Неба стала сінявата-ліловым, з-за небасьхілу напаўзаў змрок. Яны ўзялі загадзя захопленыя косы, пакінулі граблі ля стогу, каб забраць на абратным шляху, і выдзьвінуліся ў падарожжа. Ішлі лугавой нізінай, у якой ужо згушчаўся туман. Ён віўся,

лашчыўся вакол ног, расступаўся бялюткім кіселём, круціўся ў кольцы-пасмы, то нагадваючы доўгую бараду, то дзявочыя вольныя косы. Нічога на шляху ім не замінала, і хутка яны дайшлі да возера, якое сталі абыходзіць па ледзь заўважнай сьцяжынцы ля берага ў густым іўніку. Сьцяжынка была цьвёрдай і высокай, і толькі некалькі разоў ныралa ў багну, але ж там былі ўкінутыя вялікія камяні, якія хтосьці, пэўна, нарачна прынёс, каб аблегчыць ход.

- Якая сьцяжына дзіўная! Колькі тут хадзіў, а яе ня бачыў. Не заўважаў! – дзівіўся Саўка.

- Ты шмат чаго яшчэ ня бачыў, шчанюк, - ласкава вымавіў Федзька, даючы яму лёккі штурханец. Саўка ішоў крыху перад ім, а Фёдар, высокі, нахінаючыся, крочыў ззаду, несучы на плячы косы і граблі, каб малой не зачапіўся імі, і не ўваліўся ў возера разам з усім скарбам. Цягні яго потым з балота. Хай ужо ідзе вольны. Так яны прайшлі ўздоўж берагу, і сапраўды, збоч ад іх прама над вадой зьявіліся сосны. Фёдар спыніў яго, і зрабіў крок у бок. Хлюпаючы па вадзе па пояс, яны прабраліся на доўгую касу, якая даходзіла амаль да супрацьлеглага берагу. Насупраць пяшчанай касы, парослай хвоямі, узвышаліся вялікія, плоскія, як стол, камяні. На касе стаялі ля вады рэшткі нейкай пабудовы – нешта накшталт сарая з абваліўшымся худым дахам. У гэтай пабудове яны і вырашылі чакаць апоўначы, схаваўшыся ля праваліўшагася прарубленага вакну, ніжнія вянцы якога пагнілі, і яно болей нагадвала нізкія дзьверы з высокім парогам.

- Крыж! – раптам вымавіў Саўка. – Крыж здымі! Фёдар кіўнуў, зьняў снурок, і хацеў ужо была кінуць яго у возера, як раптам вяровачка зачапілася за кавалак дрэва, і крыж сасьлізнуў, зваліўшыся некуды пад ногі ў сьмецьце са шчапы і травы.

- Ну і пёс зь ім, - вымавіў Федзька. – Хай ляжыць тут. Яны ўладкаваліся ля вакну, і пачалі чакаць. Хутка сьцямнела, і на неба выкаціўся месяц, які халодным срэбрам заліў навакольле. У яго прызрачным сьвятле сілуэты здаваліся больш тонкімі, дасканалымі, прамаляванымі на цёмнай сіняве ночы. Вазёрныя хвалі плёскаліся, як ртуць, і на іх качаліся кубышкі. Хараство было такое, што нават і ў дзьвух дзеравенскіх хлапцоў захапіла

подых.

- Ноч якая … сьветлая, - ціха прашаптаў Саўка, але ж тут Фёдар нечакана піхануў яго локцем у бок. На камяні стаяла жанчына. Ці, дакладней, дзяўчына, маладая. Гэта было бачна нават здалёк. Яна была апранутая ў кароткую, да каленаў, ільняную кашулю, якая не хавала, а больш падкрэсьлівала яе тонкае стройнае цела. Чорныя валасы дзяўчыны былі доўгімі, ніжэй за сьцёгны. Яна ўзьняла рукі, расправіла іх, і нібыта плыла над возерам, сама нагадваючы танюткі белы крыж, ад якога Федзька толькі што пазбавіўся, каб пабачыць русалку. І гэта спрацавала, бо русалка, насамрэч, з’явілася. Але ж ці русалка гэта была? Саўка, між тым, ціха заскуліў, і сапраўды, як шчанюк, ад жаху.

Схаваў твар у далоні, але ж потым убраў іх, узьняў вочы, і зачаравана пазіраў у цемру. Дзяўчына між тым апусьціла рукі, і асьцярожна ступіла ў ваду. У белым месяцовым сьвятле Фёдара ўразіла яе далікатнае, дасканалае цела, абазначыўшаеся пад намоклым адзеньнем, якое зрабілася амаль празрыстым – вузкая талія, стройныя сьцёгны, маленькія грудзі, якія шчыльна аблягла тканіна.

- Федзька, русалка, сапраўдная! – вымавіў Саўка ў жаху. – Вось раскажам, дык раскажам! Вось схадзілі, дык схадзілі! Ён учапіўся ў рэшткі шыбіны так, што пабялелі пальцы.

- Ніякая гэта не русалка, - рашуча вымавіў Фёдар, і раптам шырока ўсьміхнуўся. – Дзеўка гэта. Пакупацца вырашыла, і думае, яе ніхто ня бачыць. Зараз праверу, якая яна … русалка. Тут ён усьміхнуўся драпежна.

- Сядзі, чакай, - кінуў. – А калі ўсё атрымаецца, то плыві да мяне. Саўка з жахам паглядзеў на яго. – Што атрымаецца? – запытаў ён. – Тое. Калі яна зьбегчы ня здолее. Убачыш. Фёдар асьцярожна высьлізнуў з хаціны праз вакно, прабраўся да берагу, нырнуў, і паплыў пад вадой.

А потым адбылося нешта, што Саўка запомніў на ўсё жыцьцё.

Калі Фёдар усплыў побач зь дзяўчынай, і абхапіў яе рукамі, яна

громка ўскрыкнула. Намагалася адштурхнуць яго, але ж куды там. Ён быў і вышэйшы, і, можа, ўдвая цяжэйшы, мацнейшы за яе. Пасьля нядоўгай барацьбы ён скруціў яе, заламаўшы рукі, падхапіў пад пахі і пацягнуў на бераг, дзе кінуў на чысты белы пясок ля самай вады. У сьвятле месяца яны працягвалі бароцца, ён – моўчкі, дзіка і страшна, яна – ускрыкваючы, голасам тонкім і слабым ад жаху. Саўка не разумеў, што адбываецца, а калі зразумеў, то раптам яму стала і жудасна, і прыкра, і плыць куды-небудзь нешта расхацелася зусім. На яго вачах адбываўся самы звычайны гвалт, і не над русалкай, а над нейкай мясцовай дзяўчынай, якая абавязкова аб усім распавесьць, і тады ім не мінуць бяды. Калі толькі … тут ён пахаладзеў. Гэтае возера, казалі, глыбокае – зусім бяз дну. І чаго варта згвалціць і патапіць тут гэтую прыгажуню. Нават калі яе і знайдуць, вырашаць, што вадзянік у каторы раз абраў сабе новую жонку, вось і ўсё.

Пакуль ён глядзеў, учапіўшыся ў раміну і калоцячыся зубамі, ня ведаючы, што яму рабіць, раптам убачыў, што бялюткі пясок быццам бы накрыў чорны цень. Вялікая хмара найшла на месяц, і далёка ў лесе пачуўся ваўчыны вой. А тое, што адбылося потым, ён, як не намагаўся, забыць ня мог. Гэта прасьледвала яго ў снах да самой сьмерці, і калі ён спрабаваў гаварыць пра гэта, яго язык блытаўся, і рука сама цягнулася да гарэлкі, якую ён стаў піць, як ненажерны, заліваючы балючыя ўспаміны.

Дзяўчына неяк здолела выкараскацца з-пад прыдавіўшага яе цяжкога мужчынскага цела, і закрычэла нема, здаўлена, так, што было чутна далёка над вадой. – Тата, татачка, - чуўся звонкі дзявочы голас. – Тата! Нібыта на яе крык, лес раптам адгукнуўся ветрам, зашапацелі дрэвы, месяц зьнік, а калі віхура ўлягласся, Саўка ўбачыў, як вялікі чорны цень, нагадваючы мужчынскую постаць, лёгка схапіў Фёдара рукой за плячо, уськінуў угару, прыцягнуў да сябе, і далёка адкінуў ў ваду цела, зь якога фантанам забіла кроў. Галавы ў цела не было, і яно было разарванае на паловы. Разваліласся, як ад удару вялікага ляза. Выпушчаныя вантробы боўталіся, і плылі па вадзе, як жудасныя водарасьці. Забурліла, завіравала вакол, і з жахам Саўка ўбачыў, як адусюль да цела пацягнуліся вялікія, таўстыя вужы. Яны ірвалі мяса, утыкаючыся ў яго галовамі, плёскаліся, і

білі хвастамі. Хутка тое, што засталося, з шыпеньнем апусьцілася на дно, праглынутае багнай. І тут цень узьняла галаву, і пазірнула прама Саўцы ў вочы. На яго праз ваду глядзеў вялікі чорнавалосы мужчына з густой чорнай барадой, шырокімі плячыма і тварам, які Саўка ня мог абазначыць, бо ён адначасова быў і жывёльным, і чалавечым. І страшным, і прыгожым, і жудасным. За руку мужчыны чаплялася тонкае дзяўчо, з мокрымі валасамі і ў празрыстай белай кашулі, мокрай наскрозь. Але ж цяпер яе цела не вабіла яго – яно выклікала ў ім жах – мокрае, белае, халоднае. Зьнямелы, Саўка зь цяжарам адарваў позірк ад страшных чырвона-жоўтых вачэй, ляскаючы зубамі. Неяк самі сабой на вум прыйшлі словы Ойча, якія ён мармытаў няспынна, пакуль варушыў сьмецьце рукамі, мацаючы падлогу, шукаючы на ёй нешта, што раптам быццам бы само прыгнула яму ў руку. Срэбны зьзяючы крыж заблішчэў пад месяцам, і Саўка дрыжачымі рукамі апрануў яго на шыю. А калі ўзьняў твар, то на беразе нікога не было. Не было і Фёдара. І нават і сьлядоў барацьбы. Пэўна, усё гэта яму пабачылася, і Фёдар патануў у цемры, зачапіўшыся пад вадой за нейкі корч, а русалка і сапраўды была, ды толькі вось атрымала, што жадала – маладое мужчынскае цела, каб казытаць яго на дне, і нырнула назад, адправіўшыся да свайго бацькі-вадзяніка. Да самой раніцы Саўка чытаў, скурчыўшыся, Ойча, а зь першымі промнямі золку неяк выбраўся, і, сам ня памятаў як, па паказанай яму Фёдарам сьцяжынцы зьвярнуўся назад, на поле, дзе ўжо зьбіралі і вывозілі падсохлае зложанае імі сена. На пытаньне, дзе Федзька, нічога не адказаў, а толькі нема завыў, працягваючы сьціснуты ў кулаке крыж. На вачах у старшыні калгаснае брыгады і ўсіх, хто толькі быў на полі вакол. Народ анямеў ад такога нахабства, але ж Саўцы было ўсё роўна. Яму было ўсё роўна яшчэ каля месяца, на працягу якога ён кідаўся і выў, як шалёны, у адзіночнай палаце, адмаўляючыся ад ежы, за выключэньнем некалькіх скарынак хлебу і стакану вады ў дзень. Калі ж сузім страціў сілы ад голаду і вар’яцтва, то паснуў, спаў амаль тыдзень, а калі прачнуўся, то распавёў усё, як на духу. На возера адправілі нарад міліцыі, але ж нікога і нічога не нашлі, нават і рэшткаў – казалі ж, што возера гэта глыбокае – бяз дна. Запытвалі нават і старога Міхала на хутары побач, але ж ён нічога ў гэтую ноч ня бачыў, і ня чуў. Жыў ён ужо даўно адзін, жонка яго памёрла, а дзяцей яму не паслаў

Бог. Казалі, што ён чараўнік, і знаецца зь нячыстай сілай. І калі-некалі казалі таксама, што бачылі яго зь дзяўчынай, прыгожай, як сон, з доўгімі чорнымі косамі. Толькі адкуль яна ўзялася на хутары, ніхто ня ведаў. Пэўна, вызваліў яе чараўнік сваім чараўнічым каварствам з самога пекла, дзе пакутвала непрыкаяная душа маладой вядзьмаркі, ці то была русалка з багны, ці – анёл зь неба, хто ж яе ведае, адкуль чараўнік выклікаў на гэты сьвет сваю каханую, на небывалую прыгажосьць якой спакусіўся Фёдар. Так усё і засталося – і хутар, і чараўнік, і каханая яго жылі ў цішы і самоце, і ніхто іх не чапаў. Казалі, калі прыходзілі да яго, то чулі дзявочыя сьпевы недзе ў сьвятліцы, ці стройную бялюткую постаць бачылі гуляючай на лузе на золку і надвячоркам, калі яе белае адзеньне плыло над травой, як празрысты шаўкавісты туман.

- Якая дзівосная казка, каханы! – вымавіла яна, усьміхаючыся. – А можа, і ня казка, сонейка. Я цяпер і сам ня ведаю. Ён крэпка абняў яе, прытуляючы да сябе. – Навошта ты патапіў Фёдара? – запытала яна сумна.

- Таму, што ён мяне дастаў, - коратка адказаў ён. – Добра, што хоць спаць улёгся. Спадзяюся, не прачнецца да раніцы. А калі прачнецца, то на цягнік пасядзе, і з’едзе адсюль у Менск. Абрусам дарога! Ён сплюнуў пад ногі.

- Ён ня благі, каханы, толькі вось п’е шмат. Яна пакачала галавой.

- Ня ўмее ён піць, у гэтым яго бяда. Як вып’е, даставучы горш за цьвярозага. І як ён да мяне прыбіўся, дзіва. Нейкі крыж на мяне Пан усклаў у яго абліччы. І ня вілы той, ня грошаў я ўжо не жадаю. Прадам я яе, вілу гэту.

- Хай ён яе ў цябе назад выкупіць, - прапанавала яна. – Ай, выкупіць ён. Каб мне яго яшчэ карміць не прыйшлося самому на той віле. Зь яго ладам жыцьця – дагуляецца. Можа, і добра, што ён гэтую вілу мне падарыў, хоць нешта застанецца, калі ўсё прап’е. Ён махнуў рукой.

- А хочаш, пасядзіш са мной, паглядзім на сьвячу, любая? – прапанаваў ён. – Апоўначы дзьверы адкрываюцца – на той

сьвет. Хачу лёс Альжбэты пабачыць. Што ёй на раду напісанае. Бо ж дужа дзеўка прасіла, ды і, шчыра кажучы, мне яе шкада. Усё ж, мясцовая кабета, амаль радзіна, праўда, на такой вадзе, што і кіселя ня зварыш.

У паўцёмным пакоі яны паселі за вялікі стол, скалочаны з грубых дошак, адшліфаваных часам. Ён паставіў перад сабой таўстую, жаўтавата-белую сьвячу, зробленую з чыстага воску. Запаліў, і пакой запоўніў прыемны, мядовы пах. Прашаптаўшы нешта, ён сыпануў у полымя каліва травы, ад якой полымя ўспыхнула і апала, а палаючыя часьцінкі ўзьляцелі бліскучымі матылькамі, і аселі, патухаючы. Пах зрабіўся больш рэзкім, духмяным, а вакол узьвіўся лёгкі дымок.

Ёй цікава было, што за трава, але ж яна не запытвала.

- Чабор, любая, - патлумачыў ён, нібы пачуўшы яе думкі.

- Гэта трава чыстая, сьвятая, яна ад усялякага злу абараняе, каб ніхто з таго боку сюды не сунуўся. Гэта для цябе абарона, не для мяне. Мяне яны ведаюць, і не крануць. Ён сеў, шчапіўшы рукі, упёршыся ў іх барадой, і ўперыў позірк у гарашчую сьвячу. Полымя мірганула, і выцягнулася перад ім па струнцы, пераўтварыўшыся ў вузкую шчыліну, якая, нібыта лязо, рассякала рэальнасьць, робячы ў ёй праход. Што гэта праход, яна бачыла ўяве, нібыта дзьверы расчыніліся, павярнуўшыся бокам, і за дзьвярыма ён бачыў нешта, ці зь некім гаворыў, але ж бяз словаў, аднымі вачыма, якія зафіксаваліся, чорныя, глыбокія, на жаўтаватым полымі сьвячы. Ён глядзеў на яго, і адначасова пазіраў сам у сябе. Вакол было ціха, толькі воск патрэскваў. Яна глядзела на яго, а ён – на сьвячу. Яе сьвятло асьвятляла яго твар, робячы рысы нібыта выразанымі зь цёмнага дрэва. Яны выглядалі адвечнымі, такімі ж першапачатковымі, як і полымя, зь якога пачалося ўсё. Быццам бы гэты твар быў задоўга да таго, як усё пачалося, і чалавек з'явіўся на сьвет. Гэта быў твар Бога, зразумела яна. Бога старога, мудрага, і – Бога зямнога, тутэйшага, які быў такі ж блізкі гэтай зямлі, як і карані дрэваў, якія яе праціналі, і блізкі небу, як блізкія яму галіны, перакрэсьліваючыя і навальнічныя хмары, і чысты зьзяючы блакіт. Дрэву ўсё роўна, якое над ім

сабой, над вухам, знаёмы нізкі і густы голас, які лёгка перарэзаў і лаянку, і смуродны чараўнічы туман.

- Адсячы галаву, Ян, - спакойна вымавіў голас яго айца, і ён адчуў яго руку на сваім плячы. – Адсячы, і кінь у возера. Тое, што вужынае. Тое, што бяз дну.

Ён выхапіў з ножнаў палаш, і цела перад ім, неяк боўкнуўшы, асела на падлогу. Яно шарыла перад сабой рукамі, але ж ён хутка нахіліўся, і падабраў галаву, якая сама пакацілася яму пад ногі.

Ён разумеў, што марудзіць нельга. Абязьдзьвіжанае адсутнасьцю вачэй, кіруючыся нейкім нутраным чараўнічым зрокам, цела істоты ўсё ж ўпэўнена пасоўвалася да выхаду. На вуліцы ён ускочыў на каня, і ўдарыў яго плецьцю. Галава, якую ён трымаў у руцэ, курчыла грымасы і плявалася, сіпела і сьвісьцела, але ж сказаць нічога не магла. Калі б ён не адсек яе, зразумеў ён, то вядзьмарка хутка наслала бы на яго такія чары, што ён і сапраўды б апынуўся паміж зямлёй і небам. Як шалёны, ён гнаў каня па лясной дарозе, а істота шпарка бегла за ім ззаду. Конь, звар'яцелы ад жаху, ляцеў стралою, нават не адчуваючы пугі, напалоханы смуродам і плёхаючымі за ім гукамі. На беразе возера ён спыніўся, размахнуўся, і з усяго маху кінуў галаву, якая праляцела амаль да сярэдзіны, і гучна боўкнула ў ваду. Па вадзе пайшлі кругі, а цела за ім спынілася, і пачало круціца на месцы, як ашалелае. А потым адбылося нешта, ад чаго нават і ў яго застыла ў жылах кроў. Раптам зямля вакол яго разышлася, і на яго палыхнула самым сапраўдным пякельным вагнём. Чорная істота з рагамі выйшла зь вогненай пашчы, і безгаловая пачвара бухнулася перад ёй на калені. Нешта лямантуючы рукамі, яна пачала кланяцца, нібы білася адсутнічаючай галавой аб падлогу. – Зьбірайся, да гаспадара пойдзеш, пачуў ён металёвы, скрабушчы, бразгаючы голас, быццам бы жалеза біла аб жалеза ў бойцы, ці хтосьці расьпільваў нажыва тупой пілой паваленага рыцара.

Між волі ён узьняў руку, і зрабіў знак крыжу. Пякельнік, павярнуўшыся, зьмерыў яго позіркам, але ж нібыта не заўважыў. Узяў цела за руку, і павалок за сабой некуды, туды, дзе віравала полымя, якое перад ім расступалася дзьвума

радамі высокіх вогненых калёнаў. Раптам усё зьнікла, нібыта і не было. Не было ні цела перад ім, ні галавы ў яго руцэ. Конь ціха іржэў, узьнімаючы да яго пашчу. Надыходзіў вечар. Прыгожая румяная паласа афарбавала небасьхіл. Было сыравата, але ж зацішна. Нібы прачнуўшыся ад сну, ён ускочыў на каня, прышпорыў яго, і паскочыў да дому.

- Мы ўсе тут праклятыя, Ян. Не жывыя, і ня мёрцьвыя, паміж тым сьветам, і гэтым. Але ж ведаеш, мне тут падабаецца. Высокі худы ваяр зь белымі валасамі і сінімі вачыма спыніўся начышчаць панцыр, зь якім ужо гадзіну вошкаўся ля каміну, і паглядзеўся ў яго, нібы ў ярка адпаліраванае срэбнае люстэрка. У каміне гарэў чысты жывы агонь – ні копаці, ні сажы, ні паху – толькі тонкі прыемны водар смалістага дрэва. Ён паднёс да вуснаў вялікі кубак віна – з муранскага шклу, знойдзены ў бацькоўскай скарбніцы. Колькі ж багацьцяў утрымоўвае гэты замак, не магчыма і ўявіць! Тут хапіла б, каб напоўніць казну не аднаго каралеўства, - падумалася яму.

- Ведаеш, Ваіслаў, зрабіўшы адну справу, я думаў хутка вяртацца дамоў. У Фларэнцыю – там у мяне віла, дом вялікі, - патлумачыў ён.

- Але ж цяпер вось думаю, можа, яшчэ застацца. Ведаеш, толькі тут я цяпер адчуваю сябе дома. Быццам бы і нікога няма вакол, толькі гэты замак, і лес. І ўсе мы.

- А яно так і ёсьць, пан, - спакойна адказаў Ваіслаў. – Калі жадаеце, можна на паляваньне з’езьдзіць. На зубра, ці аленя. А можна і на дзіка.

- А на мядзьведзя? – запытаў ён. - Я, шчыра кажучы, жыўцом мядзьведзя ў лесе ня бачыў. І там, дзе я быў апошні час, гэта дужа рэдкая жывёла нават і ў зьвярынцы.

- Можна, пан. Можна на каго заўгодна. Тут зьвяроў шмат. Ваіслаў кіўнуў.

Ён працягнуў рукі да вагню, і зьдзіўлена глядзеў на іх. Калісьці мяккія і белыя, тут яны зрабіліся грубымі, цёмнымі, далоні былі

шурпатыя, пальцы – парэпаныя. Цяжкія залатыя пярсьцёнкі на іх і тое пачарнелі, і выглядалі цяпер пагрозна – не пярсьцёнкі, а зброя.

- А які цяпер час? – раптам запытаў ён.

- Цяжкі цяпер час. Ліхі, як і заўсёды. Адна вайна не пасьпела скончыцца, другая пачалася. З усходу цяпер пагражаюць. Рабуюць гарады, нішчаць мястэчкі.

Ваіслаў нахіліў галаву.

- Гэта значыць, дапамога ізноў патрэбная? – запытаў ён, узьнімаючы твар.

- Як і заўсёды, пане. Добры меч і моцная рука заўсёды і ўсюды патрэбныя. Ваіслаў кіўнуў.

- Ну дык застануся. Пагуляем, Ваіслаў?

- Пагуляем, пане. Стаміўся я ляжаць бяз дзела ў балоце. Ваіслаў, скончыўшы справу, устаў.

Раптам лёгкія, мяккія рукі ляглі яму на плечы. Ён дакрануўся да іх шчакой.

- Ян, цябе доўга не было. Цэлы дзень. Ты кудысьці езьдзіў? – Ядзьвіга абышла яго, і села на маленькі зэдлік ля яго ног. Ён пагладзіў яе мяккія косы, палажыў на плячо далонь.

- Езьдзіў, жонка. Апошнюю справу вырашыў. А цяпер можна і адпачываць. Цябе тут ня сумна, каханая?

- Ня сумна, любы. Хіба толькі крышачку, калі цябе няма побач. Яна павярнула да яго твар, чысты, прыгожы, зь вялікімі блакітнымі вачыма. У сьвеце каміну яе косы зьзялі, як чыстае расплаўленае золата. – Дзеці не даюць сумаваць, ты ж ведаеш.

Вітольд збройны пакой знайшоў, меч схапіў, і руку парэзаў, а Лукрэцыя яго спрабавала перавязаць – ад сарочкі рукаў адарвала. І як ніхто ня ўбачыў, куды яны схаваліся. Я загадала няньцы бізуноў даць.

- Ды яго ня ўгледзеш. Яму ўжо дзядзька патрэбны, сапраўдны ваяр. Вопытны. Каб біцца вучыў. Ваіслаў! – хацеў вымавіць ён, але ж у пакоі яны былі адны.

- А зь кім ты тут размаўляў, каханы? – запытала Ядзьвіга раптам, узьнімаючы на яго вочы. – Прабач, але ж калі я ўвайшла, тут нікога не было, акрамя цябе. Ці мне здаецца?

- Не было, анёл мой. Нікога тут не было. Я проста паснуў, і ў сьне размаўляў. Ён пагладзіў яе мяккі твар далоньню, і нахіліўся, дакранаючыся да яе губ вуснамі.

# Глава 32: Чараўнік

- Цётка Ганна, як жа гэта магло адбыцца? Я ж толькі вады папіла, … а цяпер – дзіця. Альжбэта вымавіла гэта громкім шэптам, з прыдыханьнем. Яе вусны былі напалову адкрытыя, вочы пазіралі на Ганну з сумясьсю захапленьня і жаху.

- А ты што думала? Гэта табе – жартачкі? Ганна кпліва глянула на яе, узьняўшы бровы. – Ён яшчэ і не такое можа. Вось, памятаю… Яна пацягнулася, салодка пазяхнула, нібы тое, што яна ўспомніла, рабіла ёй неймаверную асалоду. – Аднойчы дзеўка ішла, па ваду. А ён пры дарозе стаяў. Ці то ішоў аднекуль, ці яшчэ што. Хто яго, чараўніка ведае – чаго ён ходзіць, чаго выглядае. Думае сабе нешта, невядома што, і справы яго нікому не вядомыя. Ішоў, ды і ішоў сабе. Спыніўся, і стаіць. А тут – дзеўка. Сустрэлася зь ім вачыма, адвярнулся, і далей сабе пайшла. І толькі да дому дайшла – зразумела, што цяжарная. Мамкі мае, што тут адбылося! Лямант, крык. Бацькі пытаюць, калі, ды адкуль, а яна нічога растлумачыць ня можа. Раве дзіччу. Проста, кажа, пазірнула яму ў вочы, а вочы ў яго чорныя, як вуглі, так і паляць, і нібыта маланка мяне працінула. Так вось у вочы вайшла, і з-пад нізу выйшла. Вой-вой, якая бяда. Ганна пакачала галавой – спачувальна.

- Зацяжарыла дзеўка ад чараўнікова позірка. Ну, што рабіць. Знайшлі, канешне, хлопца, заручылі яе хутка – ледзь ня ў той жа дзень.

Альжбэта з жахам глядзела на яе, застыўшы, як скамянела.

- А што потым, цётка Ганна? – запытала яна громкім шэптам, нібы баючыся, каб чараўнік не пачуў.

- Потым? Нарадзіла. Ганна пацікнула плячыма.

- Каго?! – запытала Альжбэта з жахам зусім ужо неймаверным.

- Каго? Ну не чорта, ня бойся! Ганна раптам хлопнула яе па плячы, так, што Альжбэта вохнула.

- Дзіця, канешне. Толькі вось каго, хлопчыка, ці дзяўчынку, ня памятаю. Кагосьці нарадзіла. Пра гэта ўжо людзі нічога не казалі. А каго яна магла ад яго нарадзіць? Ён усё ж чалавек, хоць і воўк. Ды тады ён не перакінуўшыся быў. А вось калі б перакінуўся, і на яе пазірнуў, то нарадзіла б дзіця, парослае шэрсьцю. Такія выпадкі ўжо былі. Не ад яго, а ў старыя часы. У маім дзяцінстве казалі, жыў мужык, бабка мая яго ведала, увесь парослы поўсьцю. Як дзік шчаціньнем. Не густая поўсьць, такая калючая. І тырчыць, як у дзіка. То таму мужыку і мянушку далі – Дзікі. І дзіцям яго, і ўсім, хто ад яго пайшоў. Дзікія людзі. Яны, казалі, потым у лес сышлі. Бо ім там было зручнее. І дагэтуль можна ў лесе сустрэць дзікіх лясных людзей. Толькі іх баяцца ня трэба. Лусту хлеба на пень палажы, кажух надзень навыварат, пахіліся на чатыры бакі, і ідзі сабе далей, нібы нічога ня бачыўшы. Яны цябе ня тронуць. А вось яшчэ было … Ганна ўжо згубіла ніць размовы, яе ўнесла некуды далёка ва ўспаміны – аб тым, што было, ці адбывалася толькі ў казачным сьвеце яе ўяўленьня, тое не было вядома.

- Цётка Ганна, вы пра яго лепш раскажыце. Пра дзядзьку Міхала. Як ён чараўніком стаў? Мне тое дужа цікава.

Альжбэта пасунулася бліжэй да яе. Ганна набрала ў грудзі паветра.

- А што табе Міхал так цікавы? Спадабаўся? – раптам вымавіла яна, штурхаючы Альжбэту локцем у бок.

- Вой, цётка Ганна. Як ён можа спадабацца, - Альжбэта прыадкрыла ад зьдзіўленя рот. – Ён жа страшны!

Чорны, вялікі, як мядзьведзь. Яна ўздрыгнула. – Ён, пэўна, быка б мог паваліць. Ці карову на часткі разарваць. Я яго баюся. У яго рукі такія, як молат. Ён як па мяталу стукне, лягонечка, дык той адразу ў тонкі блін плюшчыць. Молатам гуляе, быццам бы той ня важыць нічога. Я сама неяк бачыла. Ён бацьку шкворань каваў – пагнула шкворань. Толькі пастукаў зьлёгку, і – усё.

Не, цётка Ганна, я б з такім мужыком бы ніколі ў пасьцель не лягла. Вы што! Вой, нават і ўявіць не магу. Альжбэта перадзёрнула плячыма. – Як уяўлю, што ён нахіляецца да мяне,

і вочы гэтыя яго чорныя блізка, і вусы з барадой, дык проста у пот кідае.

- У халодны, ці гарачы? – пацікавілася Ганна прафесыйным тонам.

- Ня ведаю … Альжбэта паціснула плячыма. – І … маланка, - раптам ціха вымавіла яна.

- Унізе? – пацікавілася Ганна.

- У самым нізе. Няўдобна сказаць, дзе. Быццам бы дух захоплівае. Альжбэта пакурчылася на стуле.

Ганна раптам зарагатала.

- А ты можа паспрабуй … у вочы яму паглядзець, - вымавіла яна, рассьмяяўшыся.

- Можа, спадабаецца табе?

- Не, што вы. Альжбэта рашуча пакруціла галавой. – А праўду кажуць, што дзед яго жонку забіў? – раптам вымавіла яна ціха-ціха.

Ганна падціснула вусны. – Людзі шмат чаго кажуць, ды ты не ўсяму вер, - вымавіла яна сувора.

- Міхал стары быў строгі, але ж меру ведаў, хоць і рука ў яго цяжкая была, тое праўда. Мог і лейцамі павучыць. Але ж каб забіць – тое не. Ніколі. Яна сама памёрла. Дзіця не змагла вынасіць. Ён яе лячыў, і ў горад вазіў, шмат чаго рабіў, ды ўсё бяз толку. Час прыйшоў ёй сыйсьці праз тое дзіця. Бо, адкрыю я табе таямніцу, так таму і быць. Ганна азірнулася, нібы іх мог нехта падслухаць.

- Дзяўчынку ад яго нарадзіць можна, а вось хлопца – нельга. Бо той маці ва ўлоньні забівае. Дужа яны, як бы табе сказаць, супрацьпрыродныя. Вось. Шмат чараўніцтва ў іх родзе было, і такога чорнага, што ты нават і ўявіць ня можаш. Вось так і павялося – звонку мужык як мужык, толькі дужы ды высокі, ды чорны, як воран, а ўнутры – істота такая, ці то чорт, ці то

мядзьведзь, ці то Д’ябал. Туды, куды ён ходзіць, чалавеку хадзіць не пад сілу. Ганна пакачала галавой. – Туды нават і чорт сунуцца баіцца. Гэтаму ж няма забароны ні на зямлі, ні на небе. Ён шмат чаго рабіць можа, толькі нічога яму не патрэбнае. Сядзіць вось сябе ў хаце, з дзеўкай сваёй забаўляецца, рыбу на возеры ловіць, па лесу ходзіць. Бывае, што зьнікае некуды. З’язжае, куды - хто яго ведае. Але ж заўсёды сюды вяртаецца.

- Цётка Ганна, а дзевачка гэтая – хто яна яму? – раптам запытала Альжбэта – асьцярожна, нібы баючыся закрануць балючыя ўспаміны.

- Я вось тут прыгледзелася, дык яна ж зусім маладая. Можна сказаць, як дзіця. І худзенькая такая, бледная. Хоць і прыгожая, тое праўда. І чаго я тады на яе падумала – пра той волас. А ён так раззлаваўся, вой мамачкі – аж жудасна! Як лічаце, ён яе пабіў? – Альжбэта са страхам глянула на Ганну. Тая надзьмулася.

- Пабіў. Адлупцаваў, да і ўсяго дзялоў. Нічога, задніца зажыве, навука будзе.

- А калі гэта – не яе волас? – шэптам запытала Альжбэта.

- Не яе, яе, якая розьніца. Ён такі чалавек. Калі ўжо раз’юшыўся, дык хавайцеся ўсе ў бульбу. А хто не схаваўся, той сам вінаваты. Потым, праўда, адыходзіць хутка. Ён – як порах, як успыхне, дык гарыць жарка, але ж – ня доўга. Ды выбухнуць можа, тое так.

- А яна – яго дачка? Ці так, сваячаніца якая? Можа, ўнучка?

- Жонка яна яму. Ганна з абурэньнем глянула на госьцю. – Стары чорт. Прывалок вядзьмарку з гораду. І вучыць яе, і ўсё. Нікому зь мясцовых не перадаў. Сказаў – дзяўчыну вучыць буду. І потым так навучыў, што і ажаніўся, і да сябе забраў. І як ён зь ёй сьпіць, там жа адны косткі, мяса няма зусім. Ты – дык куды як прыгажэйшая.

- А чаму ён яе навучыў, цётка Ганна? – запытала Альжбэта.

Голас яе дрыжэў.

- Як чаму. Чараваць. Чарцей клікаць. Зь Д’яблам справу мець. Вандраваць паміж сьветам тым, і сьветам гэтым. Хадзіць туды, куды людзям хадзіць ня трэба. А ўсё таму, што яна яго зь пекла вызваліла. Ганна прыкрыла вочы, нібы сыходзіла некуды. Здаецца, Альжбэту яна зусім ня бачыла.

- Слухай, пакуль я там. Пакуль выйшла. Я табе распавем, а калі зьвярнуся, то нічога памятаць ня буду. А ты ўсё запамінай, што я табе скажу. Бачна, трэба табе было гэта ведаць, калі час распавесьць прыйшоў.

Ганна закачалася ў траньсе, а потым загаварыла - глухім, замагільным голасам.

- Бачу, бачу стары курган – нячыстае месца. Хто да яго прыйдзе, душу сваю згубіць, бо там ход адчыняецца на той сьвет, да дзядоў. Там волат пахаваны, страшны ваяр, ваўкалак, што душу сваю Д’яблу прадаў. А прадаў ён яе за красуню, якую сустрэў, ды страціў. Запалала яго сэрца каханьнем, ды такім, што ня вытрымала яго зямля, і праваліўся ён аж да самага пеклу, дзе і сядзеў невядома колькі часу за свае грахі, якіх было столькі, што ад пачатку і да сконцу сусьвету ня выкупіць. Бо блюзьнерыў гэты волат на самога Бога, і хваліўся, што нічога і нікога не баіцца, і закон яму на зямлі ня пісан, бо ён – сам сабе закон, і што калісьці ён зь неба сышоў, і ад Бога-айца адмовіўся, і той яму нарок пакутваць на зямлі страшэнна. І вось гэты волат хадзіў па зямлі, і пакутваў, бо зямлі не належыў, а на неба яго не пускалі. А потым дзяўчыну сустрэў. Толькі чалавекам яна не была. Ня ведаю, ці анёл яна, ці зь пекла, дземаніца якая, але ж сустрэў ён яе дзіўным чынам. Там, дзе яго не павінна было быць, але ж ён туды трапіў. Горад віжу, усё гарыць. Людзі б’юцца. Вой, страшная бойка ідзе. Забіў ён тую дзяўчыну, - раптам вымавіла яна. – Згвалціў, і яна памёрла. І такая мука яго ахапіла страшэнная, што і сьвет яму стаў ня мілы. З той пары шукаў ён тую дзяўчыну аж тысячу год, і ўсе гэтыя гады ў Адхлані праваландаўся, і ішлі яны яму кожны год за стагоддзе. Але ж аднойчы, калі ён так боўтаўся паміж зямлёй і небам, ён агеньчык убачыў. Бо ж яго воля яе праз гады цягнула, і зь пеклу, і з раю, дзе б яна не была, туды, да яго. Ён

яе сваім жаданьнем у сьвет нарадзіў, і ўсё жыцьцё вёў, а потым да сябе прыцягнуў. Прыйшла яна на курганы. З хлопцам нейкім прыйшла. Той быў правадыром абраны, каб яе весьці, толькі яна сама тое ня ведала. Некалі яны з хлопцам гэтым разам біліся, і нарабілі шмат граху, і душы іх зьвязаныя сталі. І пакуль той хлопец грахі перад ім ня выкупіў, той яго не адпусьціў. Бо ж ён мае такую ўладу - адпускаць грахі. Альжбэта была адкрыла рот, але ж Ганна ўладана ўзняла руку, і яна замаўчала.

- Ну дык вось, прыйшоў час, і забраў ён тую дзяўчыну. І калі ён зь ёй з’яднаўся, то моц набыў незвычайную, нібы палова да яго прыстала, якой яму не хапала, каб ўзьняцца да самога Бога. Зь ёй яго чараўніцтва набыло надзвычайную моц, і сапраўды ён стаў уладаром і над жыцьцём, і над сьмерцю.

- А дзяўчына? Што стала зь ёй? Альжбэта забывался, што гаворка ідзе пра сапраўднага чалавека, жывога Міхася, і Летыцыю, якую яна толькі нядаўна бачыла наяве.

- А што зь ёй стане? Ён, калі зь ёй усе колы прайшоў, і грахі выкупіў, то адразу ў сусьвет вярнуўся, і новых нарабіў. Такі ўжо ён чалавек. А яна – пры ім, ці то дачка яго, ці жонка, ці – усё адразу. Вой, наробяць яны яшчэ справаў, чую. Раптам Ганна фыркнула, як лошадзь, захрапела, махнула галавой, і нібыта прачнулася, пазіраючы на Альжбэту.

- Чортава семя яго ў табе, - гучна вымавіла яна, ікнула, і замёрла, павесіўшы галаву на грудзі. Альжбэта ўстала, пяцячышыся, і з жазам выкацілася з праклятай хаціны вон.

# Глава 33: Вайна

Успаміны накрываюць яго, як халодная хваля. Яму фізічна не хапае паветра, цела халадзее, і душу ахоплівае жах. Гэтыя галасы і гукі не даюць яму паснуць. Яны ўрываюцца ў яго розум, уладныя, клічучыя за сабой. Няма нічога, што можа спыніць гэтыя галасы. Нічога іх ня можа суцішыць. Мінулае ахоплівае яго, замяшчаючы сабою сучаснае. І тады ён п'е. П'е страшна - каб забыцца, каб вырваць, адабраць у галасоў сваю душу.

У такія часы яму патрэбна яна. Яе прахалодная мяккая рука на яго ілбе, яе вусны, кранаючыя яго вусны, цяпло яе душы, і яе падтрымка. Яе адпушчэньне яго грахоў – а іх шмат, безьліч, і яны ірвуць, катуюць яго сэрца.

- Вайна – гэта дужа блага, сонейка, - кажа ён, гледзячы на яе. Яна сядзіць перад ім, і з жалем глядзіць на яго. Яе вочы вялікія і сьветлыя, як неба, працінутае праменямі сонца. Сьвятло гэтых вачэй разганяе хмары, і ён чапляецца позіркам за яе позірк, быццам бы тонучы – за працягнутую яму над вадой руку.

Яна такая прыгожая, такая чыстая. Яе цела тонкае і лёгкае, пяшчотнае, нагадваючае анёльскую постаць сярод калёнаў у мармуровай прахалодзе царквы. Ён бачыў разбураную царкву, і там назіраў анёла. Разьбітае выбухам цела застыла, малітоўна склаўшы рукі, і яму здалося, што па шчацэ з анёльскага вока бяжыць кроў. А яшчэ ён бачыў целы жывых анёлаў – жанчын, дзяцей. Яны ляжалі ціха ў рад, скурчыўшыяся ў апошняй сьмяротнай сутарзе, ці, наадварот, мякка і вольна, нібы паснуўшы пасьля цяжкога, поўнага выпрабаваньняў дню.

- Навошта, навошта, навошта? – білася ў яго скронях крыкам адчайнай птушкі, якая падае зь неба, падстрэленая, не разумеючы, за што яе пакараў Бог, якога яна ня ведае, бо яна ведае толькі неба, у якім хтосьці нябачны зьнянацку пераламіў ёй крыло. Спачатку ён халадзеў, і ішоў між целаў, як ува сьне, пераступаючы іх асьцярожна, каб не зьнявечыць паламаныя

рукі. Вось – жанчына, і яшчэ жанчына, а гэта – немаўля, і яшчэ дзіця, а гэта – хлапчук, падлетак, зусім юны. Не мужчына, але ж яго плечы ўжо шырокія, рукі і ногі моцныя, твару ня бачна – ён ляжыць ліцом уніз. Адзеньне на ім разарванае. Раптам ён спыняецца, нібы спатыкнуўшыся, і прыкрывае цела. Асьцярожна падымае скрываўленае адзеньне, і накідвае яго на сьпіну, прыкрыўшы сьцёгны. Жанчын ён не кранае – іх дужа шмат, аголеных, з раськінутымі нагамі, адрэзанымі грудзямі, разварочанымі вантробамі, і проста прыгожых жаночых целаў. Амаль чыстых, амаль жывых. Амаль. Перад тварам дзіця ён адводзіць твар, і з палёгкай бачыць целы бяз твараў наогул: яны не глядзяць на яго. Яны ня бачуць, ня чуюць, ня памятаюць. Найбольш страшныя целы цэлыя – яны громка крычаць яму, распавядаючы сваю жахлівую гісторыю. Яны сьведчаць. Яны – жывыя. Зараз яны паўстануць, і адправяцца ў сьлед за забойцай – каб прывесьці яго, каб прызваць да адказу памяці.

Раптам ён падае на калені, і пачынае выць. Дзіка, як зьвер, схапіўшыся за галаву рукамі. У яго голасе – нянавісьць, і боль, і адчай, і шалёнства, такое, што ён ня мае яму назвы. Ён – ужо не чалавек, разумее ён. Цяпер ён – дземан, суцэльная помста. Яго рукі прагнуць крыві. Яны прагнуць твару, які можна разьбіць кулаком, горла, якое можна пераламаць, скруціць, як ветку, прагнуць зброі, якая будзе страляць няспынна, да тых пор, пакуль ня скончацца патроны, і біць, пакуль ня скончацца ворагі. Гэтыя ворагі, яны, здаецца, усюды. Уся зямля чорная ад іх, як ад грачэй вясной. Яны – няспынныя, яны – нахабныя. Рагочучыя, упэўненыя ў сваім праве – праве забіваць тут іх жанчын і дзяцей, старых і юнакоў, мужчын, якія ніколі не трымалі ў руках зброі. Якія былі простымі жыхарамі простае зямлі, якую дзялілі па суседству з анклавамі тых, што цяпер абазначыў іх чужымі. Чужымі на сваёй зямлі, на якой яны нарадзіліся і вырасьлі. Але цяпер яна – ня іх. Бо яны – чорныя, нібы брудныя. У іх цёмныя валасы і вочы, і вера іх не такая – ня правільная вера. Яны ня вераць у добрага Бога, які загадвае іх забіваць. Выганяць іх са сваіх дамоў. Гвалціць іх жанчын і дзяцей, катаваць мужчын. Добры Бог чужынцаў вырашыў, што ім ня жыць на гэтай зямлі. Ім ня жыць наогул. Бо яны – не такія. Чужыя. Не падобныя. Ня людзі. Ён – такі ж, як яны. Як гэтыя цёмнавокія жанчыны з хвалістымі косамі ў колер ночы, якія

ляжаць ціхенька, нібы абняўшыся. На іх ня бачна ранаў, але ж ён ведае, што, калі перавярнуць іх, то і галавы ў іх амаль няма. Ён ужо бачыў, калі забіваюць так – калі шкадуюць патроны.

Ён шмат чаго бачыў. І цяпер яго вочы асьлеплі, выпаленыя чужым болем. Выпаленыя агнём нянавісьці, якая спустошвае яго душу. Ён не жадае ненавідзець, і ніколі не жадаў, але ж нянавісьць ліецца зь яго праз край. Помста, якой ён прагне, пераўтварае яго ў нешта, чаго ён сам жахаецца. Быццам бы тое, што глыбока спала, раптам выходзіць зь яго. А потым ён адчувае асалоду. І яго ўжо не палохаюць целы. Яны яго наогул не цікавяць. Рахунак поўны, і ў сэрцы болей не застаецца месца нянавісьці: яно перапоўнена ёй, і больш ужо ня ўмесьціць. Тая ж, што ўмесьцілася, сьціснулася ў няйтронную зорку, якая робіць сэрца непамерна цяжкім, такім, што чалавеку яго і ня вынесьці. Але ж ён выносіць. Ён стаў моцным. Ён так думаў, пакуль нешта не зламалася ў ім. Калі ён зразумеў, што чалавекам быць перастаў. Перастаў ён быць і жывым. Бо ж жывы ня здолеў бы вынесьці тое, што вынес ён. Ён жа ехаў “двухсотым” – дакументаў у яго не было. Ад вагону ішоў такі смурод, што ніхто яго і ня думаў правяраць. Даска была падпіленая – ён выбіў яе, і выйшаў вон. Ад яго пахла так, што і бамжы б пагрэбвалі, і таму яго ніхто не чапаў. Ён зьнік зь міру жывых - выйшаў зь міру мёрцьвых, але ж да жывых не прыйшоў. І яшчэ ён спазнаў аб сабе нешта – нешта страшное, няправільнае. Мёрцьвыя целы не палохалі яго. Мёрцьвыя жанчыны вабілі. Іх белая халодная плоць выглядала мармурам – даступнай, гладкай прахалодай. Яны выглядалі чыстымі, бясплотнымі, бо ачысьціліся ад сваіх жаданьняў. Ён мог разглядаць іх доўга, гадзінамі, лежачых на прамёрзлай зямлі. Таму ён і пайшоў вучыцца на скульптара – мармур яго вабіў. Цяпер жа было не да вучобы, але ж яму захацелася працаваць. Мармуровыя мадонны, жалобныя анёлы. Нібыта яго рука даставала іх зь нябыту – адну за другой, аднаго за другім. Сколькі перад ім стаяла твараў, столькі ён і жадаў ствараць. А твараў гэтых была безьліч, і прыходзілі ўсё новыя, і новыя. А потым яму пачалі сьніцца іньшыя. Іньшыя войны, іньшыя целы, усе розныя, і ўсе аднолькавыя ў сваёй мёрцьвай велічы. Бо мёрцьвыя – вялікія, разумеў ён. Яны стаяць значна вышэй за жывых. Мёрцьвым належыць сьвет. Іх значна, значна болей. І

яны гавораць, яны сьведчаць. Яны – памяць. Яны – Бог, - зразумеў ён. Тое, адкуль яны прыходзяць, і куды сыходзяць. Яго Бог – Бог мёрцьвых, памерлых, якім няма месца ў гэтым сьвеце, які, дзякуй гэтаму яго Богу, забіў яго, адправіўшы яго прамым ходам у нябыт – да Айца. З гэтым прыйшлі веды, а зь ведамі – яшчэ нешта. Штосьці вялікае, страшное. Яго каханьне, якое ён успомніў, бо памятаў яго ўсё жыцьцё, нават калі і ня помніў, не асэнсоўваў яго. Ён ведаў, што яму трэба яе шукаць, і ён яе знайшоў. І цяпер яна сядзіць, і глядзіць на яго, вачыма сумнымі і спакойнымі, на якіх выступаюць сьлёзы.

Ён налівае яшчэ стакан, і яшчэ. Ён хоча расказаць ёй, але ж – ня можа. Бо яму сорамна. Сорамна перад ёй, яе чысьцінёй, яе сьвятасьцю і нявіннасьцю ў яго вачах. – Сонейка, вайна – гэта блага. Гэта страшна, дужа страшна. Ніколі ня можа адбыцца вайна, ніколі ізноў. Я не дапушчу, я не дам, каб ты загінула. Не дазволю. Ён гаворыць яшчэ нешта, забываючыся ў гарачачным трызьненьні, ён ужо гаворыць сам з сабой, і нібыта ня бачыць яе, але ж калі яму здаецца, што яна паўстае, ён цяжка б’е рукой па сталу.

- Сядзі, - уладна вымаўляе ён, і яна спыняецца, і ізноў садзіцца. Яна хацела памыць посуд, прыбрацца, выцерці стол, які заліты віном, але ж ён не дае ёй руханцца зь месца: яна яму патрэбная тут, каб ён мог спаведацца ёй, каб яна сьведчыла да апошняга яго словы. У ёй – усё, усё жыцьцё, уся праўда, увесь сэнс існаваньня і яго, і сусьвету. Ён ужо ня ведае, хто яна, яна - яго душа, рандомная жанчына з тых, што застылі ў сьнезе яго памяці. Яна надперсанальная, узьнятая туды, адкуль ідзе сьнег. Тады таксама ішоў сьнег. Ён узьняў твар, і закрыў вочы, і сьняжынкі падалі яму на вейкі. Яны ня таялі – ён быў целам. Стаяў паміж целаў, і адчуваў адчайнае зь імі радство. Роднасьць мёрцьвага сярод мёрцьвых у сусьвеце адвечнасьці. І ізноў ён адчувае сябе жывым, і яму хочацца крычаць. Плакаць гарачымі, жывымі сьлязамі, каб яны растапілі замёрзлыя павейкі, крышталікі веек, спаяныя з застыўшай скурай, каб гэтыя мёрцьвыя вочы раскрыліся, і каб ён убачыў. Праз туман сьлёз і сьпірту ён бачыць яе. Ён ужо ледзь трымаецца седзючы, цяжка апіраецца на руку, яго валасы зблытаныя і мокрыя ад поту. Ён заўважае, як яна ўстае, як падыходзіць да яго. Ціха абдымае яго

галаву, прыціскаючы да сябе, і ён ахоплівае яе непаслухмянымі рукамі. Ён плача, плача і яна. Ён ня бачыць яе сьлёзаў, утыкаючыся тварам ёй у грудзі. Цяпер ён – яе дзіця. Ён слабы ў яе руках. Яна пяшчотна гладзіць яго плечы, кранае валасы вуснамі. Яна хістаецца, і ледзь трымаецца пад яго вагой, але ж яна – стойкая, і гібкая, як лаза. Яе рукі абвіваюцца вакол яго, і яна шэпча яму ласкавыя словы. Ён цягне яе да сябе на калені, і груба прыціскае. Яго кашуля разшпіленая, і цела мокрае і гарачае. Скараючыся яго рукам, яна кладзе галаву яму на плячо, і запракідвае твар, які ён накрывае вуснамі. Ад яго пахне віном, і яго рот кусае яе, губы драпежна прыціскаюцца да губаў. Яна ведае, што ён сябе ня памятае, што ён памятае толькі яе, і толькі яе бачыць і адчувае, хватаючыся за яе, як за анёла, захінаючага ўваход у нябыт, замінаючага яму правaліцца некуды, адкуль для жывой душы няма выйсьця.

- Пацалуй мяне пацалункам вуснаў сваіх, бо яны п’янейшыя за віно, і салодкія, як мёд. Як жыцьцё твае вусны для мяне, і ў іх – улада над сьмерцю. Ажыві мяне праз твае пацалункі, і спатоль голад душы маёй, і суціш яе смагу. Бо я не магу без цябе, як без паветра – цела, і як бяз Бога ня можа душа. Дух мой сьвяты, каханая. Ён прыціскаецца да яе, цалуе яе твар. Яго рука, цяжкая, лажыцца ёй на грудзі. Хістаючыся, ён узьнімаецца, крэпка трымаючы яе. Ён нясе яе некуды – нясе бясконца, ніколі ня скончваецца гэтае забыцьцё яе ў яго руках. Нарэшце ложак прымае іх целы, ён цяжка ўдаўлівае яе ў коўдру, накрываючы яе сабой. Яна ціха скараецца яму, абдымаючы, адчуваючы яго цяжкі подых, калі яго твар апускаецца ёй на шыю. Ён накрывае яе грудзі рукамі, убірае вуснамі, адчайна, нібыта хоча разарваць яе цела, быццам бы яна і сапраўды – як хлеб, якога ён прагне, голад, які ён ня можа спатоліць. Ён нічога ня кажа, і проста бярэ яе, рассоўваючы яе сьцёгны, моцнымі, глыбокімі штуршкамі, адчайна трымаючыся за яе, нібыта яе цела – усё, што ў яго засталося на зямлі. Яна стогне, аддаючы яму сваю жарсьць, сваю плоць, якая, яна разумее, патрэбная яму ня меней, чым яму патрэбная яго душа, бо цела і душа непадзельныя, як і непадзельныя цяпер яны - няма той моцы, што магла б адарваць яго ад яе, і вырваць яе зь яго абдымкаў, якія мацнейшыя за абдымкі сьмерці.

- Ізноў вайна, сонейка. Ізноў вайна, - ціха кажа ён, утыкаючыся ў яе плячо.

- Ізноў, каханы. Яна ціха гладзіць яго валасы, суцішаючы. – Яна ніколі ня скончваецца, - шэпча ён. – Будзь яна праклятая. Будзь яны ўсе праклятыя, хто распачынае, хто прагне гэтых забойстваў. Навошта, навошта, каханая?

- Пэўна, каб мы цанілі жыцьцё, любы, - ціха адказвае яна.

- Не, анёлачак, яна наогул не патрэбная. Нельга навучыцца цаніць жыцьцё праз вайну. Вайна абясцэньвае жыцьцё. Для яе яго кошт мізэрны. Нічога жыцьцё ня вартае, калі яго забіраюць так лёгка. Калі забіваюць. Жыцьцё вучыць цаніць толькі мір. Пад мірным небам разумееш, якая страшная вайна. Вось тут, як мы, калі я – з табою. Як страшна мне цябе згубіць, страціць гэты мір, прыгожы сон. Вось прачнуся – а я там, зімой у лесе. І неба такое халоднае. І мы зараз папаўзем, хаваючыся ў чорныя выбаіны снарадаў, прыкрываючыся целамі і вывярачанымі дрэвамі. Туды, дзе касьцёр, дзе – варта. Яны не чакаюць. Ведаеш, калі нож у зубах, паўзьці нязручна. Няўдобна нахіляць галаву. А потым – хутка, толькі трэба адразу, каб яны нічога не зразумелі, не пасьпелі … ён ізноў трызьніць, і яна абдымае яго галаву, цалуючы, просячы – цішэй, цішэй. Ён ціха кажа нешта, і цяпер засынае, і стогне, кідаецца ў сьне. Яна ціхенька ляжыць побач зь ім на ложку. Садзіцца і сядзіць, і ізноў лажыцца. Нарэшце, суцішваецца і ён. Тады яна лажыцца побач зь ім, і, нарэшце, засынае. Яны сьпяць крэпка, да самой раніцы, калі ён адкрывае вочы – каб нічога ня памятаць. Каб убачыць яе побач.

- Сонейка, ты прабач мяне. Я выпіў учора. Галава нешта баліць. Што гэта я так… яго голас разгублены, ён моршчыцца, нібы ад сонца, хоць на двары і пахмура.

- Як я так? Здаецца ж, толькі вось, стакан наліў, нешта стаміўся. Не зьбіраўся ж болей. Хіба ж так блага са стакану? Пэўна ж – не. Ён адкідваецца на падушку. – Прынясі ты мне папіць, калі ласка, - просіць. Яна перабіраецца праз яго, набірае ў гліняны кубак халоднай вады зь вядра. Ён прагна выпівае.

- Пра што я распавядаў, сонейка? – нягромка запытвае ён. – Пра

вайну, любы, - ціха адказвае яна, цалуючы яго грудзі. На іх, яна ведае, шнар – глыбокі, наўскось, пасярэдзіне, схаваны чорным воласам, перакрэсьліваючы цяглы. Ён шмат пра гэта ня кажа. Парэзалі, ды зашылі. Заадное і сэрца падправілі. Бо ж даўно было трэба. Затое цяпер – як новы. Усярэдзіне шнара ямка-умяцінка. Кулявы сьлед.

- Я ж – вязучы, - усьміхаецца ён, абдымаючы яе.

- Што ў нас сёньня, каханая? – Новы дзень, любы. Яна прыціскаецца да яго тварам, адчуваючы на сьпіне яго гарачую вялікую далонь.

# Глава 34: Люстэрка

Ён ужо ня памятае, дзе яго ўспаміны, а дзе - дзедавы. Дзе яго, а дзе - дзедава жыцьцё. Калі яны апынуліся ў гэтай хаце, і колькі яны тут, і дзе яны, наогул? Які цяпер час, які год, які век? Тут няма эляктрычнасьці, і ён жарка топіць печ, носіць ваду з крыніцы, ловіць у возеры рыбу. Ганна прыносіць яйкі, а Альжбэта - малако, астатняе ён пакупае на кірмашы ў мястэчку. Парэпаныя твары, кошыкі на зямлі, на драўляных прылаўках раскладзены нехітры гандаль. Але ж усё патрэбнае ёсьць, і нават добрае - якасьць яго ўражвае. Цяжкія стальныя нажніцы, тонкі адбелены лён і суворае палатно, ніткі прыемных, радуючых глаз колераў - брусьніц, чарніц, васількоў. Гарэху. І такая ж цёмная, ахрыста-земляная воўна, пэўна, фарбаваная лукавай шалупеньню. Пакрывалы, дываны - усё тканае. Тонкая баваўняная ткань - гэта фабрычнае, гэта з мануфактуры. Крыжыкі і іконкі - прадае манашка. Маладая, смутныя вочы ў зямлю, а ў вачах - адвечнасьць, сіняя, як чыстае неба. Ён бярэ ўсё, што трэба, і аддае грошы. Дастае са скуранога кашаля, і зусім не зьдзіўляецца, што ў руцэ яго цяжкія манеты, металёвыя рублі, якія прыемна абцяжарваюць далонь. Яна ціхенька ходзіць зь ім побач ад прылаўка да прылаўка, аглядае тавар вялікімі яркімі вачыма. Уздрыгвае вейкамі. На яе твары няма фарбы, ён чысты і прыгожы, і проста сьвеціцца, як лілея апоўначы, калышучаяся ў россыпі зораў. Яе постаць зграбная і высокая, і яна трымае яго за руку - даверліва. Яе далонька ў яго далоні, і ён асьцярожна сьціскае яе ў складках яе спадніцы. Яна нахіляецца да прылаўку, разглядаючы ўпрыгожваньні. Яе вабіць срэбны крыжык з устаўкамі з каляровага шклу. Ён запытвае цану - дзесяць. Ківае. Дастае кашэль, і сыпе манеты на далонь. Цяжка прыпячатвае іх аб дрэва, і манашка хрысьціцца, апускаючы вочы. Яе вусны ціха варушацца - Pater; і яна перабірае ружанец. Ён кладзе ёй руку на талію, мякка накіроўваючы ў бок. Яны сыходзяць, а ў сьлед ім ляціць шэпт. Чараўнік, чортава семя. Людзі разыходзяцца, калі яны йдуць да вазку. Чорны конь маша галавой. Іржэ. Яны садзяцца ў вазок. Ён цягне лейцы, і жывёла рухаецца звычна. Яна сядзіць на сене, аглядаючы лес. Лес праглынае іх, і гэта будзе шчэ доўга,

некалькі гадзінаў, пакуль за паваротам не мільгане хаціна. Нарэшце - высокі, нізка насунуты капялюш-дах. У хаце ён абдымае яе. Яна ўзьнімае рукі. Яе кашуля лажыцца на лаву, спадніца падае. Ён цалуе яе, коратка, прыціскаецца да яе грудзей вуснамі. Яна ўздыгвае - ён такі гарачы. - Вазьмі мяне! - ціха просіць яна. Яе вусны варушацца ня чутна - гавораць яго рукі. - Якая ж ты ў мяне прыгожая, сонейка. Дзяўчынка мая. Ён прыціскае да яе галаву, становячыся перад ёй на калені. Яна гладзіць яго валасы, і ён мякка цягне яе ўніз, на сябе. Яго чэлес цьвёрды, і стаіць, як сьвечка. Як вялікая сьвечка ў царкве, - думае яна. Апускаецца на яго, і ўздрыгвае ад жаданьня, болю і страху: ня ведаючы, чаго болей. Ён рухае яе рукамі.

- Аб чым я размаўляў учора, любая? - Ты гаварыў аб вайне, каханы.

Ён качае галавой. Ён сядзіць голы на лаве, і яна - у яго на каленях. Яе валасы ляжаць у яго на сьцёгнах - доўгая, чорная каса.

- Дарма я. Вайна - гэта блага, сонейка. Ён цалуе яе, абдымае, і яна слухае лес. Лес сьпявае ім песьні. Ёй хораша зь ім, спакойна.

- Тата, татачка ... шэпча яна яму.

- Дачушка... ён цалуе яе, саграваe рукамі.

Нешта там, у лесе, варожае, ведае яна. Яно старое, пагрознае. Дзікае і дзіўнае. Галасы, вочы, бароды, рукі цягнуцца праз цемру. Ён нібыта прачынаецца, узьнімае твар. Глядзіць у вакно, жмурыць вочы, угледваючыся ў змрок.

- Дзе мы з табой, каханая? - раптам запытвае яе.

- У лесе. У хаціне, любы. Яна глядзіць на яго. Ён пругка паўстае, апускаючы яе на падлогу.

- Крыжык. Надзень яго, - каротка кідае. Бярэ яе твар у рукі, і глядзіць на яе - пільна.

- Люстэрка, каханая, - ціха кажа ён. - Там, у пакоі, за шафай.

Хапае яе за руку. Нехта грукае ў дзьверы, ірвецца ўнутр, ірве дах.

Ён вядзе яе за сабой. Яны ідуць. Йдуць доўга праз шкло. І далей. Далёка, яна ведае, дужа далёка. Праз прастору і час, у бясконцасьць. Ён разводзіць завесу рукой, і яна робіць крок за ім.

Яны стаяць перад старым вялікім люстэркам у залачонай раме.

- Старое ..., - ціха вымаўляе яна.

- Дужа старое. Яму пяцьсот год. Гэта віла маіх продкаў. Тут усё старое. Ён кранае яе валасы вуснамі. Яго рукі абдымаюць яе - надзейныя, моцныя рукі.

- Табе ня страшна, каханая? - запытвае ён яе.

- Не, я не баюся люстэркаў. Яна ўсьміхаецца мякка. Ціха ўсьміхаецца і ён, прытуляючы яе да сябе.

# Глава 35: Віла

Люстра перад ёй - вялікае, прыгожае, ад падлогі і на галаву вышэй за яе. Мутнаватае залацістае шкло адлюстроўвае ўсё крыху размыта, казачана. Цёплыя, залаціста-карычневыя цені лашчаць яе твар. Яны – як балотная вада, у якой ціха калышуцца гарлачыкі, калі яе асьвятляе сонца. Ёй хочацца працягнуць руку, і дакрануцца да іх. Палашчыць самое сябе – прыгожую, незямную. Тую, што адбіваецца ў дзівосным люстэрку памяці. Гэтае люстра памятае ўсё, разумее яна. У ім – усе яе жыцьці, усе вобразы. Яно ўбірае іх, і захоўвае, як скарбонка захоўвае каштоўныя рэчы. Колькі іх было? Нешта насоўваецца на яе, аграменнае, магутнае. Неабсяжнае, як мора.

Яна угледваецца ў глыбіню яго, ускрыквае, і захінае рукамі твар.

Яго рукі ціха абдымаюць яе ззаду. Яна ізноў глядзіць, і цяпер бачыць сябе, і яго. Ён абдымае яе вялікімі рукамі. Ёй так хараша зь ім, утульна, яго рукі пяшчотныя, грудзі – шырокія. Цёмныя валасы кранаюць яе шчаку.

- Каханы, - ціха кажа яна, - мы ізноў дома?

- Так, любая, - ківае ён. – Мы – дома.

- А хаціна? – ціха запытвае яна. – Хаціна – гэта мяжа, адказвае ён, - усьміхаючыся. – Зь яе ўсё пачынаецца.

- А чым усё заканчваецца, любы? – запытвае яна яго. Яна пытае, і баіцца пачуць адказ, які можа прагучэць, як прысуд, якога яна баіцца, і чакае.

- Мной, каханая, - ціха кажа ён, цалуючы яе. – І табой. Нашым з табой з’яднаньнем.

- Хто ты, любы? – кажа яна, і голас яе ўздрыгвае.

- Я – кароль, - адказвае ён, цалуючы яе. – А ты – мая каралева. А

гэтая віла – наш палац. Ён кранае вуснамі яе вочы, і плёнка зь іх падае, як залацістая ад часу завеса са старога парэпанага шклу.

Перад ёй – люстра. Старое, вялікае, крыху мутнаватае. У багатай венецыянскай раме, зьвітай з галінаў, лісьця і кветак невядомых расьлінаў.

- Гэтае люстра каштавала, як карабель, - усьміхаецца ён. Яна зьдзіўлена падымае на яго вочы.

- Твой род такі багаты? – запытвае яна.

- Так, мой род багаты. З даўніх часоў. І стары. Ніхто ня ведае, калі ён пачаўся. У ім спляліся дзьве галіны – адна зь Італіі, а другая – зь Ліцьвы. У Ліцьве цяпер ужо нікога няма – я быў апошні нашчадак гэтае галіны. А ў Італіі дрэва разраслося – глеба тут больш прыдатная для нашай крыві.

- Мне здаецца, што я цябе памятаю, - ціха кажа яна. – Мне не здаецца, адказвае ён, цалуючы яе. – Я гэта ведаю. Ведаю, што ты была са мной заўсёды.

Ён паварочваецца да яе, і яго вусны апускаюцца на яе вусны. Рукі сьціскаюць, ахопліваючы яе. Ён такі вялікі, і яго пацалунак драпежны, і подых цяжкі і гарачы, як у вялікага зьвяра. Яна ўздрыгвае, аддаючыся яму, прыціскаючыся да яго сваім тонкім целам. Гладзіць яго плечы рукамі, адчуваючы, як яго чэлес прыціскаецца да яе ўлоньня. У яе кружыцца галава, ад жаданьня яна ўздрыгвае, і ў скронях пульсуе кроў. Яна хоча яго, хоча яго так, што баіцца сама сябе. Проста б аддала яму ўсю сябе бяз рэштку.

**Сьвядомасьць ускользвае ад яе. Нічога, акрамя яе жарсьці, няма вакол. Толькі ён і яна, яго вусны, яго рукі, яго дыханьне.**